Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 36 (4580) 10 верасня 2010 г.

# У нумары:








# Сярод герояў «Палескай хронікі»

**5 верасня краіна адзначыла Дзень беларускага пісьменства. Сталіцай знакавага для Беларусі свята, якое ладзілася ўжо сямнаццаты раз, сёлета былі абраныя Хойнікі. Ды і невыпадкова: гэтая зямля вельмі багатая на таленты.**

Ужо з раніцы з усіх куткоў невялічкага, але вельмі прыгожага гарадка даносілася музыка; гараджане і госці Хойнікаў крочылі па вуліцах з усмешкамі на тварах, назіраючы за шматлікімі святочнымі мерапрыемствамі. У сталіцу свята прыехалі шмат паэтаў і пісьменнікаў з розных краін свету, афіцыйныя асобы рэспублікі, журналісты, мовазнаўцы, кнігавыдаўцы, дзеячы культуры і мастацтва, замежныя дэлегацыі ды звычайныя людзі, якія хацелі адчуць свята.

Трэба адзначыць, што сёлетняе свята адбылося пад духоўным “патранатам” генія Івана Мележа. Учарашні і сённяшні дні “Людзей на балоце” паўсталі перад гледачамі ў выглядзе гістарычнай тэатралізаванай кампазіцыі. На сцэну выйшаў “жывы” Іван Мележ і павітаў сваіх землякоў. Гэта было вельмі кранальна.

На цэнтральнай плошчы горада, дзе размясцілася галоўная сцэна, адбылося ўрачыстае адкрыццё свята. Старшыня арганізацыйнага камітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства, намеснік прэм’ер-міністра Рэспублікі Беларусь Уладзімір Патупчык зачытаў віншаванне Прэзідэнта краіны Аляксандра Лукашэнкі ўдзельнікам і гасцям Дня беларускага пісьменства. Пры гэтым падкрэсліў: “На працягу сямнаццаці гадоў свята праходзіць праз усю Беларусь. На сёлетнюю ўрачыстасць усіх нас да сябе гасцінна запрасіў старажытны Палескі край, зямля самабытных і працавітых людзей, сапраўдная скарбонка культурных каштоўнасцей і традыцый беларускага народа. Багатае шматгалоссе палескага жыцця не можа не закрануць сэрца кожнага, хто хоць раз завітаў у гэты цудоўны куток Беларусі. Хойніцкі край падараваў нам вялікага майстра слова, выдатнага беларускага пісьменніка Івана Мележа. Дзякуючы яго творам культурна-духоўнае багацце Палесся набыло асабліва яскравы каларыт.”

Старшыня Гомельскага выканаўчага камітэта Аляксандр Якабсон адзначыў: “Пісьмовае слова з’яўляецца сімвалам нацыі, падмуркам яе культуры. Таму наша задача як удзячных нашчадкаў і патрыётаў сваёй Айчыны — захаваць гэтую трывалую нітку, якая злучае часы, пакаленні і народы. Я лічу за гонар, што свята праходзіць ужо трэці раз на Гомельшчыне”.

На працягу ўсяго дня праходзілі святочныя мерапрыемствы: канцэрты, гульні на дзіцячай пляцоўцы ў парку, спартыўная праграма на гарадскім стадыёне. Прыгожыя рэчы, сувеніры з нацыянальным каларытам можна было набыць у горадзе майстроў. У розныя краіны паехалі вырабы з саломкі, дрэва, гліны. Паўсюль на вуліцах гучала родная беларуская мова.

Традыцыйна ладзіўся фестываль кнігі і прэсы, на якім былі прадстаўлены экспазіцыя “Кнігі Беларусі”, тэматычныя выставы, экспазіцыі прадпрыемстваў “Белсаюздрук”, вядучых рэспубліканскіх перыядычных выданняў і СМІ Гомельшчыны, прэзентацыі беларускіх выдавецтваў і новых кніг, сустрэчы з пісьменнікамі.

(Працяг на стар. 2)

## Пункцірам

• Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка абʼявіў падзяку 16 прадстаўнікам розных сфер. Сярод іх спецыяльныя карэспандэнты аддзела рэпарцёраў АТН Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Наталля Жаркевіч і Наталля Марцалева, каментатар дырэкцыі інфармацыйнага і грамадска-палітычнага вяшчання Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё НДТРК Алена Швайко.

• Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста РСФСР Валянціна Гафта з 75-годдзем.

• У галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі адкрылася выстаўка "Лепшыя кнігі Беларусі". У экспазіцыі прадстаўлены выданні, якія атрымалі ганаровыя дыпломы пераможцаў Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі-2010", а таксама кнігі-дыпламанты I, II, III ступеняў. Асобна адзначаны беларускія выданні — дыпламанты VII Міжнароднага конкурсу дзяржаў-удзельніц СНД. Выстаўка працуе да 30 верасня.

• 12 верасня ў межах святкавання Дня горада ў Мінску адбудзецца адкрыццё скульптурнай кампазіцыі "Раніца", прысвечанай вядомаму беларускаму жывапісцу першай паловы XIX стагоддзя Валенцію Ваньковічу. Бронзавы помнік, выкананы скульптарам Уладзімірам Слабодчыкавым і архітэктарам Барысам Казаковым, зʼявіцца на тэрыторыі Дома-музея Ваньковічаў.

• У выдавецтве "Тэхналогія" выйшаў зборнік артыкулаў па беларусістыцы і багаслоўі ў гонар 80-годдзя з дня нараджэння і 50-годдзя святарства айца Аляксандра Надсана "Сонца тваё не закоіцца, і месяц твой не схаваецца". Кніга, укладальнікам якой стала Ірына Дубянецкая, прысвечаная выдатнаму навуковаму, рэлігійнаму і грамадскаму дзеячу і змяшчае навуковыя даследаванні ў гуманітарных і багаслоўскіх дысцыплінах 100 аўтараў з 14 краін свету.

• У выставачнай зале галерэі "Ў" да 19 верасня можна пабачыць выставу "Карціна алеем", дзе дэманструюцца фатаграфія, відэа, інсталяцыя, арт-абʼекты, скульптура вядомых мастакоў і карціны маладых аўтараў па матывах гэтых твораў, напісаных алеем.

• Да 600-годдзя бітвы пад Грунвальдам выдавецтва Беларускага экзархата выдала навукова-папулярную кнігу Аляксандра Вялько і Міхаіла Марціновіча "Грунвальдская бітва". 80-старонкавае выданне багата ілюстраванае малюнкамі, рэканструкцыямі, мапамі і схемамі.

• Беларуская нядзельная школа імя Уладзіміра Караткевіча адкрываецца ў Таліне, ужо атрыманы дазвол міністэрства адукацыі Эстоніі на стварэнне ўстановы. Цяпер праводзіцца набор вучняў, якія цягам года будуць вывучаць беларускую мову, гісторыю і літаратуру.

• Урачыстасці, прысвечаныя 200-годдзю з дня нараджэння вядомага беларускага жывапісца XIX стагоддзя Івана Хруцкага, адбыліся ў Нацыянальным полацкім гісторыка-культурным музеі-запаведніку. Ускладанне кветак на магілу мастака, адкрыццё выставы, а таксама міжнародная навукова-практычная канферэнцыя сталі асноўнымі мерапрыемствамі ў гонар Івана Хруцкага.

Падрыхтавала Саша ДОРСКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# На хвалях сяброўства



Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі не ўпершыню праводзіць літаратурныя сустрэчы ў санаторыі "Сасновы бор", што знаходзіцца недалёка ад Радашковічаў. На гэты раз перад слухачамі (а гэта былі ў асноўным адпачываючыя з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Мурманска і іншых гарадоў Расіі) выступілі паэт Міхась Башлакоў, паэт, кампазітар і выканаўца Дзмітрый Пятровіч і празаік Наталля Касцючэнка.

Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, паэт Міхась Башлакоў чытаў свае вершы, а таксама вершы рускага паэта Юрыя Фатнева, як заўсёды эмацыянальна, страсна. Член Саюза пісьменнікаў Беларусі Дзмітрый Пятровіч не толькі піша вершы і апавесці, але і музыку. У яго ёсць нямала песень на вершы беларускіх паэтаў. На вечары ў выкананні аўтара гучалі песні на вершы Янкі Купалы, Міхася Башлакова, Міколы Шабовіча, Аляксандра Новіка, Тацяны Лейкі.

Рэдактар аддзела кнігавыдання РВУ "Літаратура і Мастацтва", намеснік старшыні Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Наталля Касцючэнка чытала вершы беларускіх паэтаў, расказала пра літаратурна-мастацкія выданні "Нёман", "Полымя", "Маладосць", "ЛіМ", а таксама пра свае творчыя планы.

Міхась СТУПАКОЎ

На здымку: М. Башлакоў падчас выступлення, справа — Д. Пятровіч.

Фота Кастуся Дробава

# Сярод герояў «Палескай хронікі»

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Вядома, Хойнікі рыхтаваліся да свята не адзін месяц. Чысцюткі і абноўлены гарадок прадстаў ва ўсёй красе.

Выдатны падарунак падрыхтавалі будаўнікі — правялі рэканструкцыю колішняга магазіна пад Дом абрадаў.

Адметнай падзеяй Хойнікаў падчас свята стала адкрыццё комплексу "Сядзібны дом". Да нядаўняга часу тут размяшчайся аддзел адукацыі райвыканкама. Сёння гэта сапраўдны помнік архітэктуры, у якім знаходзіцца краязнаўчы музей. Дата 1912 на галоўным фасадзе — відавочна, год, калі было завершана ўзвядзенне сядзібы, а літары АА на фасадзе і піломах узной брамы — скарочанае прозвішча і імя ўладальніка, памешчыка Андрэя Аўраамава. Помнік эклектычнай архітэктуры ўяўляе сабой двухпавярховы прамавугольны мураваны будынак, да якога прыбудавана вежа.

Аднак і гэта яшчэ не ўсё! Адразу пасля афіцыйнага адкрыцця свята прысутныя сабраліся каля самага каларытнага і адметнага помніка Хойнікшчыны — скульптурнай кампазіцыі "Па старонках твораў Івана Мележа". Упэўнены, што манумент, з дня яго адкрыцця, можа па праве лічыцца візітоўкай горада.

Аўтар помніка — скульптар Валерый Кандраценка. "Гэта даволі складаная праца, бо скульптурная кампазіцыя мае зборны вобраз, — прызнаўся ён. — Перад тым, як прыступіць да яе стварэння, перачытаў Івана Мележа".





Адкрываў помнік міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка. Ён падкрэсліў: "Дзень беларускага пісьменства — сапраўды важнае свята. Яно абʼяднала ўсіх тых, хто неабыякавы да роднага слова, да роднай культуры. Кожны народ стварыў хаця б адзін геніяльны твор. І гэтым творам зʼяўляецца мова. Як геніяльным зʼяўляецца слова, пачынаючы ад Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Біблії Францыска Скарыны... І зразумела, што да гэтага выбітнага слова належыць творчасць пісьменніка з вялікай літары Івана Мележа. "Палеская хроніка" — гэта наш нацыянальны твор, які належыць не толькі беларускаму народу, але і еўрапейскай культурнай спадчыне".

Багатая на таленты Хойнікшчына. Яе жыхары па-сапраўднаму ганарацца сваёй гісторыяй. На сцэне неаднаразова праходзілі тэатралізаваныя пастаноўкі, галоўным героем якіх быў Іван Мележ, узгадваўся таленавіты празаік Барыс Сачанка, чуліся вершы ўраджэнца гэтай зямлі паэта Анатоля Грачанікава. Сваімі ўражаннямі ад свята падзяліўся і паэт Мікола Мятліцкі, які таксама родам з Хойнікшчыны:

— Сёлетні дзень пісьменства праходзіць на маёй радзіме. Тут я пачынаў першыя літаратурныя крокі, напісаў першыя вершы. Цяпер, вяртаючыся на гэтую зямлю, якая выпраўляла мяне ў вялікую літаратуру, я прывёз і сваё асабістае хваляванне, і сваю новую кнігу, якая выйшла ў серыі "Залатое пяро", і сваю вялікую ўдзячнасць землякам. Галоўны клопат свята — гэта знаёмства з палешукамі, якія выстаялі на ўскраі жахотнай Чарнобыльскай зоны, якія жывуць паўнакроўным духоўным жыццём. Я ўпэўнены, што вялікае натхненне адсюль прывязуць пісьменнікі і напішуць новыя творы…

На сцэне летняга амфітэатра ў гарадскім парку прайшла цырымонія ўзнагароджання пераможцаў Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі" і Рэспубліканскага конкурсу на лепшы твор у галіне паэзіі, прозы, драматургіі, літаратурнай крытыкі, публіцыстыкі, сатыры і гумару, песеннага жанру, дзіцячай літаратуры.

Як адзначыў паэт і пісьменнік, пераможца Рэспубліканскага конкурсу на лепшы твор года ў намінацыі "Дзіцячая літаратура" Мікола Чарняўскі, Дзень беларускага пісьменства — сапраўды нацыянальнае свята, бо без роднай мовы няма народа. "Хойнікі сталі для мяне літаратурным домам, бо тут я атрымаў статуэтку "Залаты Купідон" за кнігу "Сонечны кошык". І мая кніга такая ж светлая і сонечная, як сённяшні дзень, як усе людзі, якія тут прысутнічаюць", — дадаў пісьменнік.

Уладзімір ПАДАЛЯК

На здымках: старшыня аргкамітэта па падрыхтоўцы і правядзенні Дня беларускага пісьменства, намеснік прэмʼер-міністра краіны Уладзімір Патупчык адкрывае свята; першы намеснік міністра інфармацыі краіны Лілія Ананіч узнагароджвае пераможцаў Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі"; пісьменнік Мікола Чарняўскі — адзін з пераможцаў Рэспубліканскага конкурсу на лепшы твор года.

Фота Анатоля Дрыбаса і Юліі Ваўчок.

Калаж Віктара Калініна

## Прэміі

Аб прэміях Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2011 года ў галіне літаратуры, мастацтва, журналістыкі і аматарскай творчасці

З 1989 года, раз у два гады, да Свята працы — 1 Мая, прысуджаюцца прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. За гэты час лаўрэатамі сталі 3 прафесійныя калектывы і 20 аматарскіх калектываў мастацкай творчасці і 143 дзеячы культуры, мастацтва, журналісты.

У жніўні 2010 г. прынята рашэнне аб умовах прысуджэння прэмій 2011 года. Запланаваны:

а) пяць прэмій ў галіне літаратуры і мастацтва, у тым ліку:

за творы прозы, паэзіі і драматургіі — адна прэмія;

за музычныя творы, канцэртна-выканальніцкую дзейнасць — адна прэмія;

за работы ў галіне тэатральнага мастацтва і кінамастацтва — адна прэмія;

за творы жывапісу, скульптуры, графікі і прыкладнога мастацтва — адна прэмія;

за лепшы твор аб прафсаюзах (літаратурны, музычны, канцэртны, тэатральны, кінамастацкі, жывапісны, скульптурны і іншы) — адна прэмія;

б) адна прэмія за актыўную работу па развіцці народнага мастацтва і аматарскай творчасці працоўных (сярод кіраўнікоў прафсаюзных і ведамасных устаноў культуры);

в) адна прэмія за выдатныя дасягненні аматарскіх калектываў мастацкай творчасці;

г) адна прэмія ў галіне журналістыкі.

На саісканне прэміі ФПБ прымаюцца творы і работы апублікаваныя, публічна паказаныя ці выкананыя за апошнія чатыры гады, але не пазней чым за 6 месяцаў да ўстаноўленага тэрміну вылучэння на саісканне прэміі. Не могуць быць прадстаўлены работы, якія адначасова вылучаны на атрыманне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, міжнародных прэмій ці прэмій іншых дзяржаў, або якія ўжо атрымалі такія прэміі.

Колькасць саіскальнікаў на атрыманне прэміі ФПБ у складзе калектыву аўтараў не павінна перавышаць 4 чалавекі.

Вылучэнне работ і твораў на саісканне прэміі ФПБ праводзіцца на сходах працоўных калектываў прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, пасяджэннях прэзідыумаў раённых, абласных і рэспубліканскіх камітэтаў і абʼяднанняў прафсаюзаў, калегій, прэзідыумаў і сакратарыятаў праўленняў органаў культуры, творчых саюзаў, міністэрстваў і ведамстваў Рэспублікі Беларусь.

Пры гэтым улічваецца абавязковае членства ў прафсаюзе кандыдата і яго ўдзел у рабоце прафсаюзнай арганізацыі, выбарных органаў прафсаюзаў і мерапрыемствах, якія праводзяцца прафсаюзамі, і да т.п.

Памер прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2011 года будзе ўстаноўлены пры прыняцці рашэння аб іх прысуджэнні ў красавіку 2011 г.

Дакументы і матэрыялы па вылучэнні работ і твораў на саісканне прэміі ФПБ прымаюцца да 10 снежня 2010 г. Камісіяй па прэміях Федэрацыі прафсаюзаў (220126, г. Мінск, пр-т Пераможцаў, 21, пакой 915).

Тэлефон для даведак: 203-95-83.

Літ-абсягі

# Сучасны беларускі дэтэктыў — ад Сяргея Трахімёнка

Творы пісьменніка Сяргея Трахімёнка добра вядомыя не толькі ў Беларусі, але і за яе межамі. Пяру аўтара належаць больш за два дзясяткі вострасюжэтных раманаў. У гэтым годзе выйшлі яшчэ дзве новыя кнігі пісьменніка.



У выдавецтве "Мастацкая літаратура" пабачыла свет кніга Сяргея Трахімёнка "Расійскі трылер". У рамане — тры сюжэтныя лініі: эпоха бандытызму пасля грамадзянскай вайны і дзевяностыя гады дваццатага стагоддзя, а паміж імі — даволі спакойны перыяд, які ў савецкі час іранічна называлі перыядам застою. Чытач павінен сам выбраць, у які час ён хацеў бы жыць у Расіі…

Галоўны рэдактар выдавецтва "Мастацкая літаратура" Віктар Шніп адзначыў:

— У нашым выдавецтве выйшла ўжо тры кнігі Сяргея Трахімёнка. Адну з іх, "Сіндром выгарання", выдалі нават двойчы: у 2007 годзе — тыражом паўтары тысячы экзэмпляраў (за паўгода яна цалкам раскупілася), ў 2009-м, па просьбе чытачоў, мы яе перавыдалі. Дадатковы тыраж склаў яшчэ паўтары тысячы экзэмпляраў. Сёлета пабачыла свет яшчэ адна кніга гэтага таленавітага аўтара з серыі "Сучасны беларускі дэтэктыў". Сяргей Аляксандравіч стаў даволі папулярным пісьменнікам. Дэтэктывы, якія ён піша, трэба чытаць. Гэта сур'ёзная літаратура, якая застанецца папулярнай праз дзесяць і болей гадоў.

Варта адзначыць, што Сяргей Трахімёнак — пісьменнік і навуковец, доктар юрыдычных навук, прафесар, мае вопыт працы ў спецслужбах. Яго раманы сапраўды напісаны з веданнем справы. Дарэчы, другая кніга пісьменніка "Запіскі "чорнага" палкоўніка", якая выйшла ў РВУ "Літаратура і Мастацтва", якраз і расказвае пра дзейнасць спецслужбаў. "За ўсё творчае жыццё мне даволася напісаць толькі дзве кнігі на гэтую тэму, — прызнаўся сам аўтар. — "Запіскі "чорнага" палкоўніка" належыць да гэтага невялікага спісу".

Аўтар расказвае, хто такія "чорныя" палкоўнікі, чым яны займаліся у пасляваеннай Еўропе і які ўплыў аказалі на супрацоўнікаў разведкі і контрразведкі нашага часу. У цэнтры сюжэта — лёсы двух пакаленняў афіцэраў спецслужбаў, выпускнікоў Вышэйшых курсаў КДБ СССР у Мінску.

Раман інтрыгуе да такой ступені, што немагчыма адарвацца. Рэдактар кнігі Наталля Пархімовіч прызналася: "Некаторыя кавалкі тэксту даводзілася перачытваць па некалькі разоў, бо, захопленая аповедам, баялася, што не заўважу магчымыя памылкі". Намеснік дырэктара рэдакцыйна-выдавецкай установы "Літаратура і Мастацтва" Ала Корбут падкрэсліла: "Кнігі Сяргея Трахімёнка заўсёды чытаюцца на адным дыханні, невыпадкова карыстаюцца вялікай папулярнасцю ў чытачоў. Калі ў пісьменніка з'явяцца новыя творы, наша выдавецтва з задавальненнем іх выдасць".

Уладзімір ПАДАЛЯК

Фота Кастуся Дробава

З-пад пяра

На працягу трох дзён — 16-18 верасня — будуць праходзіць мерапрыемствы, прысвечаныя 100-годдзю Уладзіміра Корбана. На радзіме знакамітага байкапісца ў г. Барані, у аршанскай бібліятэцы, якая носіць яго імя, і ў Аршанскай цэнтральнай раённай бібліятэцы пройдуць сустрэчы чытачоў з супрацоўнікамі альманаха "Вожык". Плануецца таксама правядзенне вечарыны ў Бараньскім Палацы культуры, закладка алеі і адкрыццё памятнага знака ў гонар пісьменніка, гарадское тэатралізаванае свята на вуліцы Уладзіміра Корбана.

Павел СІДАРАЎ

Сёлета спаўняецца 20 гадоў з дня адкрыцця Музея беларускага кнігадрукавання ў Полацку — на радзіме Францыска Скарыны. У межах святкавання юбілею гэтымі днямі адбываецца навуковая канферэнцыя "Скарынаўскія чытанні". Да ўдзелу ў мерапрыемстве запрошаны тыя, хто стаяў ля вытокаў стварэння музея: навукоўцы, мастакі, пісьменнікі, былыя супрацоўнікі. Да канферэнцыі таксама адкрыта выстава "Ад старадрукаў да лаўрэатаў", на якой наведвальнікі могуць пабачыць найбольш каштоўныя падарункі, атрыманыя музеем. Сярод іх і "Псалтыр" XVII ст., перададзены настаяцелем стараверскай царквы ў Полацку Пятром Арловым, і полацкае выданне друкарні піяраў 1828 года, набытае для музея Андрэем Макаганам, палачанінам, які цяпер жыве ў Маскве. А таксама выданні — лаўрэаты нацыянальных і міжнародных конкурсаў, якія штогод перадаюцца ў Музей беларускага кнігадрукавання Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. І, вядома ж, кнігі з аўтографамі пісьменнікаў.

А. М.

Днём ведаў з сынам Якуба Коласа распачалі новы навучальны год вучні гімназіі № 5 і СШ № 98 г. Мінска. Мерапрыемства, арганізаванае музеем Якуба Коласа, праведзена ў парку імя М. Горкага, менавіта на тым месцы, дзе з 1927 па 1941 год жыў беларускі класік. Міхась Канстанцінавіч, прa якога славуты бацька 75 гадоў таму напісаў вядомую дзятве паэму "Міхасёвы прыгоды", блаславіў вучнёўскую моладзь і пачытаў некаторыя ўрыўкі з паэмы. Добрыя словы, цёплыя вершы гучалі таксама з вуснаў Міколы Мятліцкага, творы якога школьнікі ведаюць з праграмы. А вершы Уладзіміра Мазго, пакладзеныя на музыку, некаторымі настаўнікамі нават напяваліся. Завяршаў паэтычны блок творца Рагнед Малахоўскі. Вядомая беларуская казачніца Алена Масла як галоўны рэдактар "Бярозкі" прапанавала вучням дасылаць для часопіса свае творы.

Анатоль ТРАФІМЧЫК

Народны ансамбль народнай песні і музыкі "Случанскія святкі" вось ужо трыццаць гадоў паспяхова дзейнічае пры гарадскім Доме культуры моладзі. Сёлета калектыў са Слуцка разам са сваім пастаянным кіраўніком Сяргеем Пратасевічам удзельнічаў у чэмпіянаце па фальклоры "Еўра Фолк 2010", што праходзіў у балгарскім горадзе Несебр. Беларусы спаборнічалі з калегамі з Расіі, Польшчы, Ізраіля, Турцыі і інш. І паспяхова — атрымалі Гран-пры "Залаты Арфей" і залаты медаль чэмпіянату. Акрамя гэтага, случане прывезлі дыплом "Абсалютны чэмпіён Еўропы па фальклоры", дыплом лаўрэата фестывалю і дыплом у намінацыі "Адкрыццё".

Раіса МАРЧУК

Арт-лінія

# Вастраў цеплыні і прыгажосці

Калі надыходзіць восень, заўжды ёсць прычыны для смутку: мінаюць цёплыя летнія дзянёчкі, у прыродзе знікаюць яскравыя фарбы і водар кветак, а да бясконцых халадоў зусім недалёка. Напэўна, у такія хвіліны не хочацца проста так ступаць пад восеньскі дождж, падстаўляць сябе ветру — хочацца паспець захаваць у сэрцы апошні кавалачак светлага, пяшчотнага лета. Дзе ж, як не ў мастацтве, шукаць гэтае самае святло, якое ў любое надвор'е напоўніць душу харастволм і надзеяй на лепшае…

Выстаўка "З цеплынёй у восень", што адкрылася ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча і будзе праходзіць да 17 верасня, — гэта маленькі вострaў, дзе захавалася тое, што зараз так патрэбна кожнаму з нас — цеплыня і шчырасць. Карункі і габелены, роспіс па тканіне і вышыванкі, аплікацыі і біжутэрыя… Кожны экспанат — выдатны узор дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, і тут вы не знойдзеце ніводнай рэчы, зробленай паводле традыцыйных схем: усё тут арыгінальна, ва ўсім адчуваецца ўмелая рука майстрых — Веры Мурысёвай, Святланы Аляксеевай, Кацярыны Ламавой і многіх іншых.

Напэўна, складана назваць які-небудзь іншы від творчай дзейнасці, акрамя дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, што быў бы так цесна звязаны з паўсядзённым жыццём кожнага чалавека, асабліва жанчыны. Нават гісторыя ўзнікнення некаторых тэхнік па пляценні карункаў, па вышыўцы не зусім мастацкая і ўзнёслая. Вось, напрыклад, ірландскія карункі. Некалькі стагоддзяў таму, пасля небывалага неўраджаю ў Ірландыі, многія жанчыны, каб выратаваць сем'і ад голаду, вырашылі проста капіраваць узоры каралеўскіх карункаў і прыстасоўваць іх да больш танных і распаўсюджаных матэрыялаў. Хутка прыгожыя работы, якія былі нічым не горшыя за каралеўскія, пачалі вывозіцца па-за межы Ірландыі, а таленавітыя і кемлівыя дамы не толькі ўратавалі сваю краіну, зарабілі грошай, але і ўвайшлі ў гісторыю як вынаходніцы новай тэхнікі па пляценні ўзораў з нітак.

Вядома, сучасныя людзі зарабляюць грошы часцей за ўсё не карункамі і аплікацыямі, ды гэта і добра, бо, пагадзіцеся, нея брыдка класці ў кішэню тое, што павінна быць для душы. А вось пахваліцца перад сяброўкамі адмысловымі габеленамі, сурвэткамі, створаць асаблівы настрой у кватэры можа кожная гаспадыня.

Экспазіцыя "З цеплынёй у восень" — гэта сотні яркіх адценняў, цудоўных вышытых, вытканых кветак, якія здаюцца зусім жывымі і нават напаўняюць пакой тонкім водарам лета. Жоўта-зялёныя жырафы, намаляваныя на тканіне, Карл, які скраў у Клары каралі, вытанчаныя, нібы павуцінкі, мудрагелістыя сплецeнні нітак, бабіна лета ва ўсёй сваёй прыгажосці, рознакаляровыя дрэвы… Ці не варта захапіць з сабой у восеньска-зімовую слоту разам з парасонам і цёплым, утульным адзеннем кавалачак добрага настрою, каб стварыць свой уласны востраў цеплыні і прыгажосці?



Надзея ПЯКАРСКАЯ

Фота аўтара

Повязі

# Вернасць класічным традыцыям

У выставачнай зале краязнаўчага музея горада Баранавічы адкрылася выстаўка Школы акварэлі Сяргея Андрыякі. Сама школа — унікальная навучальная ўстанова з музейна-выставачным комплексам — была створана ў 1999 годзе ў Маскве, яе мастацкім кіраўніком стаў народны мастак Расіі, сапраўдны член Расійскай акадэміі мастацтваў Сяргей Андрыяка. Ён пазалетась прыязджаў са сваёй выстаўкай у Мінск, дзяліўся сваім унікальным метадам акварэльнага жывапісу.



Адзін з вядучых майстроў сучаснага акварэльнага жывапісу, ён прысвячае сваю творчасць Расіі: непаўторнай чароўнасці старых гарадоў, прыгажосці помнікаў рускага дойлідства, свету роднай прыроды. Мастак беражліва захоўвае і творча, з пазіцыі сённяшняга дня, развівае традыцыі майстроў класічнай шматпластавай акварэлі. На жаль, у XX стагоддзі гэтая тэхніка была амаль страчана, распаўсюдзілася акварэль у адзін-два пласты, якая ўспрымаецца хутчэй як графіка, а не жывапіс.

Як вядома, Сяргей Андрыяка распрацаваў арыгінальную методыку выкладання тэхнікі шматпластавай акварэлі для дзяцей і дарослых, калі мастак-педагог працуе адначасова з навучэнцамі над адным сюжэтам — ад накіду алоўкам да завяршальных мазкоў. Асабісты прыклад — гэта самы пераканаўчы і кароткі шлях навучання. Такая методыка дазваляе навучыць чалавека пісаць акварэллю незалежна ад яго першапачатковай абазнанасці. Майстру і яго вучням удаецца тонка перадаваць чароўнасць і пяшчоту кветак, радасць веснавога абуджэння прыроды, задуменнасць восені, магічны бляск снегу на сонцы, веліч і прыгажосць старых храмаў, стрыманасць і строгасць еўрапейскай архітэктуры.

У Школе акварэлі Сяргея Андрыякі склаўся блізкі па духу калектыў педагогаў, кожны з якіх — дасведчаны мастак, удзельнік разнастайных выставак і творчых праграм у Расіі і за мяжой. Адна з такіх праграм — пераcоўны выставачны праект "Майстар і вучань", ініцыятар якога — Сяргей Андрыяка. За сем гадоў існавання праекта выстаўкі школы з вялікім поспехам прайшлі ў 80 буйных гарадах Расійскай Федэрацыі.

У 2008 годзе пры падтрымцы ўрада Масквы распачалася рэгіянальная праграма перасоўных выставак па гарадах Беларусі. Жыхары Мінска, Брэста, Магілёва, Гомеля, Віцебска, Мазыра ўжо змаглі ацаніць талент і незвычайную працаздольнасць юных мастакоў і іх настаўніка. Цяпер на працягу верасня з перасоўнай выстаўкай "Майстар і вучань. Школа акварэлі Сяргея Андрыякі", дзе прадстаўлена каля 50 твораў самога майстра і каля 60 работ яго вучняў, знаёміцца грамадскасць Баранавічаў.

Вольга ЖЫГАР

На здымку: Сяргей Андрыяка "Рагожская плошча з храмам Сергія Радaнежскага".

# Дарога, якою ідуць усе

## 15 верасня — Дзень бібліятэк



Штогодняе прафесійнае свята — Дзень бібліятэк — упершыню адзначалася ў нашай краіне 15 верасня 2002 года. Гэта дата выбрана невыпадкова, яна супадае з днём нараджэння галоўнага кнігасховішча краіны — Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, заснаванай у 1922 годзе. Поспехі і дасягненні нашай бібліятэчнай сферы — відавочныя. Больш таго: сёння досыць актыўна абмяркоўваецца магчымасць стварэння Нацыянальнай электроннай бібліятэкі. А не так даўно адбылося пасяджэнне Сусветнай лічбавай бібліятэкі. З яе беларускім удзельнікам — дырэктарам Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раманам Матульскім сустрэўся наш карэспандэнт.



— Сустрэча прысвячалася фарміраванню сусветнай электроннай бібліятэкі. Яна літаральна фізічна адлюстравала гэту праблему. Пераход на іншыя тэхналагічныя магчымасці — немінучы, і яго не трэба баяцца. Я заўсёды казаў, і ўпэўнены ў гэтым: жаданне супрацьпаставіць традыцыйную кнігу электроннай — марнае. І нічога з гэтага не можа атрымацца. Развіваецца цывілізацыя. Ідзе час. Як у свой час ішла барацьба рукапіснай кнігі і друкаванай. Размова ідзе аб тым, як выкарыстоўваць гэтыя электронныя сродкі.

— Але вы самі — за электронную кнігу?

— Не магу сказаць, прыхільнік я ці праціўнік электроннай кнігі. Яна — рэальнасць. У адным выпадку яна больш зручная, у другім — менш зручная. Ніхто пакуль што не прыдумаў больш надзейнага і эфектыўнага сродка, чым традыцыйная кніга. Для таго, каб прачытаць традыцыйную кнігу, не трэба нічога: ні батарэйкі, ні яе сілкавання, ні спецыяльных навыкаў. Яе можна чытаць, дзе хочаш: дома, за сталом, у садзе на пянёчку. І самае галоўнае — для таго, каб захаваць інфармацыю, не трэба велізарных сродкаў. І яна пераканала сваім жыццём: кніга можа існаваць тысячы гадоў. Электронная кніга пакуль што нічога гэтага не даказала. Яна больш у гэтым саступае традыцыйнай.

— І пераход традыцыйнай кнігі на электронныя носьбіты не азначае, што яна прыжыве даўжэй?

— Зусім не! У свой час, калі паявіліся першыя кампакт-дыскі, гаварылі: усё, гэта навечна! Пасля агаварыліся: не, можа гадоў на сто. Пазней скарэкціравалі і гэту лічбу: не, гадоў на пяць. Зараз ніхто са спецыялістаў не прызнае, што аптычны дыск — гэта сродак захавання інфармацыі ў часе. Гэта выдатны сродак распаўсюджвання! Але ніякай гарантыі, што заўтра той дыск будзе "чысты", без вірусаў, няма. Чым больш развіваецца цывілізацыя, тым больш мы бачым праблем у захоўванні і перадачы інфармацыі. Больш надзейнага сродка перадачы інфармацыі ў часе, чым кніга, пакуль няма. Нягледзячы на тое, што гэта — папера, якая гарыць, гніе, якую ядуць мошкі і гэтак далей. Але кніга недасканалая з таго пункта гледжання, што інфармацыі назапашваецца ўсё больш. Калі, напрыклад, 500 гадоў таму ўсё гэта можна было змясціць у адной кніжцы, то зараз гэта мільёны і мільярды дакументаў. Штосьці знайсці ў гэтай масе з кожным годам усё цяжэй, нягледзячы на сучасныя пошукавыя сістэмы. Мы, напрыклад, набываем электронныя базы дадзеных, адна з якіх па памеры прыкладна такая ж, як і ўсё наша кнігасховішча. І каб у такім кнігасховішчы нешта патрэбнае знайсці, нейкі артыкул, трэба патраціць вельмі шмат часу. А часу ў прынцыпе няма. Нам трэба будзе ствараць такі пошукавы апарат — усю краіну ператварыць у бібліёграфаў. То гэта ж таксама немагчыма. А ў электроннай базе гэта робіцца за імгненні. Прычым, на экране бачыш поўны тэкст, і гэта зручна. Свет шматаблічны, і ён стагоддзямі яшчэ такім будзе заставацца. Кніга як існавала, так і будзе існаваць. Магчыма, яна зноў стане элітнай. Згадайма: 500 гадоў таму кніга была не масавай з'явай, яна была ў людзей, якія мелі вялікія грошы. І цяпер кніга зноў становіцца ў нейкім сэнсе ўнікальнай: тыражы падаюць, а затраты ёсць затраты. А чаму яшчэ элітнай? Таму што аператыўная інфармацыя з'яўляецца ў электронным выглядзе. Мае дзеці з задавальненнем чыталі кнігі, зараз ім падабаецца чытаць з экранаў манітораў. Галоўнае — чытаць! І што чытаць! А не з якога носьбіта. І я таксама чытаю інфармацыю і з манітора, але з задавальненнем чытаю традыцыйную кнігу, з зацікаўленасцю — прафесійную (як навуковец я працую пераважна з прафесійнай кнігай).

> Пераход на іншыя тэхналагічныя магчымасці — немінучы, і яго не трэба баяцца. Жаданне супрацьпаставіць традыцыйную кнігу электроннай — марнае. І нічога з гэтага не можа атрымацца.

> У свой час, калі з'явіліся першыя кампакт-дыскі, гаварылі: усё, гэта навечна! Пасля агаварыліся: не, можа, гадоў на сто. Пазней скарэкціравалі і гэту лічбу: не, гадоў на пяць. Зараз ніхто са спецыялістаў не прызнае, што аптычны дыск — гэта сродак захавання інфармацыі ў часе.

— Тым не менш, вы актыўна праводзіце думку пра неабходнасць у Беларусі Нацыянальнай электроннай бібліятэкі.

— Мы пра гэта гаворым даўно і спадзяёмся, што ў гэтым будзем падтрыманы. На наступную пяцігодку мы ўнеслі прапановы ў Дзяржаўную праграму інфарматызацыі аб стварэнні Нацыянальнай электроннай бібліятэкі. Не архіва, а менавіта бібліятэкі. Калі мы не хочам адстаць назаўсёды, калі у нас ёсць жаданне, каб пра Беларусь ведалі за межамі краіны, калі мы хочам, каб наша моладзь не згубіла інтарэсу да чытання, да бібліятэкі і ўвогуле да ведаў — іншай альтэрнатывы няма. Гэта дарога, якою ідзе ўвесь свет. І чым хутчэй з'явяцца нацыянальныя электронныя базы даных Беларусі, як яны з'явіліся ў іншых краінах, чым хутчэй нашы даныя будуць прадстаўлены ў сусветных інфармацыйных рэсурсах аўтарытэтных вытворцаў інфармацыі — тым гэта лепш! І ў эканамічным, палітычным, і ў культурным плане.

— І бліжэйшыя нашы праграмы — гэта Радзівіліяна, Сапегіяна…

— Дакладней — гэта часткі глабальнай Нацыянальнай праграмы. Таму што яе ўмоўна можна падзяліць на дзве часткі. Першая — гэта наша гісторыя (інфармацыя гісторыка-культурнага прызначэння), якая служыць фарміраванню сістэмы нацыянальна-культурных каштоўнасцей, гэта тое, што даказвае і паказвае, што Беларусь — выдатная краіна з багатай гісторыяй, якой можна ганарыцца, што мы роўныя сярод роўных на карце Еўропы. І гэта спрыяе фарміраванню пачуцця патрыятызму, любові да Бацькаўшчыны — гавару штампамі, але вельмі зразумелымі. Без гэтага гуманітарнага, філасофскага складніка немагчыма пабудаваць нармальную эканоміку. Таму што ў такім выпадку чалавек не разумее, навошта ён усё робіць. Радзівіліяна, Сапегіяна, Скарыніяна — праекты, скіраваныя на тое, каб узнавіць культурную кніжную спадчыну, якая згублена і ў большасці знаходзіцца за межамі Беларусі. Пра якую, на жаль, самі беларусы амаль нічога не ведаюць. Гэта найбольш цікава для нашых замежных партнёраў, для замежнага чытача. А другая частка — сучасны дакументны інфармацыйны паток. Гэта прагматычная частка. Яна неабходна для таго, каб развівалася навука, адукацыя, каб развівалася вытворчасць і бізнес. Гэта мы сённяшнія. Мы ёсць, і пра гэта павінны ведаць у свеце.

Гутарыла
Ірына ТУЛУПАВА

На здымках: дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі; электронны даведнік Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі пра кнігі, якія выдаюцца за год.

# На байдарках… седзячы ў зале

Ідэя стварэння бібліяграфічнага паказальніка, прысвечанага пытанням развіцця турызму ў Віцебскім рэгіёне, з'явілася даволі даўно. Справа ў тым, што у апошні час у сувязі з прыняццем Нацыянальнай праграмы развіцця турызму ў Рэспубліцы Беларусь значна актывізавалася дзейнасць у гэтым кірунку. І вось ён выдадзены — змястоўны, аб'ёмны, цікавы тэматычны паказальнік пад маляўнічай назвай "Край блакітных азёраў і шумных бароў". Каб пазнаёміць з ім шырокую аўдыторыю, было вырашана арганізаваць акцыю-прэзентацыю "Гасцінная Віцебшчына".

Мерапрыемства праходзіла ў самай вялікай зале Віцебскай абласной бібліятэкі імя У. І. Леніна, куды мы змаглі запрасіць каля 150 чалавек. Сярод іх — супрацоўнікі бібліятэкі, раённых і гарадскіх ЦБС, краязнаўцы, прадстаўнікі сродкаў масавай інфармацыі, музейныя работнікі, выкладчыкі, студэнты.

Іх увазе былі прапанаваныя выставы "Край блакітных азёраў і шумных бароў" і "Турыстычныя фірмы Віцебска запрашаюць", а таксама рэкламная прадукцыя віцебскіх турагенцтваў.

У акцыі прынялі ўдзел сапраўдныя энтузіясты сваёй справы. Гэта вядомыя краязнаўцы, шчырыя сябры нашага сектара М. Півавар і Л. Нікіціна, якія запрасілі ўсіх у віртуальнае падарожжа па ваколіцах Віцебска і раёна. Разам з гісторыкам Мікалаем Піваварам мы "наведалі" маляўнічы пасёлак Лужасна, дзе азнаёміліся з архітэктурай будынкаў былой земляробчай школы, Пакроўскай царквы, царквы Узвіжання Крыжа. "Прайшліся" па шырокіх алеях Лужаснянскага дэндрапарку, па сцяжынах "Цёплага лесу".

З вялікай цікавасцю зазірнулі ў Лужаснянскую гімназію і аграрны каледж. Пабывалі каля помніка Герою Савецкага Саюза Міхаілу Сільніцкаму і помніка ахвярам фашызму, на гарадзішчы Дняпра-Дзвінскай культуры, а таксама ў самым халодным месцы Віцебскай вобласці, каля самай вялікай у рэспубліцы сасны. Надзвычай уразілі дуб і ясень з агульным коранем і пераплеценымі ствaламі. Потым разам з аўтарам "праплылі на байдарках" па Заходняй Дзвіне ўздоўж дзвонскіх пластоў даламітаў, побач з якімі адчувалі сябе маленькімі-маленькімі.

Пабачылі вярхоўскія парогі і рэдкую водарасць Цынклідотус Дунайскі, занесеную ў Чырвоную кнігу Беларусі. Не змаглі мы прайсці міма ўрочышча Здраўнёва, дзе знаходзіцца сядзіба вядомага мастака І. Рэпіна, у якой ён стварыў больш за 40 карцін і малюнкаў.

Далей наша падарожжа па наваколлях Віцебска мы прадоўжылі разам са стваральнікам і кіраўніком гісторыка-этнаграфічнага музея "Гісторыя Заронаўскага краю" Людмілай Нікіцінай. Яна прапанавала маршрут "Залатое колца Віцебскага раёна". З прыгарада Віцебска Цірасполя мы "пакрочылі" ў беларускую Швейцарыю, якая знаходзілася каля вёскі Суйкава, на месцы Іскраўскага возера.

З замілаваннем паглядзелі на празрысты вадаём, дзе плавалі белыя грацыёзныя лебедзі. Пасля наведалі Пуцявішча, якое згадваецца ў паэме К. Вераніцына "Тарас на Парнасе". Далей мы накіраваліся ў вёску Субачава — былыя зямельныя ўладанні Лускінаў, дзе ў пачатку ХХ стагоддзя быў знойдзены манетны клад.

І вось мы патрапілі ў Заронава з яго ўнікальнымі помнікамі, музеем, некропалем. Незабыўныя ўражанні выклікалі ў прысутных каменныя крыжы, якія "растуць" з зямлі. Але найбольш спадабалася нам на Веліканавым хутары ў вёсцы Касцюкі, адкуль родам Фёдар Махноў — самы вялікі чалавек у свеце. Завяршылася ж гэта падарожжа наведваннем мемарыяла "5 Полк".

Меркаванні пра наша мерапрыемства былі розныя, але, у асноўным, станоўчыя. Мы ж атрымалі сапраўднае задавальненне ад праведзенай работы, ад знаёмства з цікавымі людзьмі і ад вынікаў нашых намаганняў. У прадмове да паказальніка М. Півавар напісаў: "Створаны супрацоўнікамі сектара краязнаўчай літаратуры і бібліяграфіі паказальнік "Край блакітных азёраў і шумных бароў" не ёсць універсальны сродак развіцця турызму на Віцебшчыне, але з'яўляецца адной з прыступак на гэтым шляху".

Мы поўнасцю згодны з гэтым сцвярджэннем і раім нашым калегам-бібліятэкарам не абыходзіць увагай гэтую актуальную тэму. Тым больш, што турызм цесна звязаны з краязнаўствам.

Анжаліка ГАНЧАРОВА



# Узбагачаць нацыянальнае праз цікавасць да сусветнага

"Круглы стол" "Літаратура як сродак міжкультурнага дыялогу", што адбыўся ў межах Дня беларускага пісьменства ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, быў настолькі тэматычна ўсеахопны і разнастайны, што, здавалася, кожны ўдзельнік проста распавядаў пра найбольш важныя і балючыя для яго культурныя праблемы, і выступ сам сабой клаўся ў адну з тэм, прапанаваных арганізатарамі — выдавецтвам "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі", РВУ "Літаратура і Мастацтва" і Саюзам пісьменнікаў Беларусі. Але найбольш яркія прамовы былі прысвечаныя небяспецы альбо наадварот, новым магчымасцям, якія нясе нам электронная кніга, перакладчыцкім праблемам, а таксама пытанням культурнага сяброўства і глабалізацыі.

## Кніга-клон, гіганцкі павук, пачатак новай цывілізацыі

Такімі ўстрашальнымі эпітэтамі, прыдатнымі для фантастычных апавяданняў, многія ўдзельнікі "круглага стала" называлі электронную кнігу, з'яўленне якой, па іх меркаванні, нясе небяспеку для старых добрых і прасякнутых друкарскім водарам папяровых выданняў. Выступленне чарнагорскага паэта і празаіка Слабадана Вуканавіча нагадвала адчайную оду электроннай кнізе як чамусьці адначасова жахліваму, невядомаму, але і прыўкраснаму. "Электронная кніга, назавём яе кніга-клон, падкажа, дзе вы спыніліся, пажадае вам прыемнага чытання і добрай ночы, дазволіць чытаць пад музыку Чайкоўскага, Шапэна, Грыга, Бетховена. Важыць яна 300 грамаў, велічынёй з аловак, а ў яе памяшчаецца 200 кніг, і гэты аб'ём узрасце яшчэ ў шмат разоў. Кампанія "Амазон" заяўляе, што адначасова са 100 класічнымі кнігамі прадаецца 180 электронных. Кола рушыла і ўжо не спыніцца. Электронныя кнігі стануць часткай нашай адукацыі і духоўных патрабаванняў. Не трэба хадзіць у бібліятэку, рэдкія кнігі мы будзем атрымліваць па "емэйлу". Іх выданне не патрабуе затрат на паперу, фарбы і іншыя матэрыялы, што дае шанц электронным выдаўцам. Хоць мы яе не чакалі, з'явілася прынцэса на зярнятку чыпа", — нагнятае прарочую атмасферу чарнагорскі пісьменнік. І тут жа ўзрушана тлумачыць сваё стаўленне да непазбежнага і няўмольнага прагрэсу, што прымушае літаратуру вылузнуцца з папяровага абліччаа: "Раней я раздражнёна адмаўляўся ад працы з электроннымі выданнямі, але прызнаюся, я пераможаны. Я стаў супрацоўнічаць з імі. Пракаўтнуў мяне гіганцкі павук. Пачынаецца эра электроннай кнігі. Яна рэальнасць. А я — мінулае. Трымаю ў руцэ папяровую кнігу".

Развагі пра наступленне "кнігробатаў" падтрымала пісьменніца Раіса Баравікова: "Электронная і папяровая кнігі — як дзве паралельныя прамыя, што ніколі не сыдуцца. Талент заўсёды замяшаны на энергетыцы чалавека. Машына ніколі гэтага не перадасць. Бо гэта віртуальны свет, а папяровая кніга – штосьці матэрыяльнае. Нават калі мы глядзім на паліцы нашай хатняй бібліятэкі, да адной кнігі ляжыць душа і цягнецца міжволі рука, а другая наадварот адштурхоўвае". Падобнае лірычнае меркаванне выказаў і намеснік галоўнага рэдактара расійскага часопіса "Наш современник" Аляксандр Казінцаў: "Не трэба баяцца, што новыя формы адпрэчаць старыя. Якая карысць у тым, што кніга электронная мала важыць? Цяжар кніг сапраўды евангельскі, яго лёгка несці. І я берагу ў сваёй бібліятэцы кнігі ХХ стагоддзя з кранальнымі подпісамі, іх мой дзядуля дарыў бабулі. У гэтым таксама ёсць музыка, не электронная, а музыка душы, якая гучыць грамчэй". Дырэктар Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Раман Матульскі выказаўся пра электронныя носьбіты спакойна, без страху перад будучыняй: "У гэтых сценах захоўваюцца мільёны папяровых кніг, ёсць кнігі, якія трымалі ў руках Гутэнберг і Скарына. Але ў нашай бібліятэцы ёсць і электронныя кнігі. А праз 10 — 15 гадоў іх будзе таксама шмат. Мы не падзяляем электронныя і папяровыя выданні: не важна, на чым напісаны твор, важна кім і як".

Дырэктар Літоўскага інстытута выдавецтваў і энцыклапедый Рымантас Карэцкас падзяліўся сваім прагматычным выдавецкім поглядам на праблему: "Для мяне як выдаўца з'яўленне электроннай кнігі — гэта кашмар. Калі электронная кніга — гэта машына, то мне хочацца спытаць: хто будзе залiваць у яе бензін, які каштуе дорага? Электронная кніга прадаецца нашмат танней за папяровую, але каб яе падрыхтаваць, патрэбныя тыя ж самыя перакладчыкі, ілюстратары, рэдактары, карэктары і гэтак далей, а пра гэта часам забываюцца. Канечне, можна выпусціць энцыклапедыю на дыску, альбо выкласці ў Інтэрнэт, як, прадстаўлена, напрыклад, вядомая энцыклапедыя "Брытаніка". Але патрэбна пэўная група людзей, якая б пастаянна абнаўляла інфармацыю, а гэта вялікія выдаткі, якія можа сабе дазволіць не кожнае выдавецтва. Апроч таго, не трэба забывацца пра пірацтва. Да прыкладу, ёсць вольная энцыклапедыя "Вікіпедыя", цудоўны праект, які робіцца рукамі тысяч энтузіястаў. Але яны без усялякага сумлення перадрукоўваюць у нас артыкулы, а мы не можам працаваць бясплатна. Пакуль што няма гэтай культуры і павагі да творчасці аўтара. Я думаю, для Літвы электронныя кнігі ўсё ж яшчэ дарагое задавальненне. Можна выпускаць электронныя падручнікі, ці тыя выданні, выпуск якіх фінансуецца дзяржавай. Бывае, што электронныя крамы дазваляюць маладым аўтарам распаўсюджваць праз іх свае творы. Грошы ім не плацяць, але даюць магчымасць праславіцца. Гэта прыводзіць да таго, што з'яўляецца шмат пошлых і бяздарных тэкстаў". Яго калега па выдавецкай справе, дырэктар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Таццяна Бялова бачыць у электроннай кнізе не толькі мінусы: "Мне здаецца, што электронная кніга мае права на існаванне як праграмны прадукт. Бо для энцыклапедыі, безумоўна, вельмі важная ўзнаўляльная база. Каб па меры змены інфармацыі не перавыдаваць тамы ці пісаць каментарыі, а проста дапаўняць электроннае выданне".

Супрацоўнік Расійскай публічнай бібліятэкі імя М. Е. Салтыкова-Шчадрына, навуковец Мікалай Нікалаеў распавёў, што электронныя выданні — добрая магчымасць вярнуць на радзіму многае са страчанай беларускай спадчыны: "Пасля рэвалюцыі было знішчана вельмі шмат беларускіх кніг і ацалела толькі тое, што захавалася ў спецсховах, якія цяпер адкрытыя. Многія выданні 1920 — 1930 гадоў былі страчаныя для майго пакалення, пра іх нельга было гаварыць, таму што альбо аўтар сядзеў, альбо рэдактар, альбо дырэктар выдавецтва. І сёння гэтую частку кніг трэба вярнуць сучаснаму чытачу, бо застаўся прабел у кніжнай культуры. Безумоўна, электронная кніга, як бы яе не хвалілі, не перадае сляды эпохі, шрыфты, паперу, вокладку. Яна як тэлевізар, што вочы псуе, на маю думку. Вядома ж, лепш выдаваць факсіміле. Але электроннае капіраванне можа зрабіць кнігу даступнай і даць магчымасць людзям, у якіх ёсць у кішэні электронны чыталкі, вельмі проста з ёй азнаёміцца".

## Перакладчыкі хочуць мець свой часопіс і аб'яднацца ў саюз

Беларускі перакладчык Ігар Найдзёнкаў згадаў часопіс "Всемирная литература", які выходзіў цягам 13 гадоў, а летась на 113 нумары спыніў сваё існаванне (выступоўца не абышоў увагай мізэрны ці лічбаў). Цяпер выданне існуе як невялікі дадатак да часопіса "Нёман" і, па словах Найдзёнкава, перакладчыкам цяжка разгарнуць шырокую дзейнасць на такой сціплай пляцоўцы: "Раней "Всемирная литература" на 220 старонках друкавала паэзію, прозу, публіцыстыку, дарожныя нататкі аўтараў з больш як 40 краін свету. Але часопіс быў занадта элітарны і, відаць, не знайшоў свайго чытача. Я спадзяюся, што зноў з'явіцца часопіс перакладной літаратуры, магчыма, больш даступны і разлічаны на масавага чытача. Гэта сёння вельмі неабходна". Перакладчыца Зінаіда Краснеўская таксама выступіла з канкрэтнымі і выразна акрэсленымі прапановамі: "Нядаўна прачытала, што рэдакцыя часопіса "Нёман" ініцыіруе стварэнне клуба перакладчыкаў. Выдатная ініцыятыва. Толькі баюся, што невялікі калектыў часопіса літаральна заблытаецца ў плыні тых людзей, якія сябе сёння называюць перакладчыкамі. Мне здаецца, можна перайсці да ідэі больш высокай якасці. Думаю, наша грамадства, дзяржава і інтэлектуалы саспелі, каб усё ж такі стварыць саюз перакладчыкаў. 20 гадоў таму я асабіста ўдзельнічала ва ўстаноўчым з'ездзе Саюза перакладчыкаў СССР. Пасля вядомыя падзеі пахавалі гэтую вельмі добрую ідэю. Але ў Расіі Саюз перакладчыкаў ёсць, і нядаўна прадстаўнікі Беларусі ўдзельнічалі ў яго з'ездзе, у прыватнасці, Юрый Сапажкоў. Тым больш, у Мінску функцыянуе камерцыйнае прадпрыемства пад назвай "Гільдыя перакладчыкаў". Наколькі я разумею, камерцыйная фірма прысвоіла сабе статус грамадскай арганізацыі і прадае пэўны інтэлектуальны прадукт. Другая мая прапанова тычыцца прыцягнення ўвагі да нашых кніг на сусветным рынку. Мне здаецца, настаў час, каб у нашым Саюзе пісьменнікаў альбо Міністэрстве інфармацыі былі створаныя нейкія падраздзяленні, якія рабілі б рэфераты і анатацыі ўсіх нашых выданняў на асноўных еўрапейскіх, а, магчыма, і сусветных мовах. Спецыялісты для гэтага сёння ёсць".

## Сваё, чужое і агульнае

Гаворка пра літаратурных сяброў Беларусі, якую распачаў Мікалай Нікалаеў, мела амаль прытчавы характар, бо была праілюстраваная незвычайнай гісторыяй: "Гэтым летам да мяне прыляцеў сябар, прафесар з Японіі Токуакі Баннай. Ён падарыў мне кніжку 1929 года на японскай мове. Раптам я ўбачыў у ёй фотаздымкі беларускіх пісьменнікаў. Аўтар кнігі — Удзяку Акіта, вядомы японскі драматург, у свой час 15 яго п'ес ішлі ва ўсіх такійскіх тэатрах. І вось у 1928 годзе ён наведваў Беларусь. Тут яго добра прымалі, пра яго пісалі ў газетах, былі апублікаваныя яго фотаздымкі з рознымі пісьменнікамі. Апроч Беларусі, ён наведаў таксама Расію і Украіну. Вярнуўшыся, драматург напісаў кнігу "Маладая Савецкая Расія". А потым, калі памёр у 1963 годзе, выйшла 5 тамоў яго мемуараў. І вось мы з Токуакі Баннаем вырашылі знайсці, што пісалі пра яго ў Беларусі. Напрыклад, газета "Савецкая Беларусь" упершыню надрукавала японскія іерогліфы. Гэта была хайку з перакладам на беларускую мову. Цяпер мой сябар перакладае частку мемуараў Удзяку Акіта, я шукаю беларускія матэрыялы. І мы, магчыма, на наступнай канферэнцыі ўжо прадставім работу пра тое, як беларускія пісьменнікі сустракаліся з пісьменнікамі іншых краін. Дарэчы, у кніжцы 1929 года былі згоняныя фотаздымкі з самымі рознымі беларускімі пісьменнікамі — Кандратам Крапівой, Змітраком Бядулем, Пятром Глебкам, Паўлюком Шукайлам ды іншымі. У Японіі быў арганізаваны музей паважанага пісьменніка, але ў мінулым годзе з-за крызісу яго зачынілі. Я зацікавіўся, дзе ж архівы гэтага музея? Яны ж могуць быць важнымі для беларуска-японскіх сувязей. Мой сябар абяцаў даведацца пра гэта. І я заклікаю, каб у Беларусі больш ведалі пра сувязі беларускіх і замежных пісьменнікаў".

Саветнік пасла Грузіі ў Рэспубліцы Беларусь Зураб Хунтуа распавёў пра сучасныя культурныя сувязі. Паводле яго слоў, зараз журналісты Белтэлерадыёкампаніі здымаюць фільм пра Грузію, а пасля і грузінская здымачная група прыедзе да нас, каб стварыць кіно пра Беларусь. Грузінскі дыпламат адзначыў, што яго суайчыннікі добра ставяцца да беларусаў: "Адна ваша журналістка выйшла ў Тбілісі на праспект Руставелі, калі было шматлюдна, і пачала апытваць людзей, што яны ведаюць пра Беларусь. Аказалася, што 8 з 10 чалавек (праўда, пераважна старэйшага пакалення) былі дасведчаныя ў справах вашай краіны". Ён таксама распавёў, што самым простым пацвярджэннем цёплых культурных кантактаў стане зборнік класікаў грузінскай паэзіі ў перакладзе на беларускую мову. Кніга з'яўляецца агульным праектам "Грузінскай энцыклапедыі" і "Беларускай энцыклапедыі імя Петруся Броўкі" і пабачыць свет у хуткім часе. "Хацелася б, каб і класіка вашай паэзіі была выдадзеная па-грузінску", — адзначыў дыпламат.

Літаратуразнаўца Іван Чарота разважаў на тэму глабалізацыі, на гэтым жа засяродзілася і літаратуразнаўца Ева Лявонава. Яе выступ быў вельмі ўсхваляваны і эмацыйны, бо казала яна пра самае балючае і актуальнае: "Я не супраць таго, што ў школах сёлета была павялічана колькасць гадзін англійскай мовы, умоўна кажучы, мовы глабалізацыі, але ўсё ж такі хацелася б, каб колькасць гадзін роднай мовы была хаця б аднолькавая. Цяжкая сітуацыя і з літаратурай. Праводзячы заняткі на рамана-германскім аддзяленні філалагічнага факультэта, я часам згадваю пэўных беларускіх аўтараў, а студэнты пра іх і не чулі. Чаму? Таму што ў іх быў выбар — вывучаць рускую ці беларускую літаратуру. І яны выбіралі рускую. Таксама неабходна развіваць параўнальнае літаратуразнаўства, каб патлумачыць чытачу, што родніць нашу літаратуру з іншымі, а чым мы адметныя. Напрыклад, лічыцца, што тэма Чарнобыля вылучае славянскія літаратуры з ліку іншых. Але мала хто ведае, што першы твор пра Чарнобыльскую катастрофу быў напісаны не беларускім пісьменнікам, а нямецкім — аповесць "Аварыя" Крысты Вольф. І гэта недасягальнай філасофскай глыбіні твор, які даўно трэба было б перакласці на беларускую мову. Гэта аповесць не толькі пра Чарнобыль, а пра небяспеку глабальнай катастрофы ўвогуле, у тым ліку і страты гістарычнай і нацыянальнай памяці. Таму трэба не супрацьстаяць чужым культурам, а ўзбагачацца імі, развіваючы пры гэтым і сваю нацыянальную".

Саша ДОРСКАЯ

Фота Кастуся Дробава

"Юрый Фатнеў — сапраўдны пісьменнік, чалавек, які жыве дзеля яе вялікасці Літаратуры… Гэта рускамоўны аўтар, але яго творчасць зусім несправядліва застаецца ў цені," — лічыць Міхась Башлакоў — паэт, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. Роздумы над апошнім раманам Юрыя Фатнева "У рэха няма аблічча" прапануюцца нашым чытачам.

# Аблічча рэха

У прэсе апошніх гадоў можна знайсці літаратурныя партрэты Юрыя Фатнева (нарадзіўся на Алтаі ў 1938 г., жыў у Казахстане, Беларусі, Расіі, з 1990 г. жыве ў Гомелі, аўтар шматлікіх зборнікаў паэзіі, некалькіх значных празаічных твораў), згадкі пра мерапрыемствы, у якіх пісьменнік прымаў удзел. Рэцэнзіі ж на літаратурныя творы ці, тым больш, агляды творчасці Юрыя Фатнева, на жаль, не трапляліся: нягледзячы на тое, што мастацкі ўзровень прозы і паэзіі гэтага пісьменніка вельмі высокі, нешматлікія крытыкі не паспяваюць ацэньваць усё вартае, што сёння выдаецца. Між тым, сітуацыя, калі творчасць сталага аўтара амаль не аналізуецца ці нават замоўчваецца, падаецца даволі недарэчнай…

Раман-гіпотэза "У рэха няма аблічча" (2008) узнаўляе падзеі XI — XII стст., дае новыя трактоўкі вобразам гістарычных персанажаў. Аўтар пераасэнсоўвае даўнія падзеі, палемізуе з гісторыкамі, спрабуе па-свойму рэканструяваць і растлумачыць мінулае.

Героі рамана часта ўжываюць старaславянізмы, маўленню некаторых з іх уласцівыя дыялектныя рысы ("Так на гэта пергамента не хопить, — пужався летописец Сухмень").

Асноўная тэма рамана — творчасць у часы Сярэднявечча. Адны з галоўных герояў твора — "багамаз" Спірка, гусляр Баян і князь-вандроўца Уладзімір Галіцкі, які па версіі пісьменніка з'яўляецца аўтарам "Слова пра паход Ігаравы". Праўда, гэтыя персанажы крыху губляюцца між іншых дзейных асоб і гістарычных падзей. Юры Фатнеў распачынае свой твор са смерці ноўгарадскага князя Уладзіміра Яраславіча, якая адбылася ажно за 133 г. да Ігаравага пахода на полаўцаў, але распавядае пра галоўную падзею толькі на апошніх сарака (з трохсот пяцідзесяці) старонках рамана.

Істотна, што ўсе князі, да якіх звяртаецца аўтар "Слова", маляўніча, вобразна праходзяць перад чытачом рамана. Пісьменнік следам за аўтарам "Слова" паказвае мінулае (асобы, падзеі, бітвы, перамовы) на шырокім гістарычным фоне. Таму чытач сутыкаецца з сотняй розных персанажаў, трапляе і ў Гомій, і ў Тмутаракань…

Пішучы пра жыццё Старажытнай Русі, Юрый Фатнеў паказвае як гожае, так і брыдкае, спалучае непрывабна-натуралістычныя дэталі з часам рамантычна-ўзнёслым светаўспрыманнем герояў. Тут і "Скособоченная башня" ў Чарнігаве, з якой параўноўвае сваю душу Усевалад — "Сырость. Блевотина. Какие-то опоры обвалились, ступеньки сгнили, а все еще карабкается мерзость вверх, суетится корысть, шмыгают всякие уловки по темным углам. Болтается на перекладинах какая-то рвань в кровавых пятнах," — і лірычныя, напісаныя "вершамі ў радок" філасофскія і пейзажныя замалёўкі: "Мне этот миг струною напряженной звенеть, смеяться и на помощь звать. Но пусть по гуслям пронесутся кони, сорвут со струн подковами набат! Прервется звук и улетит дыханье. Но ветер дунет — и всклубиться пыль. Напомнит облик вещего Бояна, что Влесов внуче по земле бродил…". Адметнасць творчай манеры Фатнева –здольнасць часам асвяжыць раман яркім вобразам, прыроднай метафарай: «одуванчиковый пух» быццам «прощальный поцелуй», два пеўні б'юцца ля курнішча – "Боже, и тут нужно выяснить, кто же первый…".

Юрый Фатнеў часам дае жыццёвыя, побытавыя дэталі ("В мыльню бы мне," — ўкленчыў Усяслаў Чарадзей, калі яго вызвалілі з кіеўскага поруба), але разам з тым нярэдка ўводзіць фантастычныя элементы: сны, уяўленні, прароцтвы, дзівосная музыка, прывіды, Гандляр Верамі, кій з пісьмёнамі дакірылічнай графікі, на якім напісана пра злачынствы Яраслава Мудрага… Праўда, гэтыя дзівосы не вызначаюць развіццё сюжэта…

Месцамі князі надзвычай сентыментальныя (Ігар, уцякаючы ад стэпавікоў,



Малюнак Алесі Ісы

трымае перад сабой хваёвую лапу і ўвесь шлях удыхае пах ігліцы — пах рускай зямлі), але пісьменнік не рамантызуе гістарычных дзеячаў, ператвараючы іх ледзь не ў святых. Праўда, усе яны надзеленыя трапяткой любоўю да родных мясцін, якая вельмі кантрастуе з дзікім норавам, жорсткасцю, ваяўнічасцю, запальчывасцю. Дый вытанчаныя "кніжныя" разважанні князёў кепска спалучаюцца з іх грубасцю, з жорсткасцю да сваякоў і ворагаў. "Пошто грешил? Век был такой. Такая планида. Будто вошел в лабиринт, должен идти вперед. Невозможно ступить в сторону".

Як і шмат у каго з пісьменнікаў-мужчын, раман Юрыя Фатнева, можна сказаць, "аднаполы". Жанчын, паўнавартасных хаця б як другасныя персанажы, у творы зусім няшмат: Інгігерда, Вольга Юр'еўна, Яраслаўна, Тавалошка — усе яны цікавыя адно як чыесці — крыху самастойныя — жонкі. Увогуле ж жанчыны разглядаюцца ў творы галоўным чынам як аб'ект агрэсіі, гвалту. "Воображение молодых воев рисовало во всех подробностях сцены насилия. Аки звери, набрасывались они на беззащитных девок половецких, сдирали с них одежду, вспыхивало полымем голое тело — и никакой поп не осудит. Нет на этот случай попа". Сам пісьменнік малюе сцэны боек і гвалту таксама са шматлікімі натуралістычнымі падрабязнасцямі, хаця робіць гэта больш далікатна ў адносінах да чытача, чым шмат хто з сучасных аўтараў.

Чытаючы раман Ю. Фатнева, разумееш, што жыць у сучаснай Беларусі шматкроць лепш, чым нарадзіцца на дзевяць стагоддзяў раней. Наўрад ці шчаслівай была тагачасная жанчына, люляючы пад нядобрым позіркам мужа дзіця, народжанае ад ворага ці княжага дружынніка, прадчуваючы, што дачку можа напаткаць ейны лёс, а сын знікне дзесьці ў палавецкім стэпе… З аднаго боку, дзякуючы хрысціянству Еўропа стала значна больш гуманнай — з іншага боку, сусветныя войны мінулага стагоддзя паказалі, якімі па-жывёльнаму лютымі засталіся тысячы цывілізаваных людзей…

Падаецца, што мэтай пісьменніка гістарычнага жанру можа быць альбо выяўленне праблем сучаснасці праз дэманстрацыю аналагічных сітуацый у мінулым, альбо імкненне падштурхнуць чытача да супастаўлення былога і сённяшняга з тым, каб падвесці да агульнакультурных высноваў, да думак пра напрамкі развіцця чалавецтва. Калі першая мэта была для Фатнева амаль не актуальнай, то другое ў яго якраз атрымалася. Шмат якія старонкі рамана выяўляюць у пісьменніку ўдумлівага гісторыка, над некаторымі радкамі цягне па-філасофску паразважаць: "Когда людская масса осознает себя народом, рождается историк, к которому из всех времен сходятся невидимые другим призраки. Он должен заставить их заговорить — и тогда народ просыпается. Он жил. Он видел эти сны. Греки, римляне благодаря историкам своим получили бессмертие"…

На жаль, пасля чытання твора не застаецца моцнага ўражання ад тых герояў, якія меліся быць галоўнымі. Магчыма, прычына ў неструктураванасці тэксту, адсутнасці падзелу на раздзелы і часткі, што значна ўскладняе ўспрыманне гістарычнай прозы. На пачатку рамана размова ідзе пра Баяна — гэтая частка адзначаная "вершамі ў радок". Талент Баяна-гусляра шануюць князі, ён падарожнічае з імі, прымае ўдзел у сечах, але здатны ўзняцца над зямлёй і адчуць сапраўдную існасць жыцця і гісторыі…

Натхненне Уладзіміра Галіцкага падчас Ігаравага пахода мае падставай доўгія папярэднія блуканні і душэўныя пакуты князя-выгнанніка, які ратуецца ад злосці бацькі і жыве фактычна з літасці сродзічаў. У час бітвы ён, нібы вяшчун, бачыць думкі іншых, адчувае сябе па-над сечай, а пасля размовы з Ігаравым паслом пачынае складаць "Слова…". "Странное это было состояние. Вроде не стало его. Не человек он, а — даль, близь, небо, земля, каждое событие, которое случилось когда-то или теперь, время, текущее ныне и то, что для других не наступило. Наверно, так ощущали жизнь славянские боги".

Мастак і архітэктар Спірка вар'яцее, калі яго выпраўляюць з роднага града за тое, што размаляваў царкву нячысцікамі. "Кто же больший властелин в мире? Пошто люди не почитают мастера, а преклоняются перед временщиками?" — разважае пісьменнік.

А самым адметным, як мне здаецца, нечаканым і нязвыклым атрымаўся вобраз Кірылы Тураўскага — пісьменнік, аскет, настаўнік, засяроджаны на хрысціянстве: "Ничего в нем, кроме стати, не осталось от славянина… Припять протекла мимо, а он разглядел лишь Иордан".

Яшчэ адна вартасць рамана "У рэха няма аблічча" — гэта тое, як падрабязна ўзнавіў Юрый Фатнеў геаграфію Старажытнай Русі, абмалёўваўшы відарысы амаль кожнага значнага горада, адзначыўшы характар і асаблівасці мясцовых жыхароў і князёў. Далучыўшыся да княжых паходаў, да блукання Уладзіміра Галіцкага, чытач бачыць і Чарнігаў, і Дзебранск, і Тураў… І варта думаць, што ў неабсяжнай прасторы рамана кожны чытач знойдзе вартую ўвагі падзею ці думку…

Алеся ЛАПІЦКАЯ

## Калонка Міхася Южыка

# Зайздрасць як рухавік



У літаратурным асяроддзі — у тэлефонных размовах, курыльнях, на старонках пісьменніцкіх ЖЖ — толькі і чуюцца апошнім часам абвінавачванні адно аднаго ў зайздрасці, славалюбстве ды іншых біблейскіх грахах. Прычым абвінавачванні гэтыя выбухаюць тады, калі вычэрпваюць усе разумовыя рэсурсы, інтэлектуальны запас. А пасля, нібы задзірыстыя хлапчукі, не ў змозе перамагчы словам — адвешваюць адно аднаму аплявухі ў выглядзе цэтлікаў "зайздроснік" і "славалюбец".

Таму варта крыху патлумачыць наступнае. Як сказаў адзін паважаны свяшчэннік, літаральна ўсе людзі страшэнныя грэшнікі, а таму самае прыдатнае для іх месца — у пекле, і толькі вялікай літасцю Божай мы трымаемся на зямлі. Цяжка не пагадзіцца з гэтай высновай, асабліва калі кожны непрадузята і сумленна пакорпаецца ў нетрах сваёй душы... Але вось у чым закавыка. Літаратура — не манастыр, дзе асноўнай задачай кожнага ёсць духоўнае ўзвышэнне і падрыхтоўка да вечнасці. Літаратура вырашае крыху іншыя справы. І найперш — гэта стварэнне высокамастацкіх твораў, а яшчэ — пошукі і ўвядзенне ў гісторыю нацыянальнай літаратуры самага вартага і каштоўнага. Пошукі гэтыя, чаго там замоўчваць, вядуцца сярод проста-такі завалаў пасрэднасці, шарговасці, немастацкасці, ваяўнічага глупства і махровай графаманіі.

Адшукаўшы мастацкае і вылучыўшы (а гэта задача найперш крытыкаў і літаратуразнаўцаў), мы самім ужо гэтым фактам робім богаўгодную справу. А прасоўваючы ў літаратуру пад рознымі маркамі ардынарнасць і графаманскія творы — адпаведна спрыяем богапраціўнаму. Такім чынам, ад літаратара і крытыка не патрабуецца нерэальнага — быць чалавекам святым і бязгрэшным, а патрабуецца пасільнага — быць хаця б сумленным і адказным за сваю працу. А таксама — не займацца тым, што табе прыродай не дадзена, інакш наробіш благога сабе і людзям. Таму малаадоранаму літаратару найлепш зусім не пісаць. А крытыку з поўнай адсутнасцю мастацкага слыху і густу — найлепей самавыяўляцца ў якой іншай, далёкай ад літаратуры сферы. І гэта я кажу на поўным сур'ёзе. Бо нічога няма страшнейшага, чым злачынства духоўнае: калі прыніжаюць і замоўчваюць творцаў, пацалаваных самім Творцам, а ўзвышаюць бяздарнасць; калі пішуць не па-мастацку і дзякуючы прабіўным якасцям і сацыяльнай актыўнасці ўзводзяць свае творы ледзьве не ў класіку.

Вось што ад нас, шаноўныя, патрабуецца. Нічога надзвычайнага і большага, чым простая добрасумленнасць. Абвінавачванні ж літаратараў у зайздрослівасці да поспехаў калег і славалюбстве выглядаюць па меншай меры недарэчнымі. Тым больш, што абвінавачванні гэтыя кідаюць, як правіла, самыя што ні ёсць зайздроснікі і славалюбцы, не здольныя заўважыць бервяно ва ўласным воку. Паўтараю, сярод літаратараў святых няма, дый задач святасці тут не стаіць. Зайздрасць і славалюбства, калі падысці да гэтага па-філасофску, — магутныя і неабходныя рухавікі творчасці. Вядома ж, разам з іншымі рухавікамі, якія мы не станем тут разглядаць. Прачытаўшы выдатную старонку калегі, творца міжволі запальваецца і заражаецца імпэтам напісаць прынамсі не горш. Пасля пачутай пахвалы ў бок калегі з глыбінь душы творцы паўстае жаданне, каб і яго некалі заслужана пахвалілі. І гэты ўнутраны пасыл залежыць не ад нас, грэшных, ён закладзены ў нашу прыроду ад нараджэння. Можна, канечне, змагацца з сабой і пачаць духоўна расці. Але тады варта сыходзіць з літаратуры ў манастыр, скіт ці пустэльню. А найлепей — змірыцца з тым, што там, дзе ёсць свецкае жыццё, прысутнічаюць і славалюбства, і зайздрасць.

Таму прапаноўваю літаратарам перастаць вешаць на калег недарэчныя цэтлікі, а пачаць сумленна выконваць сваё зямное наканаванне. Каму дадзена — ствараць мастацкія творы; каму дадзена — іх справядліва аналізаваць.

№ 36 10 верасня 2010 г. ЛіМ



Мікола МАЛЯЎКА

## Вучыла мама…

Далёка на зямлі да раю,
Як не змагаемся са злом,
І каля храма Бог збірае
Людзей, пакрыўджаных жыццём.

Не заракайцеся ад гора:
Ударыць нечакана гром —
І чалавек, шчаслівы ўчора,
Па свеце пойдзе з хатулём.

Не трапіць у здаровых звязку —
І перасядзе чалавек
У інвалідную каляску,
Каб парадніцца з ёй навек.

Як быццам цвёрда стаў на ногі,
Але і сам на ўсе гады
Не заракайся ад трывогі,
Не заракайся ад бяды.

Вучыла мама: "Каля храма
Збірае занядбаных Бог,
Каб ты спыніўся — і таксама
Чужому гору дапамог".

## Перад тым, як вярнуцца…

Наляжаліся хлопцы ў зямлі,
Аднадумцы мае, суразмоўцы.
Без дарог, што нас побач вялі,
Наляжаліся хлопцы.

Адышлі нечакана яны,
І разлука трывожыць, як рана:
У журботныя згадкі і сны
Адышлі нечакана.

Падымаю з нябыту вышэй,
На блакітную нашу арбіту,
Да апошніх сустрэч, да вачэй
Падымаю з нябыту.

Праплываюць маўкліва яны,
Нерэальна жывыя надзіва, —
Паасобку, адзін за адным,
Праплываюць маўкліва.

Ці мяне яны бачаць адтуль?
Не ўсміхаюцца ў небе, не плачуць,
Не махаюць рукой на ляту.
Ці мяне яны бачаць?

Пройдзе час — падымуся да іх.
Сам у воблачка я абярнуся
І навекі да іх, дарагіх,
Прыйдзе час — падымуся.

Перад тым, як вярнуцца ў зямлю,
Усміхнуцца няхай, усміхнуцца —
І ў палёце высокім замруць
Перад тым, як вярнуцца.

## Патрабавальны да пракокаў час

— Прарок! — крычалі.
— У стагоддзе раз
Паэт такі ўзвышаецца над светам!..
І заклікалі нас: ідзіце следам.
А той паэт успыхнуў і пагас.
Як ламавік, сапе яго Пегас.
Ці многа ў нас сучаснікаў-паэтаў
З магутным словам і аўтарытэтам?
Патрабавальны да пракокаў час.

Натхняюць жыць
і славіць дзень высокі
Яны, мае крылатыя прарокі.
З чужой падставы слухаць не хачу
Я тых, хто на пасад Купалаў лезе, —
За горад еду, каб хутчэй пачуць
Над полем жаўранка,
зязюлю ў лесе.

## Прырода

Паўторы
Без паўтораў —
У прыродзе,
Кантрастны свет,
Заснаваны на згодзе.

Вясна і лета,
Восень і зіма,
А сумнай аднастайнасці —
Няма.

Смуга туманіца,
Дажджыць ці снежыць —
Усё душу мілуе,
Сэрца цешыць.

Штодзень
Займае сонца
Свой пасад,
Заходзіць
І вяртаецца назад.

Зямлю і неба
Лучаць поры года,
Таму яна і вечная,
Прырода.

## Камарык

Падсочваліся сосны-беражніцы,
І трапіў ён у кропельку жывіцы.

У штыль і ў буру мора працавала,
Каб залатым бурштынам смолка стала.

Камарыка галублію я вачыма,
Жыццё крывінка ёсць у ім, магчыма.

Здаецца, раскалі бурштыну шарык —
І загудзе рэліктавы камарык.

## Кладачка

На кладачцы сустрэліся,
Сышліся — вочы ў вочы:
Яна трымціць над рэчанькай,
І ён не можа збочыць.

А кладачка гайдаецца,
Парыпвае трывожна,
Нібы сказаць стараецца,
Як разысціся можна.

Збянтэжыліся бедныя,
Да чырвані гарачай:
Яна яго не ведае,
І ён яе не бачыў.

А кладачка гайдаецца,
Вада шуміць унізе —
І рукі іх збліжаюцца,
І рукі іх спляліся.

Падняў яе і, ціхую,
Нясе ён асцярожна,
Нясе ён — і не дыхае,
Бо аступіцца можна.

А кладачка гайдаецца,
Зрадніла іх употай:
Яна яму ўсміхаецца,
І ён глядзіць з пяшчотай.

Не знаюць, што наперадзе,
Ды час спыніўся быццам, —
Не могуць і на беразе
Пра кладачку забыцца.

## За морам недзе — рай і на зямлі

За морам недзе — рай і на зямлі.
І марыў я пад навальнічнай хмарай
Хоць колькі дзён пагрэцца на Канарах.
Аселя мы пасля вайны жылі
На "палачкі" — калгасныя рублі.
І потым, дзе і як ні гаспадарыў,
Не змог угнацца за крылатай марай, —
Гадай цяпер, ці збудзецца калі.

Калега мой пацвельвае вясёла:
"На сотках дачных загарай, Мікола!
І тэлек уключай —
там свет без меж,
Зямля і неба ў сонечным блакіце:
Сягоння на Канарах адпачнеш,
А заўтра — на Багамах ці на Крыце".

## Начное свята запрашае ў круг

Начное свята запрашае ў круг,
Па-маладому і пяе і танчыць.
А я стаю як Божы адуванчык:
Падзьмі — і абляціць апошні пух.
Не грэе кроў і не бадзёрыць дух,
Пыляцца ў вёсцы, на сядзібе дачнай,
Вятроўка і дарожны чамаданчык, —
Касцёр начлежны мой даўно патух.

Няўжо калісьці, адуванчык Божы,
Я залаціўся ўсмешкаю прыгожай?
Дзявочы голас ціха пазаве
У свет юнацтва, ясны і лагодны, —
І я апошні пух на галаве
Хаваю ўпотай пад берэцік модны.

## Мінулае

Не забываецца мінулае,
Яно абавязкова адгукнецца —
Пчалой,
Агнём
Ці тою куляю,
Што некалі не закранула сэрца.
Яно, далёкае, падпольнае,
Яшчэ ўсплыве,
Паставіць перад фактам:
Аддзячыць мёдам,
Дойме полымем,
А вінаваты —
І заб'е інфарктам.



Віктар КУНЦЭВІЧ

## Мяжуе слота з пазалотай

* * *

Лашчыцца мне ў вочы
Восень пасля ночы.
Котачкаю рыжай
Даль туманы ліжа.
На пустых палетках,
Жоўтых ад лістоты,
Танчыць танга ветрык —
Адчуваю дотык
На душы і ў сэрцы
Сумнай прыгажосці…
Выйдзе час памерці,
Дай жа Бог — увосень.

* * *

Неба нізкае, а дождж
Дробны-дробны,
Сумна-шэры.
Дрэваў жоўтыя шпалеры
Паміж вёсак, гарадоў.
Блішча шэрая дарога,
Рухавік пяе самотна —
І за новым паваротам
Тыя ж шэрань і маркота.
Лета ў вырай паляцела —
Не дагнаць яго машынай.
І палае арабіна
У сляце асенняй смела.

* * *

Далягляд, далячынь,
Чым душу мне лячыць?
Яе лётаць вучыў
Ясным днём, уначы.
Мары ўсе на спачын,
Плач. Парвіся-крычы!
Хвацка лёс правучыў:
Дол, затым — далячынь.

## Ноч

Ноч коўдрай скінулася з неба.
Асілак-сон кладзе людзей
На адпачынак.
Спачыць трэба
І радасці, і злой бядзе.
А ў небе зорачкі — то душы
Ад спячых цел на волю йдуць,
Каб мары і надзеі гушкаць,
Каб зверху на людзей зірнуць.
Дый удыхнуць у сны малюнкі,
Нібы цудоўны вернісаж,
Паслаць праз космас пацалункі
У ціхі час,
Паўночны час.

* * *

Мяжуюць слота з пазалотай —
Вятры, імжа, туман.
Сярод журбы,сярод маркоты
Брыдзе кастрычнік-пан.
Трасе агністаю лістотай
З маўклівых мокрых дрэў.
Азяблая зямлі істота
На доўгі час замрэ.
У неспакоі і разладзе
Яе касмічны дух,
Які няволіцца ў абладзе
Жыццёвых завірух.

* * *

Раскідала восень думкі па завулках.
Думкі мае, думкі —
рыжыя лісты.
Паміраюць думкі
ад маркоты гулкай,
Дагараюць думкі
ў промнях залатых.
І душа пусцее, як спусцелі дрэвы.
І халодны сівер стукае ў акно.
Можа, то не вецер,
можа, ўсплёскі гневу.
Можа, ўсплёскі страсці,
што жылі даўно?
І зімовы холад
хутка сцісне сэрца.
І замруць пачуцці
ў векавечным сне.
І трывогу бачыць
злыя вочы смерці
Супыняе мара —
мара аб вясне.

* * *

У сумных вачах
Гайдаецца восень.
Дзень скончыў свой шлях —
Уздрыгвае просінь.
А раніцай сонца
У сумныя вочы
Зірне — і бясконцасць
Нябесная хоча
У іх застацца,
Гарэць, залаціцца…
Няма сіл змагацца,
Няма сіл спыніцца!
Каханка смяецца:
"Я знаю, ты хочаш
Глядзець і глядзецца
У сумныя вочы".

* * *

А восень ціха адгарэла —
У прысаку адны вуглі.
Цягнік ляскоча ашалела:
Ён звозіць восеньскія дні,
І мне ў самоце падалося,
Што не дагнаць цягнік жыцця
І не вярнуць паэтку-восень
Як не крычы ў нямы працяг.



Фота Яўгена Шастакова

Сумесны праект штотыднёвіка «ЛіМ»
і Нацыянальнай кніжнай палаты Беларусі

# КНІЖНЫ СВЕТ

10 верасня 2010 г.

Выпуск 13

# Профессия актёра-диктора жива

Литература и радио всегда были неразрывно связаны. Стихи и проза, звучавшие из динамиков с самого начала появления радиоприемника, вызывали огромный интерес у слушателей. Часто радио для многих людей было единственным источником художественного слова. Об особенностях существования литературы на радио — наша беседа с Олегом Винярским, актером и режиссером Белорусского радио, который за много лет работы прочел в эфире множество произведений зарубежной, белорусской и русской литературы.



— Олег Александрович, как так получилось, что вы, актер, начали выходить в эфир именно с литературными произведениями?

— Я всегда был пленен литературой, чувствовал, что есть резервы, которые должны когда-то себя проявить. И именно в чтении художественных произведений этот литературный потенциал нашел выход. В то же время мне хотелось быть и актером, а как быть им, если находишься за пределами театра? Тогда я не знал, что существует радиотеатр, удивительное явление с долгой и интересной историей, которое меня не отпускает до сих пор.

— Во время вашего прихода на радио здесь уже существовала традиция чтения?

— Белорусская традиция чтения литературных произведений ведет свой отсчет с давних пор. Мы все, кто приходил на радио в 1980-е, видели, какое богатство хранится здесь, в Доме радио, — не только записи спектаклей, но и голоса людей, которые создавали этот золотой фонд. Люди, сформировавшие белорусское вещание, вышли именно из театральных коллективов. Актеры проживали здесь совершенно иные жизни. Нужно вспомнить блистательных мастеров жанра — таких, как народные артисты Советского Союза Глеб Глебов, Леонид Рахленко, Лидия Ржецкая, Борис Платонов, Роман Филипов, Виктор Тарасов, народные артисты Беларуси Лилия Давидович, Зинаида Броварская, Павел Дубашинский. Не могу не сказать еще об одном человеке, который оказал огромное влияние на становление моей творческой индивидуальности, — заслуженный артист Беларуси Игорь Лаптинский — режиссер, благодаря которому я в 1986 году сыграл главную роль в радиоспектакле "Мой генерал" по повести Альберта Лиханова. Тогда же встретился и с народной артисткой Советского Союза Стефанией Станютой, моим учителем по театральной школе Матвеем Федоровским.

— Кого из чтецов старшего поколения можете назвать своими учителями?

— Когда я пришел на радио в качестве диктора-стажера, здесь работал целый отряд дикторов, которые учились у московских педагогов. Сюда приезжали классики мастерства Ольга Высоцкая, Юрий Левитан, Владимир Герцик. Это было поколение дикторов, воспитанных мхатовскими актерами. Потом у нас появились свои педагоги, которые умели научить плавно переносить ударение во фразе так, что даже информационный выпуск был гармоничным и изящным по форме. Тогда же образовалась группа педагогов, с которыми мне пришлось работать. В нее входили заслуженные артисты Беларуси Лилия Стасевич, Галина Сидельникова, Илья Курган, Галина Еременко, Владимир Шелихин, Николай Чирик. Я бы хотел отметить и тех могучих актеров и чтецов, без которых не представляю своего роста. Это Игорь Ильинский, замечательный чтец, актер и киноартист, он и по сей день остался образцом умения заразительно передавать, доносить мысль и чувства автора. Ростислав Плятт, актер, который сделал радио своей второй профессией, был неподражаем как интерпретатор зарубежной классики, один из лучших голосов, живой, легкий, подвижный. Незабываемый чтец Михаил Ульянов, с каким чувством уверенности проникновенный он читал Василия Шукшина "Я пришел дать вам волю". Из современных артистов я преклоняюсь перед Сергеем Юрским, одним из чтецов, который сохранил свою уникальную манеру, неизбывную тягу к эксперименту.

— Сегодня радио у нас ассоциируется с образом озорного ди-джея. А вы говорите о дикторе как о профессии.

— Профессия диктора еще жива, и не нужно ее воспринимать как нечто архаическое, несовременное. По-прежнему люди пишут письма на радио, называют человека, к которому обращаются, "диктор". В то же время мы говорим о том, что сегодня часто слышим на радио неправильные ударения, неверные интонации, не совсем подходящие голоса. И я это связываю с тем, что, к сожалению, утрачен институт дикторства, который стоял отдельно в нашей культурной традиции и существовал только на радио и телевидении. Утрачено ощущение своего авторского начала в предложении, абзаце, периоде. Если думают, что читать просто, что читая не нужно тратиться, люди глубоко заблуждаются — в чтении нужно прежде всего добиться того, чтобы тебе поверили и сделали акцент на то, что вот этого человека мы будем слушать.

— Вы уже достаточно долго читаете в эфире литературные произведения. Менялось ли за это время отношение к литературе на радио, да и сама литература?

— Действительно, очень много прочитано. Сначала "литературные" выходы в эфир были достаточно спорадическими, не было длительных чтений, "радиосериалов", как я их называю. Радиосериалы начали появляться в 1990-е. В конце 1980-х информационное и литературное пространство стало более доступным, возникла массовая литература, но и классическая оставалась актуальной. Популярная литература давала читателю и слушателю новое — мистические истории, триллеры, темы западной традиции вплоть до нарушения табу. Мы узнали и литературу белорусской эмиграции. В конце 1990-х мы начали искать совершенно иной литературный материал. Обратили внимание на детективы.

(Продолжение на стр. 2)

## Аўтограф




### Нягледзячы на стэрэатыпы

Госцем "Кніжнага свету" на гэты раз стаў Зміцер Сасноўскі, кіраўнік гурта сярэднявечнай музыкі "Стары Ольса".

— Зміцер, якія кнігі вы чытаеце?

— Большасць літаратуры, якую я чытаю, прысвечана гісторыі музыкі. На жаль, у Беларусі няма ні падручнікаў, ні дапаможнікаў па гісторыі беларускай музыкі. Таму даводзіцца чытаць польскія, літоўскія, чэшскія. Апошняй кнігай, што мяне ўразіла, была праца Нікалауса Арнанкура "Музыка як мова гукаў".

— А з беларускай літаратуры кнігі якіх аўтараў вас уражваюць?

— У першую чаргу гэта творы Уладзіміра Караткевіча. Кожны раз, адкрываючы яго кнігі, часам нават зусім выпадкова, знаходзіш адказы на пытанні, што цябе хвалююць. Асабліва значнай для мяне з'яўляецца аповесць "Ладдзя роспачы". Яе можна чытаць у любым кепскім стане і настроі, і ён адразу ж паляпшаецца. Аповесць гэтая прыцягальная найбольш тым, што ў ёй Уладзімір Сямёнавіч, нягледзячы на існуючыя стэрэатыпы добрых і кепскіх паводзінаў, піша пра рэгулярнае ўжыванне алкаголю, увагу да жанчын. Да таго ж, праз "Ладдзю роспачы" можна шмат над чым паразважаць, у першую чаргу пра смерць як вызначальнік жыцця зараз.

Аўтограф брала Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: Зміцер Сасноўскі — чытачам "Кніжнага свету": "Паболей чытайце Караткевіча!"

Фота аўтара
Калаж Віктара Калініна

## Вітрына



# Лепшая сяброўка дзяцей

Кнігарня "Вильно", што знаходзіцца ў Мінску па адрасе: вул. К. Каліноўскага, 55, у гэтым годзе адсвяткавала сваё 35-годдзе. Цёплая атмасфера і гасціннасць супрацоўнікаў дадаюць своеасаблівага шарму гэтай невялікай кніжнай краме.

За час існавання (з 1975 года) кнігарня перажыла шмат змен і новаўвядзенняў. "У мінулым годзе было цалкам зменена ўсё абсталяванне крамы, інтэр'ер стаў больш зручны для пакупнікоў. — расказвае дырэктар кнігарні Тамара Філіпеня. — Вельмі задаволенымі засталіся малады мамы і іх дзеткі, бо стэнд з дзіцячай літаратурай цяпер знаходзіцца адразу каля ўваходу ў краму, тут хапае месца нават для дзіцячых калясак".



І сапраўды, у "Вильно" прадстаўлены шырокі выбар дзіцячай, забаўляльнай і вучэбнай літаратуры для школьнікаў. Таму кнігарня мае заслужаны аўтарытэт сярод вучняў і іх бацькоў. Зручна размешчаны аддзелы крамы. Пасля аддзела дзіцячай літаратуры знаходзіцца канцылярскі, які таксама дапамагае маленькім наведвальнікам рыхтавацца да школы. Паліцы з мастацкай, вытворчай літаратурай і класікай размешчаны ў глыбіні магазіна. Шырока прадстаўлены і слоўнікі, і кнігі па тэхнічных навуках, філасофіі, юрыспрудэнцыі, філалогіі. Самае пачэснае месца ў краме займае стэнд з кнігамі беларускіх выдавецтваў. Кнігарня мае свой сайт у Інтэрнэце, на якім падаецца інфармацыя пра кніжныя навінкі, акцыі і зніжэнні цэн. Працуе паслуга "Кніга поштай".

(Працяг на стар. 2)

## Унікальныя выданні



Па выніках Нацыянальнага конкурсу "Мастацтва кнігі-2010", пераможцам у намінацыі "Лепшая дзіцячая кніга" стала кніга казак Ясеніі Сцяпанавай "Купалінка" (выдавецтва "Мастацкая літаратура"). Рэдактар выдання Наталля Філіповіч і загадчык рэдакцыі мастацкага афармлення Надзея Барай дапамаглі карэспандэнту "ЛіМа" выявіць асаблівасці кнігі.

# Купалінка-пераможца





Галоўнае, на што звяртаеш увагу, калі ўпершыню гартаеш "Купалінку" — гэта яе адмысловая структура. Так, для выдавецтва "Мастацкая літаратура" "Купалінка" — першае выданне для дзяцей, у якім кожны твор прапануецца чытачам як у беларускамоўным, так і ў рускамоўным варыянце. Аўтар тэксту — Ясенія Сцяпанава – прапаноўвала змясціць і эквівалентныя тэксты на англійскай мове, але эканамічныя сродкі выдавецтваў заўсёды абмежаваныя…

Тым часам добры попыт на кнігу сведчыць, што двухмоўнасць "Купалінкі" прываблівае сучасных чытачоў. Кніга дае магчымасць дзецям супаставіць тэксты на розных мовах, выявіць адрозненні паміж імі, высветліць значэнне незразумелага слова. Параўноўваючы рускамоўную казку з беларускамоўнай, дзіця будзе больш уважліва, удумліва чытаць кнігу, развіваць сваё маўленчыя здольнасці, удасканальваць веданне абедзвюх моў. Таму, як спадзяецца Наталля Філіповіч, выданне мае быць прывабным не толькі для свядомых бацькоў, але і для выхавацелек дзіцячых садкоў, настаўніц пачатковай школы. Ідэя двухмоўнай кнігі належыць Ясеніі Сцяпанавай, але Наталля Філіповіч лічыць цалкам мэтазгодным і надалей выдаваць кнігі для дзяцей у такім карысным фармаце.

Другая адметная рыса кнігі — вялікая колькасць ілюстрацый, выкананых вядомым спецыялістам у галіне станковай і кніжнай графікі Валерыем Славуком. Для творчай манеры гэтага майстра ўласцівая скрупулёзная прапрацоўка, увага да дэталей, філіграннае валоданне штрыхом. Дасціпныя ілюстрацыі робяць кнігу элегантнай і высакароднай.

Вырашаючы ж пытанні кампаноўкі і афармлення, Валянцін Макаранка — мастацкі рэдактар выдання — таксама вырашыў пайсці своеасаблівым шляхам. Для таго, каб увесці маленькага чытача ў казку, стварыць адпаведны настрой, перад кожным тэкстам (і рускамоўным, і беларускамоўным) даюцца 3-4 разваротныя ілюстрацыі, якія ў адпаведнасці з сюжэтам выяўляюць пэўныя падзеі твора. Следам за ілюстрацыямі ідзе ўжо непарыўны тэкст казкі, упрыгожаны адно пейзажамі-застаўкамі і буквіцамі. У афармленні дзіцячай кнігі такі ход выкарыстаны ўпершыню — звычайна так афармляюць альбомы ці мастацкую літаратуру.

Кожны твор мае свой шмуцтытул, але ілюстрацыі да першай паловы казкі змешчаныя перад беларускамоўнымі творамі, ілюстрацыі ж да другой часткі ідуць перад рускамоўным варыянтам тэксту. Таму, незалежна ад таго, якой мовай карыстаецца дзіця ў паўсядзённым ужытку, кожная старонка кнігі будзе прагартаная. А вясёлыя казуркі, што жывуць у зарасніках папараці на форзацы, распаўзліся-разляцеліся па канцоўках усіх казак…

Дарэчы, гісторыя з'яўлення "Купалінкі" таксама даволі незвычайная. Ясенія Сцяпанава прынесла ў выдавецтва ўжо зробленую кніжку з гатовымі ілюстрацыямі — праўда, выданне 2007 года існавала ўсяго ў некалькіх экзэмплярах. А ў 2009 годзе наведвальнікі маглі бачыць ілюстрацыі Валерыя Славука на выставе ў Дзяржаўным лялечным тэатры і ў галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. На малюнках — прынцэсы, чараўніцы, рыцары, буслы, зачараванае аленяня, баба Юга з Кашчэем Бессмяротным, шматлікія іншыя героі казак Ясеніі Сцяпанавай.

У кнізе змешчаныя дзве казкі і адна быліна — шэсць паўнавартасных твораў з улікам двухмоўнасці выдання.





Казкі напісаныя як стылізацыя пад народныя. Фантастычныя героі і чароўныя здарэнні збольшага маюць аналагі ў фальклоры, аднак казачныя элементы спалучаюцца так адвольна і своеасабліва, што творы Сцяпанавай зусім не нагадваюць пераказы вядомых казак з заменай некаторых персанажаў ці нязначным ускладненнем фабулы.

Аднак пісьменніца галоўным чынам апісвае дзівосныя здарэнні і мала засяроджваецца на псіхалогіі дзеючых асоб, амаль не абмалёўвае казачны антураж. З-за гэтага, а таксама з-за сцісласці, лаканічнасці выкладання творы падаюцца некалькі схематычнымі. Здольнасць пісаць прыгожа і паэтычна, ствараць цікавыя сюжэты дае падставу думаць, што з цягам часу маладая пісьменніца адчуе сябе больш самастойнай і выпрацуе ўласную манеру пісьма. Зрэшты, на час напісання казак Ясеніі Сцяпанавай было ўсяго сямнаццаць гадоў.

Сюжэты ж "Купалінкі", па словах пісьменніцы, нарадзіліся пасля святкавання Купалля ў бабулі Фені, на Рагачоўшчыне. Ужо тады дзяўчына мела пэўны літаратурны вопыт: яе першая кніга — паэтычны зборнік "МАРА" — выйшла ў 2003 годзе. Сёння Ясенія Сцяпанава працягвае займацца творчасцю, прычым не толькі літаратурнай: падчас прэзентацыі "Купалінкі" ў "Лабірынце" экспанаваліся і ілюстрацыі, зробленыя самой пісьменніцай.

Дарэчы, выдавецтва "Мастацкая літаратура" працуе над серыяй "Казкі XXI стагоддзя", у якой часта выходзяць творы маладых пісьменнікаў. І кожны пакуль невядомы, але таленавіты казачнік мае магчымасць выдаць тут сваю першую кнігу!

Алеся ЛАПІЦКАЯ

На здымках: вокладка кнігі "Купалінка", ілюстрацыі да казак "Купалінка" і "Берагіня".

## Пад вокладкай











1. Дайнека, Л.М. Назаві сына Канстанцінам / Леанід Дайнека. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2010. — 448 с.

"Раман Назаві сына Канстанцінам", які калісьці друкаваўся ў часопісе "Маладосць", выйшаў асобнай кнігай у серыі "Святло мінуўшчыны". Аўтар, ужо добра вядомы шырокаму чытачу, не здраджвае гістарычнай тэматыцы. На гэты раз падзеі рамана перанясуць чытача ў XV-XVI стагоддзі, у розныя мясціны — Рым, Вялікае Княства Літоўскае, Канстанцінопаль, які штурмуюць туркі-асманы. Заключныя сцэны рамана — славутая Аршанская бітва 8 верасня 1514 года, у якой гетман Канстанцін Астрожскі разграміў войска вялікага маскоўскага князя.

2. Кавалёў, С. Шматмоўная паэзія Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу: манаграфія / Сяргей Кавалёў. — Мінск: Кнігазбор, 2010. — 376 с.

У сваёй манаграфіі даследчык літаратуры Сяргей Кавалёў разглядае шматмоўную паэзію Вялікага Княства Літоўскага эпохі Рэнесансу як агульную спадчыну літоўскага, беларускага, украінскага, польскага народаў, як састаўную частку шматмоўнай беларускай літаратуры даўніх стагоддзяў. У кнізе аўтар на аснове сваіх ранейшых публікацый і новых распрацовак падрабязна ўзнаўляе гісторыю развіцця паэтычнага жанру ў Літве і Беларусі ад пачатку XVI да пачатку XVII ст.

3. Шереметьева, Т.Л. 100 самых красивых мест на земле, которые необходимо увидеть / Т.Л. Шереметьева. — Мінск: Харвест, 2010. — 320 с.

На старонках кнігі можна пазнаёміцца з геаграфічнымі, прыроднымі, кліматычнымі асаблівасцямі, месцаў нашай планеты, якія ўжо сталі агульначалавечымі каштоўнасцямі. Не толькі пабачыць іх выявы на фотаздымках, але і прачытаць пра адметнасці культуры рэгіёна, характэрныя спосабы баўлення часу ў пэўным месцы. Гэта можа быць як наведванне парку ці рэстарана, так і — для аматараў экстрыму — нават небяспечныя прыгоды: узыходжанне на Кіліманджара, удзел у сафары.

4. Дашкевич, Татьяна Муравей идёт домой / Татьяна Дашкевич. — Издательство Дмитрия Харченко, 2009. — 36 с.

У гэтай кнізе для дзяцей Тацццяна Дашкевіч у вершаванай форме расказвае не толькі пра жыццё і звычкі насельнікаў мурашніка, але і разам з Мурашом падарожнічае па свеце. Праз акіяны і моры, Афрыку і Антарктыду, пушчу і пустыню, тропікі і экватар, лес і стэп. Мураш шукае дарогу дадому, разам з тым знаёміцца з жыхарамі розных кантынентаў, прыродных і кліматычных зон.

5. Чижова, Елена Время женщин / Елена Чижова. — Москва: АСТ, Астрель, 2010. — 352 с.

Раман Алены Чыжовай, кандыдата эканамічных навук, дырэктара Санкт-Пецярбургскага аддзялення Рускага ПЭН-клуба стаў не толькі лаўрэатам прэміі Рускі Букер (2009), але і атрымаў вялікую прыхільнасць сярод чытачоў (але, думаецца, пераважна сярод чытачак). Лёс галоўнай гераіні рамана — свайго кшталту іранічны парафраз на тэму народнага фільма "Москва слезам не верит". Ціхую "лімітчыцу" "Антаніну спакушае піцерскі "стыляга". Яна нараджае ад яго дачку, у хуткім часе памірае і пакідае дзяўчынку суседкам па камунальнай кватэры. Пра іх, пра "тое" жыццё і вядзе аповед ужо дарослая дачка гераіні, мастачка.

З кнігамі знаёміла Марына Весялуха

Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by

# Кароткія апавяданні

Іван СТАДОЛЬНІК



## Букецік

Ужо каторы год жыву я ў кватэры на першым паверсе. Прывык да розных галасоў пад вокнамі, да тупаніны, бегатні малечы, ды і дарослых людзей. А вясной і летам у кустах, якія раскашуюць у двары, збіраецца самы што ні на ёсць птушыны кірмаш. Ледзь толькі-толькі начная цемень разбавіцца рэдзенькай сінькай раніцы, як нечакана ціўкне якаясьці птушка. За ёй — другая, трэцяя, чацвёртая. І тут жа пачынаецца сапраўдны гармідар: нібыта сотні самых сварлівых жанчын сабраліся разам і пачынаюць вырашаць нейкую бурную гарачую спрэчку, стараючыся перакрычаць адна адну.

Асабліва стараюцца вераб'і. У іх як усё роўна конкурс: хто каго перакрычыць. Шчыруюць ад душы, мне нават не церпіцца ўстаць і разагнаць усю іхнюю плойму.

А яшчэ пад самым акном спальнага пакоя ёсць невялічкая заасфальтаваная пляцоўка. Яна на паўметра ўзвышаецца над зямлёй, атуленая з трох бакоў кустамі бэзу, чаромхі. Растуць тут невядома кім пасаджаныя сліва і абрыкос. Але мала якія слівкі і абрыкосіны даспяваюць, даседжваюць да сваёй пары. І дзеці, і дарослыя абрываюць іх яшчэ зялёнымі, што таксама прыносіць мне шмат душэўнай трывогі.

На пляцоўцы, якая летнімі днямі бывае цёплая, як печ, любяць гуляць дзеці. І сваім шчабятаннем у пазнейшы час падмяняюць птушак, якія са з'яўленнем малых некуды прападаюць аж да самай ночы. Адным словам, сумаваць не выпадае.

Гулялі дзеці і ў тую суботу. Гаманілі, спрачаліся, смяяліся. Чамусьці заўсёды я станаўлюся хоць і міжвольным, але зацікаўленым слухачом гэтага іхняга смеху, спрэчак, а калі ўжо выведуць з сябе, то і суддзёй. Даводзіцца і накрычаць на каго з крыўдзіцеляў, і суцешыць, падтрымаць пакрыўджанага, зрабіць заўвагу, каб малыя не ламалі дрэўцаў, не смяцілі на пляцоўцы, словам, станаўлюся добраахвотным выхавальнікам.

Вось і цяпер я міжволі прыслухоўваюся, як гуляюць дзеці. Гулялі яны ў нейкую сваю вельмі важную для іх гульню. І смяяліся, і спрачаліся, і нават пачыналі сварыцца. Але потым у іхняе заклапочанае шчабятанне ўварваўся плач дзяўчынкі гадоў трох-чатырох. Такое ў іх часта бывае. Ад весялосці да плачу ў малога пераход кароткі. Але дзяўчынка пачынала плакаць усё мацней, пратэстуючы супраць нейкай вялікай для яе несправядлівасці. Другая дзяўчынка, відаць, старэйшая, крычала на некага, мусіць, на тую ж самую малую:

— Спі, кажу! Чаму не спіш?!

Услед за гэтым покрыкам-загадам пачулася глухое сцёбанне дубца.

Дзяўчынка заплакала яшчэ мацней. Я пачаў разумець, што старэйшыя дзеці сур'ёзна прымушаюць сваю меншую сяброўку спаць, хоць і самая сярэдзіна чэрвеня, але ў дварэ каторы ўжо дзень было халаднавата. Заасфальтаваная пляцоўка, вядома ж, была халодная, і малой не доўга было прастудзіцца, паляжаўшы хоць і трошкі на ёй. Я адчуў, што прыходзіць самая пара ўмяшацца ў гульню дзяцей, заступіцца за малую.

Ціхенька адхінуў фіранку і пад акном убачыў, што на ахапку крыху падвяленай травы ляжыць дзяўчынка ў чырвонай куртачцы, гэткіх жа чырвоных калготках і беленькіх сандаліках. А вакол яе стаяць тры большанькія за яе дзяўчынкі і хлопчык. Сярэдняя дзяўчынка, гадоў пяці-шасці, заўважыла мяне ў акне, шапнула астатнім:

— Глядзіцы!..

Я пачаў адчыняць акно. Дзеці, як нехаця, адступіліся, відаць, мала баючыся мяне, бо не бачылі ў сваёй гульні нічога такога дрэннага.

— Што вы робіце? Навошта з малой здзекуецеся?! — напускаючы на сябе як мага больш сур'ёзнасці, сказаў я.

— А мы ў садзік гуляем!.. — зусім па-свойску, даверліва падбегла да самага акна дзяўчынка, якая заўважыла мяне першай.

Малая ў чырвонай куртачцы борздзенька ўсхапілася са свайго мусовага "ложка", адразу ж перастала плакаць і таксама даверліва і з удзячнасцю паглядзела на мяне.

— Яна ж прастудзіцца і захварэе! — стараючыся быць яшчэ больш сярдзітым, зноў загаварыў я. — Ды яшчэ і насмецілі колькі. Цётка-дворнік будзе сварыцца заўтра.

Хлопчык хуценька ўзяўся скідваць нагой з пляцоўкі сена. І так ужо шчыраваў, што я ажно залюбаваўся, шкадуючы, што, размаўляючы з малымі, напусціў на сябе залішняй строгасці. І тут заўважыў, як у той дзяўчынкі, якая першай убачыла мяне, у руцэ з'явілася невялікая кветачка з белымі, як у рамонка, пялёсткамі, на кароценькай ножцы. Дзяўчынка падбегла бліжэй да акна і працягнула мне кветачку:

— Вазьміце!..

— Ну-у... дзякую, — збянтэжана ўсміхнуўся я і неяк машынальна ўзяў кветачку.

— А ў вас маленькая дзяўчынка ёсць? — гэтак жа даверліва і як вінавата, гледзячы мне ў вочы, ні з таго, ні з сяго запыталася малая.

— Ё-ёсць, — ужо зусім далікатна і крыху сарамліва ўсміхаючыся, нібы і не было толькі што той ранейшай напускной строгасці, адказаў я. — Яна цяпер у вёсцы, у бабулі.

— А-а, — праспявала малая неяк па-даросламу. І тут яна зноў нырнула некуды пад самае акно і вынырнула ўжо з букецікам кветак. Праз маладзенькую зеляніну лісця тапырыліся пяшчотныя галоўкі ружаў, анюціных вочак, а ў самой сярэдзіне, як язычкі полымя, жаўцелі пялёсткі касача.

— Вазьміце, дзядзечка, — ажно стаўшы на дыбачкі, падала букецік малая.

Я яшчэ больш збянтэжыўся і хацеў адмовіцца ад нечаканага прэзенту, але ў вачах малой было столькі шчырасці, нейкай невядомай мне заклапочанасці, столькі душэўнай чысціні, што ў мяне нават язык не павярнуўся гэта зрабіць.

Падаўшы букецік, дзяўчынка пабегла зноў да сяброў, і адразу ж пакінула мяне без усякай увагі. Я таксама не стаў перашкаджаць малым, пачаў зачыняць акно, адначасова мяркуючы, куды б гэта паставіць падараваны букецік. Тут да мяне даляцеў прыглушаны голас старэйшых дзяўчынак. Яны дакаралі шчодрую сяброўку:

— Навошта аддала? Цяпер зноў будзем ірваць?

Мне зрабілася неяк не па сабе. Хацеў быў зноў адчыніць акно і вярнуць той букецік малым, як раптоўна лінуў буйны дождж. Малыя кумільгом кінуліся ўцякаць, у імгненне вока зніклі за вуглом дома. Мусіць, яны і не паспелі схавацца, як дождж гэтак жа раптоўна, як і пачаўся, перастаў. І зноў ярка і шчодра засвяціла сонца.

Я паспеў ужо наліць вады ў вазу і паставіць букецік на падаконнік, пад якім толькі што гулялі малыя, на самым відавоку, як дзеці з'явіліся зноў. Яны ўжо не сварыліся, не крычалі, гулялі ціха, мірна, калі-нікалі паглядаючы з вялікай павагай на букецік. Мне здалося, што яны ўжо ніколечкі не баяліся мяне, а як усё роўна саромеліся дурэць на віду ў букеціка, які глядзеў на іх сваёй маўклівай, ціхай прыгажосцю…

## Гартманаўшчына

Вёска Восава да вайны была даволі вялікая. Яна і цяпер не маленькая. У маладыя гады праз яе Міхалюк Кастусевіч ездзіў на веласіпедзе ў суседнюю Бярозаўку, дзе загадваў мясцовым сельскім клубам.

Восава месціцца якраз на паўдарозе паміж Бярозаўкай і Янковічамі, і Міхалюку дабірацца на працу праз Восава было і зручней, і на які кіламетр-другі бліжэй. А яшчэ тут жыло шмат Міхалюковых аднакласнікаў, з якімі ён калі-нікалі сустракаўся. Праўда, вялікага сяброўства з імі не было, але ўсё часцей і часцей узнікала патрэба спаткаць каго-небудзь са сваіх. Асабліва хацелася пабачыць Валодзю Касцюкоўскага і яго меншага брата Віцю. Чаму? Ды, мабыць, таму, што браты, як і Міхалюк, былі сіратамі.

Пасля заканчэння Янковіцкай сямігодкі браты некуды з'ехалі, казалі, у Калінінград, і больш Міхалюк з імі не бачыўся.

Сам Міхалюк пасля трохмесячнай працы загадчыкам Бярозаўскага клуба паступіў у інстытут і атабарыўся ў горадзе. Але заўсёды, калі прыязджаў дамоў, яму чамусьці хацелася сустрэцца з братамі Касцюкоўскімі, ці хоць што пачуць пра іх ад землякоў.

На гэты раз, калі прыехаў дамоў у госці, даведаўся, што з Восава ў ягоную вёску перасялілася сям'я Васюкевічаў. І Міхалюк, каб што-кольвек даведацца ад прыезджых восаўцаў пра братоў Касцюкоўскіх, пашыбаваў да навасёлаў, якія жылі цераз хату ад яго маці, у нядаўна пабудаваным калгасным катэджы.

Самога гаспадара і гаспадыні дома не было. На канапцы сядзеў вельмі стары чалавек і глядзеў тэлевізар.

Міхалюк пазнаёміўся са старым, і Валяр'ян Канстанцінавіч расказаў, што нядаўна ў Восава прыехаў Віктар Касцюкоўскі, а пасяліўся ў старэйшай сястры, бо ягоная хата струхлела і цяпер жыць у ёй нельга.

— У гартманаўскай частцы Восава жыве Віктарава сястра, — неяк сумна глянуўшы на Міхалюка, сказаў дзядуля. — Тых гартманаўскіх хат ужо зусім не засталося. Пазгнівалі.

Міхалюк і раней чуў, як другі канец вёскі ў Восаве пажылыя восаўцы чамусьці называлі Гартманаўшчынай, але не надаваў гэтаму ўвагі, лічыў, што прыжылася нейкая мясцовая вясковая мянушка. Цяпер жа сказанае старым чамусьці вельмі зацікавіла і заінтрыгавала.

— А што гэта за Гартманаўшчына такая? Я толкам не ведаю, што і да чаго? — спытаў Міхалюк.

Стары павярнуўся да яго, прыўзняў на лоб акуляры і паглядзеў на Міхалюка, як на дзівака, потым паказаў на канапу:

— А чаго ты стаіш? Сядай. У нагах праўды няма. Але выключы тэлевізар, і я табе раскажу ўсю праўду і пра Восава, і пра Гартманаўшчыну.

Міхалюк, заінтрыгаваны, хуценька выключыў тэлевізар і накіраваўся да канапы.

— Дык слухай, — гледзячы некуды ўдалячынь, пачаў стары. — Гэты канец Восава ацалеў у вайну ад пажару з ласкі аднаго нямецкага афіцэра, нейкага Гартмана, які не дазволіў паліцыянтам спаліць усю вёску. Паспеў згарэць толькі той канец, што ад дарогі. Якраз насупраць вёскі на міне, што ноччу падлажылі партызаны, падарвалася нямецкая машына.

Ну, дык вось: паліцыянты і ўзяліся паліць Восава. Яны падпалілі некалькі хат ад дарогі, вецер гнаў полымя, а далей астатнія пачалі загарацца самі. Але вёска была раздзелена на дзве палавіны вялікім выганам, і другі канец таксама трэба было падпальваць. Людзі плакалі, прасілі, каб немцы і паліцыянты злітаваліся. Але паліцэйскі начальнік — людаед Кумулька крычаў: "Паліць! Паліць, яны ўсе бандыты".

Тады нехта з жанчын крыкнуў:

— Бяжыце да Лізаветы. Яна скажа немцу, што мы ніякіх мін не падкладвалі.

Лізавета і сама ўжо бегла на пажар.

— А што гэта за Лізавета такая ўсясільная, што магла спыніць раз'юшаных ворагаў? — пацікавіўся Міхалюк.

— Усясільная, не ўсясільная, але яна была немка і ўмела размаўляць па-нямецку.

— Немка? — здзівіўся Міхалюк. — Тут, у глухой вёсцы, і немка?

— А як жа. Немка, — адхіліўшыся да спінкі канапы, працягваў свой аповед Валяр'ян Канстанцінавіч. — Яе некалі яшчэ ў тую, царскую вайну з Нямеччыны прывёз Мітрафан Вольчын. Яшчэ там, у Нямеччыне, стала ягонай жонкай. Маладая была, прыгожая. Памятаю, як тады ўся вёска збеглася паглядзець на яе, як на дзіва.

І стары пачаў апавядаць, як удалося селяніну, праўда, не дужа беднаму, прывезці ў саламяную вёску прыгажуню-чужаземку.

— Мітрафан быў у немцаў у палоне. Тыя паслалі яго разам з усімі, такімі, як і ён, рабіць у гаспадароў. Хлопец быў дужа прыгожы і гаваркі. Вось і закахалася ў яго гаспадарова дачка. Там яе звалі Эльзай, а у нас пачалі ўжо клікаць Лізаветай. Казалі, што пайшла яна за яго замуж насуперак волі бацькоў. І ўцякла з ім у наша Восава А тут — рэвалюцыя. Так і засталася немка ў нас. Гаспадыня яна была добрая, чысцюля, а неўзабаве загаварыла па-нашаму. Праўда, пасля вайны пажыла нядоўга. Памерла. Усе яе дужа шкадавалі, як родную ўсё роўна.

Міхалюк, разумеючы, што Валяр'ян Канстанцінавіч будзе расказваць і расказваць, вырашыў перапыніць яго, спытаўшы:

— Што было далей, пасля таго, калі прыбегла немка?

— А яна падбегла да афіцэра і пачала гергетаць па-іхняму. Мабыць, пераканала яго ў тым, што гэта мірныя людзі і яны ні ў чым не вінаваты. І афіцэр загадаў не паліць хаты і нават сказаў паліцэйскаму начальніку, каб той разам са сваімі хаўруснікамі пачаў тушыць тыя, што ўжо гарэлі. Харошы быў афіцэр. І звалі яго Гартман. Ён выратаваў многа нашых людзей. Калі партызаны прыйшлі ў Докшыцы, Гартмана схавала ў печы матушка. Пасля ж немцы сагналі ў царкву многіх з тых, хто тады быў у Докшыцах і меліся спаліць жывымі. Але тым часам Гартман выйшаў з бацюшкавай хаты, пагаварыў з немцамі, і яны ўсіх выпусцілі. Разам з тымі людзьмі быў і мой бацька. Ён жа гэтую гісторыю і расказаў.

Стары змоўк, мусіць, палічыўшы, што размова скончана. Міхалюк нецярпліва спытаў:

— А што сталася з тым Гартманам?

— А яго забілі. Ці то немцы, ці то нашы, — сказаў стары. — Людзі рознае баяць. Хто ведае. Калі свае, дык ведалі за што, калі нашы, то, мабыць, не разабраліся. А вось як памяць аб ім засталася — назва выселка Гартманаўшчына.

…Міхалюк падзякаваў дзядулю і паехаў у Восава. Яму вельмі хацелася расказаць усім, хто не ведае, гэтую гісторыю. І Віктару — таксама. Але з Віктарам Касцюкоўскім ён так і не сустрэўся. Той яшчэ раніцай адправіўся ў свой Калінінград.

Мінула 110 гадоў з дня нараджэння гэтага выдатнага беларуса, знанага ў Еўропе опернага артыста, вядомага педагога па вакале, прафесара, уладальніка рэдкаснага лірычнага тэнара. Песняй дарыў ён радасць сваім шматлікім слухачам, і найперш — землякам-беларусам. На жаль, доўгі час яго імя ў роднай Беларусі замоўчвалася, хоць Міхась Іванавіч ні ў чым не быў вінаваты ні перад сваім народам, ні перад радзімай, якую воляю акалічнасцяў пакінуў яшчэ ў дасавецкі час. Праўда, было ў БССР не так і мала людзей, і не толькі ў асяроддзі творчай інтэлігенцыі, якія ведалі яго імя, слухалі яго песні, абменьваліся з ім лістамі. Але сапраўднае вяртанне асобы М. Забэйды-Суміцкага ў наша культурнае асяроддзе адбылося толькі ў 1990-м, калі ў Мінску шырока і ўрачыста адзначылі 90-годдзе з дня нараджэння спевака. Той год быў надзвычай багаты на прэм'еры музычна-інфармацыйных перадач пра яго ў радыёэфіры, на ўнікальныя і эксклюзіўныя публікацыі ў нашым тыднёвіку. Сярод іх, напрыклад, — "Тры лісты пра Забэйду" (гл. "ЛіМ" за 2. 03. 1990 г.), "Загучаў голас Забэйды" ("ЛіМ", 11. 05. 90 г.), "Шчаслівы і трагічны лёс" ("ЛіМ" , 15. 06. 90 г.). У ліку аўтараў публікацый была і Ганна Сурмач, тагачасны дырэктар БДАМЛіМ, дзякуючы якой пражскі архіў спевака трапіў у Мінск. Цалкам, у трох нумарах з працягам, друкавалася і аўтабіяграфія М. Забэйды-Суміцкага ("Песня стала маёй мовай...", пачатак у "ЛіМе" за 15. 06. 90 г.). Змяшчалася нямала архіўных фота розных часоў: Міхась побач з маці, вядомы артыст у оперных партыях, сустрэчы ў Мінску (1963) — з Ларысай Александроўскай, Піменам Панчанкам, Язэпам Семяжонам. Разнастайныя публікацыі пра слыннага земляка з'яўляліся і потым, прынамсі, да 95-годдзя, да 100-годдзя з дня яго нараджэння. Напрыклад, пад назваю "Таямніца" Забэйды" змяшчаўся расповед пра Лёлю Багуцкую, каханую Міхася Іванавіча ("ЛіМ", 7. 07. 95 г.)...

На жаль, з часу сенсацыйнага адкрыцця асобы М. Забэйды-Суміцкага, калі яго імя "легалізавалася" ў друку, а голас зрабіўся ўпрыгожваннем радыёканцэртаў, неўпрыкмет змяніліся і "фармат" эфіру, і культурныя прыярытэты. Узгадавалася маладое пакаленне, якое сёння, па сутнасці, мусіць наноў адкрываць слыннае імя...

Святлана Берасцень, рэдактар аддзела мастацтваў "ЛіМа"

# Тэнар-прэм'ер. Беларус...

## Старонкі жыцця Міхася Забэйды-Суміцкага

Міхась Забэйда-Суміцкі, выдатны беларускі спявак, геніяльны тэнар, якога стоячы сустракалі і праводзілі авацыямі, спяваў у знакамітым міланскім тэатры "Ла Скала", іграў у спектаклях Харбінскай оперы Ленскага, быў салістам Познаньскай оперы, з гастролямі аб'ездзіў шмат краін і гарадоў. Пры гэтым спяваў на 16 мовах свету! А сам ён, між тым, — з беднай сялянскай сям'і, звычайны беларус… Звычайны?.. Не звычайны! Дакладней — незвычайна таленавіты. Таму і дасягнуў такіх вышынь.

Пасля пачатковай школы Міхась Забэйда-Суміцкі скончыў Маладзечанскую настаўніцкую семінарыю. Ваенная завіруха адарвала яго ад роднай зямлі і закінула на Далёкі Усход. У Харбінскім універсітэце М. Забэйда закончыў эканамічнае аддзяленне юрыдычнага факультэта. І толькі ў Харбіне пачаў грунтоўна і сур'ёзна займацца спевамі і музыкай. Вучыўся ў прафесара Юліі Плотніцкай, былой партнёркі па сцэне славутага Фёдара Шаляпіна. У гэты ж час Міхась Іванавіч пачаў выступаць у Харбінскай оперы ў ролях Ленскага ("Яўгеній Анегін" П. Чайкоўскага), Князя ("Русалка" А. Даргамыжскага) і Леля ( "Снягурачка" М. Рымскага-Корсакава).

У 1932 годзе ён пераехаў у Італію, у Мілан — удасканальваць свой голас. Амаль чатыры гады займаўся ў "Ла Скала" пад кіраўніцтвам прафесара Фернанда Карпі, які пасля заканчэння курса даў яму рэкамендацыю, па якой Забэйда застаўся ў Міланскай оперы. Італьянская музычная крытыка дала высокую ацэнку спеваку, параўнаўшы яго з вялікай славай італьянскага мастацтва — тэнарам Цітам Скіпам, а таксама са слаўным рускім тэнарам Леанідам Собінавым.

У 1935-м ён вярнуўся на Бацькаўшчыну, якая на той час была пад польскай уладай, наведаў у Шэпічах сваю маці, з якой не бачыўся 20 год, і пасля некалькіх канцэртаў быў запрошаны салістам у Познаньскую оперу. Пачалі з'яўляцца яго грампласцінкі з запісамі народных песень на беларускай і польскай мовах, якія карысталіся вялікім поспехам. Вядомаму спеваку італьянскай opернай школы шмат абяцалі: і высокія ганарары, і вядучыя партыі, гастролі ў сталіцах Еўропы і Амерыкі, толькі … пры ўмове, што ён нідзе і ніколі не згадае, што ён беларус. "Адмовіцца ад свайго народа, ад роднае мовы — тое самае, што адмовіцца ад маці, — адказваў Забэйда. — Я беларусам нарадзіўся, беларусам і памру!" Давялося лічыцца з тым, што тэнар-прэм'ер — беларус...

У 1940 годзе М. Забэйда-Суміцкі пераехаў у Прагу, дзе і застаўся. Ён горача палюбіў Прагу, якая некалі лічылася кансерваторыяй Еўропы. Тут ён вёў канцэртную і педагагічную дзейнасць. У 1960-х гадах у прэсе пісалі, што з пункта гледжання магутнасці таленту, глыбіні інтэрпрэтацыі і шырыні рэпертуару М. Забэйду-Суміцкага можна паставіць у адзін шэраг з найбольш знанымі майстрамі вакальнага мастацтва.

"Мелодыі нашага народа адкрывалі мне дарогу да людскіх сэрцаў. І хоць гэтая дарога не абяцала мне вялікай кар'еры, я не мог жыць без роднай, без матчынай песні. Я нёс яе ў свет, паказваў яе красу", — пісаў спявак. У 1963 годзе ён прыехаў на гастролі ў родную Беларусь. Выказваў вялікае жаданне пераехаць на пастаяннае жыхарства на Бацькаўшчыну, пра што марыў усё сваё жыццё. Але не атрымалася, не далі дазволу… Памёр ён у снежні 1981 года ў Празе. Нашчадкаў пасля сябе Міхась Іванавіч не пакінуў. Свой архіў і асабістыя рэчы завяшчаў Беларусі.

Ганна Жукава працавала ў Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва Беларусі 26 гадоў. Менавіта яна апрацоўвала архіў спевака:

— Архіў Міхася Забэйды-Суміцкага прыйшоў у Беларусь неўзабаве пасля яго смерці. На той час сама дырэктар архіва Ганна Сурмач ездзіла па асабістыя рэчы спевака ў Прагу. Лёс Забэйды вельмі трагічны. У час вайны яго арыштавала гестапа: хацелі зрабіць дыктарам на германскім радыё, якое вяшчала на Савецкі Саюз. Выратавала толькі тое, што ён цяжка захварэў. Тады Забэйду кімсьці замянілі. Пасля вайны ён ужо не спяваў у оперы, даваў толькі канцэрты, якія праходзілі "на ўра". Наогул, ён быў вельмі адукаваны чалавек: спяваў на 16 мовах свету! Любімая песня на роднай мове "Калыханка". Ён прысвяціў яе сваёй маці і радзіме. Але, нягледзячы на сваю папулярнасць, жыў вельмі сціпла. Акрамя пласцінак ды іншых асабістых рэчаў, ён завяшчаў Беларусі і свой канцэртны раяль, на якім граў для гасцей. Але тады, у 1980-ых, не было каму прывезці інструмент… Так ён і застаўся ў Празе. Адзінае і галоўнае, пра што Міхась Забэйда марыў усё сваё жыццё, — гэта вярнуцца жыць на Бацькаўшчыну. Можна сказаць, што спявак вярнуўся на радзіму праз свой архіў.

"Перада мною ляжыць дакумент: выпіска з метрычнай кнігі аб нарадзіўшыхся ў 1900 годзе. Там напісана, што я "мужскога пола", нарадзіўся першага чэрвеня 1900 года (трэба памятаць, што тады быў у Расіі стары стыль, значыць, па новаму стылю 14 чэрвеня 1900 г.). Бацька мой Іван Андрэевіч Забэйда — селянін з вёскі Несцяровічы, маці Аляксандра Феліксаўна (дзявочае прозвішча Суміцкая) з вёскі Шэпічы... Бацька, як казала мне маці, быў беззямельным селянінам, працаваў дзе мог і як мог... Гаварылі, быў здольны чалавек і прыгожа спяваў. На жаль, памёр, калі мне было толькі паўтара года. Дык рос я без бацькі. Як нам жылося, дык можаце сабе ўявіць з таго, што з семярых дзяцей да старшага ўзросту дажыў толькі я адзін..."



Вось што пісаў некалі Сяргей Грахоўскі ў нарысе "Для песень народжаны", апублікаваным у снежні 1967 года ў газеце "Голас Радзімы": "Заходжу ў невялічкі пакой. Палову яго займае канцэртны раяль, накрыты льняным саматканым абрусам. На ім — ноты, фатаграфіі нашых вядомых артыстаў і паэтаў. Стосы "Полымя" і "Маладосці", кнігі-навінкі беларускай паэзіі і прозы. Міхаіл Іванавіч радуецца, што яго не забываюць даўнія і зусім маладыя сябры: прысылаюць свае кнігі, новыя песні, шчырыя лісты. Гэта падтрымлівае і натхняе да працы. Спявак прагна распытвае пра Беларусь. Міхаіл Іванавіч садзіцца за раяль і пачынае ціха-ціха граць такую знаёмую з дзяцінства "Калыханку". У мелодыю ўплятаецца светлы і натхнёны голас. Відаць, і гаспадар успамінае сцежкі маленства, сіроцкае дзяцінства ў Шэпічах і Несцяровічах. Я прашу яго паспяваць. Міхаіл Іванавіч ставіць адну за другой пласцінкі, ці, як ён казаў, пліткі з запісамі беларускіх песень. Артыст стаіць каля раяля і слухае сам сябе, молада іскрацца вочы, у такт песні ён ледзь прыкметна махае рукою, потым — шырокі ўзмах, назад адкінута галава, і … у пакоі ўжо гучыць дуэт: спяваюць два Забэйды. Такое я чуў упершыню, гэта не забудзецца ніколі".

"Хоць мая маці была непісьменная жанчына, але мяне старалася вучыць. Дзяцей збіралі ў вялікую хату і вучылі "чему-нибудь и как-нибудь". У такую хату два гады хадзіў і я…
Вучыцца я стараўся добра, бо разумеў, як цяжка быць непісьменным. Ды і маці ўсё наказвала: "Вучыся, сынок!", а маці я стараўся слухаць. Я бачыў, як яе часта крыўдзілі, а заступіцца за нас не было каму. Калі яна плакала, і я плакаў з ёю. Каб мяне суцешыць, яна пачынала спяваць. Я пераставаў плакаць і пачынаў ёй падцягваць. Так у песні мы вылівалі сваё гора".





"У маці маёй быў вельмі прыгожы голас — густы, аксамітны, мяккі. Ад маці я пераняў любоў да песні. Ды не толькі любоў: песня стала маёй мовай."

З аўтабіяграфічных запісаў спевака.

Міхась Забэйда-Суміцкі падтрымліваў сяброўскія сувязі з многімі беларускімі паэтамі і пісьменнікамі: Максімам Танкам, Янкам Брылём, Уладзімірам Караткевічам… У архіве, напрыклад, больш як шэсць дзесяткаў лістоў перапіскі з Максімам Танкам. Ды якой!

Пойдзеш мо не раз
па свеце з песняй,
Воплескі рассыплюць
табе градам, —
Але не забудзеш ты Палесся,
Не забудзеш край
свой на эстрадах.

М. Танк

У адказ на радкі паэта Забэйда-Суміцкі распачаў свой ліст ад 21 чэрвеня 1962 года так:

"Хачу, каб мой спеў
даляцеў да Цябе,
Як ён далятае да іншых,
Каб радасць
і шчасце прынёс ён Табе,
Як радасць прыносіць ён іншым…

Дарагі браток Жэня! Бачыш, што робіць тваё пяро? Шчыра дзякую Табе і Тваёй сям'і за віншаванні. Асабліва за верш, які так натхняе мяне.

Прайшло некалькі дзён ад тае хвіліны, калі напісаны былі вышэйшыя радкі. З гэтага часу я атрымаў (нечакана) віншаванні з днём нараджэння не толькі ад знаёмых, але і ад калектыву Акадэміі навук БССР. Быў абрадаваны да слёз… Струны, якія звязалі мяне з Радзімай, памножыліся. Акорды гучаць мацней, званчэй, радасней!.. Так хацелася б, так трэба было б памаладзець! Стараюся, наперакор часу, сабраць свае сілы і здольнасць, каб быць карысным для Радзімы, каб выразіць удзячнасць сябрам і знаёмым за іх давер, за такую вялікую ацэнку маёй скромнай працы.

Прыстасоўваючыся да новых выступленняў, заўсёды ўзгадваю пра Цябе з любоўю, і шкадую, што Ты не можаш мяне чуць. Усім шлю найлепшыя пажаданні і падзяку за віншаванні. Твой М. Забэйда.

P.S. Асобны паклон Янку Скрыгану, кніга якога "Скажы адно слова" мне вельмі-вельмі падабаецца".

Пражская зямля прыняла нашага славутага земляка-спевака на вечны спачын. Аднак Міхась Забэйда назаўсёды застаўся сапраўдным беларусам, верным сваёй Бацькаўшчыне. Нават эпітафія на магіле — па-беларуску: "Беларускі песняр. Жыў песняй. І песняй даваў людзям радасць…"

Уладзімір ПАДАЛЯК
(Паводле матэрыялаў, прадастаўленых БДАМЛіМ)

На здымках: Міхась Забэйда-Суміцкі з народным паэтам Беларусі Максімам Танкам на плошчы Леніна ў Мінску; тамсама — Максім Танк, Міхась Забэйда-Суміцкі, музыказнаўца Тамара Дубкова, народны артыст СССР хормайстар і фалькларыст Рыгор Шырма, Іван Цішчанка. 1963 год.

Філалогія… Даслоўны пераклад наймення гэтай навукі — "славалюбства". У адрозненне ад вядомай чалавечай жарсці, славалюбства ўяўляецца як сфера найпаўнейшага зліцця з аб'ектам любові — словам і, адпаведна, адмаўлення ад сябе — у імя таго, пра што ты пішаш. Сяргей Аверынцаў трактаваў філалогію як "службу разумення", а філолага як каментатара ў шырокім сэнсе гэтага слова. Аляксандр Міхайлаў, развіваючы думкі свайго паплечніка, пісаў аб надзённай патрэбе "адваротнага перакладу" ў мове культур і эпох. У кожнага гэтая мова розная, у кожнага яна свая, і даследчык, калі ён шчыры, мусіць дасканала авалодаць гэтай мовай і перадаць яе чытачу — перакладаючы яе з мовы міфаў, стэрэатыпаў, расхожых меркаванняў, ачышчаючы палімпсест. Для штотыднёвіка "ЛіМ" навуковыя матэрыялы даўно не з'яўляюцца чымсьці экстраардынарным, але цяпер вырашана было разлучыць сёстраў — крытыку і літаратурную навуку. Як вынік — прапануем чытачу новую рубрыку "Ars philologica" (на манер паслання Гарацыя пра мастацтва паэзіі мы рызыкнём абвясціць навучанне мастацтву філалогіі). Фармат рубрыкі не будзе абмяжоўвацца аглядам навуковых выданняў — манаграфій, зборнікаў і г.д. Думаецца, сваё месца тут знойдуць і тэарэтыка-літаратурныя эцюды, літаратуразнаўчыя нататкі, спробы рэальнага каментарыя да беларускай класікі падрабязныя абвесткі пра будучыя філалагічныя канферэнцыі.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# Формула перамогі:
## Вялікая філалогія як сапраўдная паэзія

Леонова, Е.А. Немецкая литература XX века. Германия, Австрия: учеб. пособие / Е.А.Леонова. — М.: Флинта: Наука, 2010. — 360 с.

Сярод усіх жанраў, у якіх сёння ўрэчаўляецца плён літаратуразнаўчай працы, самым "жахлівым", на мой погляд, з'яўляецца жанр вучэбнага дапаможніка. У дадзеным выпадку закавычаны эпітэт заклікаНы засведчыць не схільнасць да парадоксаў, але нежартоўную бездапаможнасць (штосьці падобнае, відаць, адчувае перакладчык пры сутыкненні з беларускай "самотай": як выразіць адным — дакладным! — словам іншай мовы цэлы комплекс сэнсаў, роўны міфу?!). Вучэбны дапаможнік па літаратуры — жанр адказны і надзвычай працаёмкі, пачэсны і пакутлівы; для літаратуразнаўцаў, якія валодаюць выразна індывідуальным стылем мыслення ды маўлення, ён можа стацца чымсьці накшталт пракрустава ложа для салаўя… Хіба недастаткова падстаў, каб жахацца ад самой думкі аб працы над вучэбным дапаможнікам па літаратуры — і вітаць тых, хто насуперак складанасцям рэальным і ўяўным можа святкаваць сапраўдную перамогу над гэтым жанрам.

Да ліку такіх пераможцаў належыць Ева Лявонава — кандыдат філалагічных навук, дацэнт кафедры замежнай літаратуры БДУ. Не маючы магчымасці дэталёва акрэсліць кола яе навуковых зацікаўленняў і прафесійных здзяйсненняў, адзначу ўсё ж, што на мяне выключна вялікае ўражанне колісь зрабіў выдадзены "Мастацкай літаратурай" у 2003 годзе дапаможнік Е.Лявонавай "Агульнае і адметнае: Творы беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя ў кантэксце сусветнай літаратуры": адрасаваны настаўнікам агульнаадукацыйных установаў, аднак нязменна запатрабаваны цягам усяго гэтага часу і вучнямі, студэнтамі, магістрантамі, аспірантамі, выкладчыкамі, навукоўцамі (прычым, не толькі літаратуразнаўцамі).

Нягледзячы на тое, што наступны "адзінаасобны" вучэбны дапаможнік Е.Лявонавай выйшаў толькі праз сем гадоў у Маскве накладам усяго ў 1000 экзэмпляраў, не зважаючы на тое, што мэтавая аўдыторыя выдання "Немецкая литература XX века. Германия, Австрия" ў анатацыі звужана да "студентов филологических факультетов вузов, а также всех, кто интересуется немецкой литературой", можна сцвярджаць: кніга гэтая ўжо зараз можа быць кваліфікаваная і як сапраўдная падзея ў айчынным літаратуразнаўстве, і як не менш сапраўдная перамога на шляху да скарэння адпаведнага жанру вучэбнай літаратуры.

Дапаможнік складаецца з дзвюх частак. Першая ўтрымлівае агляд асноўных літаратурных з'яў мяжы XIX — XX стагоддзяў, а таксама першай і другой паловы XX стагоддзя. Другая частка складаецца з "манаграфічных" матэрыялаў — літаратурных партрэтаў найбольш значных пісьменнікаў Германіі і Аўстрыі акрэсленага перыяду. Мы не ставім перад сабой мэты прадставіць падрабязны аналіз вучэбнага дапаможніка; больш важна расказаць нашаму чытачу, чаму і чым праца па нямецкай літаратуры, выдадзеная ў маскоўскім выдавецтве, каштоўная для яго тутэйшага культурнага быцця.

Е.Лявонава ў сваім дапаможніку (а таксама ў шэрагу артыкулаў, матэрыялаў калектыўных навуковых зборнікаў, манаграфій і г.д.) нястомна ўводзіць у навуковы ўжытак германістаў, а таксама ў "культурны" досвед патэнцыяльнага замежнага (тут: расійскага) студэнта імёны, ідэі ды працы беларускіх філосафаў, літаратуразнаўцаў, творы класікаў нацыянальнай літаратуры і сучасных беларускіх пісьменнікаў. Так, характарызуючы экзістэнцыялізм як філасофскую сістэму і мастацкую з'яву, Е.Лявонава пералічвае сусветна вядомых мастакоў слова, у чыёй творчасці надзвычай заўважная прысутнасць экзістэнцыялісцкіх ідэй, пры гэтым не забываючыся і на пісьменнікаў беларускіх ("Немало точек соприкосновения с экзистенциализмом в произведениях белорусских писателей Василя Быкова и Юрия Станкевича…"). У размове пра тэматыку і паэтыку літаратуры пра Першую сусветную вайну побач з творамі нямецкіх, французскіх, рускіх пісьменнікаў (Э.М.Рэмарка, Л.Селіна, М.Шолахава і інш.) згадваецца і аповесць М.Гарэцкага "На імперыялістычнай вайне". А ў разгорнутым (і, зазначым, надзвычай інфарматыўным ды пранікнёна-асобасным адначасова) аналізе феномена "новай рэчыўнасці" ў творчасці аўстрыйскага паэта Р.М.Рыльке годнае месца адводзіцца і для твораў нашага паэта-філосафа ("С "новой вещностью" Рильке ассоциируются и произведения ряда белорусских поэтов, в первую очередь — Алеся Рязанова (поэмы "Глина", "Камень", "Железо" и др.").

Відавочна, што аўтар вучэбнага дапаможніка асэнсаванне канкрэтных мастацкіх твораў ажыццяўляе на грунце адпаведных — і, што важна, адэкватных прадмету асэнсавання — тэарэтыка-літаратурных, філасофскіх, псіхалагічных, гістарычных, мастацтвазнаўчых тэорый і канцэпцый. Аўтар імкнецца быць максімальна дакладным (наколькі гэта ўвогуле магчыма для літаратуразнаўцы як для прадстаўніка "навук пра дух", паводле В.Дзільтэя), гранічна зразумелым (увесь час трымаючы на ўвазе адрасата сваёй працы) і — па магчымасці — лаканічным ("Невозможно жить, но невозможно и умереть — вот едва ли не универсальная формула для театра абсурда"). Зрэшты, жанравая неабходнасць (і, бадай, унутраная патрэба) выкладаць матэрыял даступна не абмяжоўвае ўласна навуковай творчасці Е.Лявонавай ("Художественный метод Э.Елинек следует определить как своего рода клинический импрессионизм… Или, если угодно, импрессионизм натуралистического толка, фиксирующий не впечатления, не переживания и чувства, а ощущения в нервных окончаниях. Это роман-выплеск, роман-состояние, роман-выговаривание"), не зніжае вартасцей гэтай кнігі як плёну аўтарскага, арыгінальнага і разам з тым аргументаванага асэнсавання і феномена літаратуры Германіі і Аўстрыі канца XIX — XX стагоддзяў, і з'яў сусветнага літаратурнага працэсу акрэсленага перыяду. На зайздрасць (у якой сама мушу прызнацца) многім маладзейшым калегам, чые спробы вытлумачыць нават самыя немудрагелістыя літаратурныя падзеі ды факты нярэдка ўрэчаўляюцца ў дзівосы тэрміналагічнага ракако, Е.Лявонава выкладае сваё разуменне тэарэтыка-літаратурных праблем надзвычай празрыста, нязмушана — і, прынамсі, верагоднасна. Так, указваючы на адсутнасць і ў айчынным, і ў замежным літаратуразнаўстве дакладнай дыферэнцыяцыі тэрмінаў "авангардызм" і "мадэрнізм", аўтар дапаможніка згадвае і пра тое, што ў нашым літаратуразнаўстве на працягу доўгага часу пераважалі ідэалагічныя крытэрыі, з чаго вынікала неабходнасць падзелу нерэалістычнага ("альтэрнатыўнага") мастацтва на "правае" і "левае". Адпаведна, мастакі, якія звярталіся ў творчасці да рэвалюцыйнай, антыфашысцкай, антываеннай праблематыкі, уважаліся за авангардыстаў, а так званыя "апалітычныя" аўтары — за мадэрністаў. Е. Лявонава адштурхоўвацца ад прыярытэту эстэтычнага падыходу да мастацтва слова, прапануе "об искусстве судить по законам искусства"; у такім выпадку, на яе думку, паняцці "авангардызм" і "мадэрнізм" можна лічыць амаль узаемазамяняльнымі: "… с этой точки зрения как Бехер, так и Джойс были реформаторами литературы". Нават у выпадку нязгоды з высновамі Е.Лявонавай, яе меркаванні і фактагогія, якой насычаны дапаможнік, пашыраюць прастору літаратуразнаўчай, крытычнай, увогуле даследчыцкай творчасці любога з чытачоў кнігі — і студэнтаў, і літаратуразнаўцаў, і аматараў мастацтва слова. Важна толькі засвоіць: "не существует литературных направлений, художественных приемов «хороших» или «плохих», принадлежность к реализму или авангардизму, следование традиции или художественное, так сказать, инакомыслие сами по себе совсем не свидетельствуют о наличии или отсутствии таланта у художника". Заклік да эстэтычнай, мастацкай "талерантнасці" ўмацоўваецца спасылкай на Васіля Быкава, які меркаваў, што каштоўнасць твора вызначаецца не столькі спосабам выяўлення (рэалістычным ці нерэалістычным), колькі характарам творцы, сутнасцю яго таленту.

Найбольш выразнай змястоўнай адзнакай рэалістычнай літаратуры Германіі і Аўстрыі другой паловы XX стагоддзя, калі меркаваць па аглядавых і манаграфічных артыкулах вучэбнага дапаможніка, становіцца яе "цэнтрыраванасць" вакол тэмы вайны і антыфашысцкая скіраванасць. Е.Лявонава падкрэслівае: спецыфіка нямецкай антыфашысцкай літаратуры звязана з тым, што нямецкія пісьменнікі ставілі перад сабой мэту найперш асэнсаваць "вину и ответственность гитлеровцев не только перед чужими народами, но и перед




своим собственным". Адсюль вынікаюць і праблемна-тэматычныя асаблівасці нямецкай літаратуры адпаведнага перыяду ("главный персонаж, как правило, не герой, иными словами — не положительное лицо, а, в лучшем случае, жертва нацистской идеологии"), і сюжэтныя ("например, солдат-фронтовик непосредственно в бою изображается редко"). Агульныя канцэптуальныя развагі паслядоўна канкрэтызуюцца, "удакладняюцца" ў артыкулах, прысвечаных творчасці пісьменнікаў Германіі і Аўстрыі ў другой палове XX стагоддзя ("Иоганнес Бобровский", "Франц Фюман", "Герман Кант", "Ганс Вернер Рихтер", "Генрих Бёлль", "Гюнтер Грасс"). Натуральна, нельга сцвярджаць, што для беларускага студэнта (і зацікаўленага чытача ўвогуле) гэты вучэбны дапаможнік Е.Лявонавай цікавы адно тым, што ў ім скрупулёзна і разам з тым маштабна абмалёўваюцца значэнне і сутнасць тэмы вайны ў нямецкай "пасляваеннай" і (часткова) "пасляпасляваеннай" літаратуры. Аднак сама магчымасць рознаўзроўневага і рознавектарнага супастаўлення таго, як вырашаецца гэта тэма ў нямецкай літаратуры і айчыннай прозе вабіць цэлым шэрагам блізкіх адкрыццяў, "прыватных" і "агульназначных": напрыклад, "роман "Остановка в пути" (Г.Канта. — І.Ш.) представляется очень важным в том смысле, что он соединяет в себе углубленный философский взгляд на общее немецкое прошлое с суровым заострением на индивидуальной судьбе, с «нравственной жестокостью к самому себе», как писал А.Адамович".

Другая частка дапаможніка, як ужо згадвалася, прадстаўляе "персанацэнтрычнае" бачанне нямецкай літаратуры XX стагоддзя. Е.Лявонава, здаецца, усвядомлена ідзе на рызыку выклікаць папрокі ў "выбіральнасці" ўвагі да тых ці іншых пісьменнікаў. Варта, на мой погляд, падкрэсліць памянёную наўмыснасць намераў аўтара дапаможніка, у назве якога адсутнічае слова "гісторыя": Е.Лявонава прадстаўляе ўгрунтаванае ў веданні асноўных заканамернасцей і тэндэнцый развіцця ўласнае бачанне нямецкай літаратуры. Абраны фармат дае магчымасць аўтару, застаючыся ў межах літаратуразнаўства як навукі, актуалізаваць і патэнцыял літаратуразнаўства як творчасці. Змешчаныя ў дапаможніку "літаратурныя партрэты" класікаў нямецкай (і сусветнай) літаратуры ўтрымліваюць адзнаку выразнай аўтарскай індывідуальнасці літаратуразнаўцы Е.Лявонавай — і не менш відавочнай яе беларускасці (у дадзеным выпадку — прыналежнасці да нацыянальнай культурнай традыцыі і адданасці ёй не паводле прафесійнай прыналежнасці, але паводле асобаснай ідэнтычнасці). Бадай, любыя прэтэнзіі аўтару вучэбнага дапаможніка "Немецкая литература XX века. Германия, Австрия" наконт "непаўнаты" ці "фрагментарнасці" прадстаўленай літаратурнай панарамы будуць непазбежна суб'ектыўнымі. Так, у артыкуле пра Томаса Мана асабіста мне "не хапіла" больш ці менш разгорнутага аналізу рамана "Чароўная гара", а ў аглядзе "Литература Австрии на рубеже XIX — XX вв." — літаратурнага партрэта Франца Кафкі: гэтаксама наракаеш на імклівасць, няўлоўную няскончанасць, незавершанасць размоў з глыбокім, мудрым, інтэлігентным субяседнікам, нават калі гэтыя гутаркі доўжацца гадзінамі. Затое артыкулы "Райнер Марыя Рыльке" альбо "Петэр Хандке" ў максімальнай ступені наталяюць прагу не толькі інфармацыйную, інтэлектуальную, але і эмацыйна-пачуццёвую, у пэўным сэнсе — "паэтычную". Сюжэтны ды змястоўны "каркас" згаданых (ды іншых) літаратурных партрэтаў па законах жанру вучэбнага дапаможніка ўтвараюць біябліяграфічныя звесткі, рознага кшталту літаратуразнаўчая фактаграфія і аналітычныя назіранні ды высновы: "Антонимичность — одна из определяющих констант в художественной системе Рильке; она присутствует как в структуре стихотворения в целом, так и в структуре отдельного образа, часто сополагающего в себе и адепта той или иной идеи, и ее оппонента". Аднак Е.Лявонава не абмяжоўваецца выштукоўваннем фундаменту ды муроў гэткага замка-музея, у якім той ці іншы пісьменнік мог бы вытрываць асаду часу ды перачакаць безуважнасць сучаснікаў і/ці нашчадкаў. Пісьменнік як гісторыка-літаратурны "персанаж" у артыкулах-партрэтах Е.Лявонавай практычна не мае шанцаў выйсці да чытача "шкілетам", змайстраваным з датаў жыцця, з'яўлення таго ці іншага твора і смерці. Не ахвяруючы аналітызмам, аўтар дапаможніка насычае гісторыка- і тэарэтыка-літаратурную "прозу" адмысловай літаратуразнаўчай "паэзіяй". У пэўным сэнсе, гэтая сустрэча даследчыцкай "прозы" з "паэзіяй" вялікай філалогіі і абумоўлівае адметнасць творчага стылю Е.Лявонавай — яго тэарэтыка-паэтычную дакладнасць: "Повсюду вещи, привычные, бытовые, и — высокие, высшие, последние, и все они вместе — вещь, и весь мир как вещь, единая, целостная ("wie ein Ding"). Все творчество Рильке воспринимается как парадигма этого мира, как развернутая метафора бытия движения, бытия-развития".

Вучэбны дапаможнік "Немецкая литература XX века. Германия, Австрия" хоць і з'явіўся зусім нядаўна, ужо не падсумоўвае спіс значных літаратуразнаўчых падзей, да якіх толькі апошнім часам спрычынілася Е.Лявонава. Так, у Расійскай акадэміі навук пабачыла свет двухтомнае выданне "История австрийской литературы XX века" (I том — 2009 год, II — 2010 год); менавіта ў другім томе змешчаны падрыхтаваны беларускім літаратуразнаўцам вялікі (каля 3 выдавецкіх аркушаў) манаграфічны раздзел, прысвечаны асобе і творчасці Петэра Хандке.

Калі ж меркаваць па творчасці Евы Лявонавай, можна не хвалявацца наконт таго, ці будзе айчыннаму літаратуразнаўству і надалей лёсіць з сапраўднымі перамогамі: вялікая філалогія — сапраўды мастацтва, а сапраўдны мастак — заўсёды пераможца.

Ірына ШАЎЛЯКОВА



У верасні спаўняецца 100 гадоў, як пайшла з жыцця Марыя Канапніцкая — вялікая польская паэтэса, неабыякавая і да лёсу беларускага народа, чыю гісторыю і культуру яна добра ведала. Пасля наведання Гродна ў 1888 годзе ў лісце да паэта Т. Ленартовіча яна пісала: "Тое, што там народзіцца калісьці ў народным асяроддзі, не будзе Польшчай або Літвой, а будзе Беларуссю". Даследчыкі адзначаюць уплыў пісьменніцы на творчасць Янкі Лучыны, Ф. Багушэвіча, А. Гурыновіча, Янкі Купалы, Якуба Коласа і іншых беларускіх аўтараў. Янка Лучына падтрымліваў з Канапніцкай сяброўскія зносіны, ліставаўся з ёю, яна высока ацэньвала яго творчасць. У розны час творы Канапніцкай перакладалі на беларускую мову Альгерд Абуховіч, Зязюля (Т. Гардзялоўская), З. Тжашчкоўская, Гальяш Леўчык, Янка Купала, А. Паўловіч, Язэп Дыла, Зоська Верас, А. Вялюгін, С. Дзяргай, Янка Брыль, Васіль Каваль, В. Сёмуха, Н. Мацяш. Перастворана па-беларуску Янкам Купалам верш Канапніцкай "Сасонка" паклаў на музыку М. Аладаў.




# «Кут бацькаў сэрцам сцеражы...»

Нарадзілася М. Канапніцкая (Konopnicka) 23 мая 1842 года ў горадзе Сувалкі, у сям'і юрыста Юзафа Васілоўскага, чалавека надзвычай рэлігійнага, літаратурна адоранага, схільнага да аскетычнага ладу жыцця.

Пазней М. Канапніцкая згадвала: "Атмасфера нашага дзяцінства вельмі адрознівалася ад той, у якой звычайна жывуць дзеці. Мой бацька быў містыкам... любіў адзіноту і быў адданы сваёй працы і дзецям". Біблія ў перакладзе Я. Каханоўскага, паэзія польскіх сентыменталістаў і рамантыкаў спадарожнічалі дзяцінству будучай пісьменніцы, а захапленне "Конрадам Валенродам" і іншымі творамі А. Міцкевіча яна пранесла праз усё жыццё (М. Канапніцкая прысвяціла яму кнігу "Міцкевіч, яго жыццё і душа").

Сваёй адукацыяй Марыя была абавязана пераважна бацьку (маці, Схаластыка Турская, рана памерла). Цягам году дзяўчына выхоўвалася ў варшаўскім манастырскім пансіёне сёстраў сакраментак. Менавіта ў ім яна пасябравала з Элізай Паўлоўскай (Ажэшка), і з таго часу яны былі звязаныя агульнымі памкненнямі і ідэаламі. У дваццацігадовым узросце Марыя Васілоўская выйшла замуж за Яраслава Канапніцкага. У час паўстання 1863 года яны пераехалі ў Германію: сярод паўстанцаў апынуліся брат і дзядзька Марыі (першы загінуў, другі быў сасланы ў Сібір), у сувязях з паўстанцамі падазраваўся і сам Я. Канапніцкі, таму магчымасць жорсткіх рэпрэсій да яго сям'і была цалкам рэальнай. У 1865 годзе пасля абвяшчэння амністыі Канапніцкія вярнуліся на радзіму.

Дом, шасцёра дзяцей, выхаваннем якіх займалася выключна сама маці, не маглі засланіць астатняга вялікага свету. У лісце да Э. Ажэшкі М. Канапніцкая пісала: "Заўважаеш, што тваё жыццё падобнае да жыцця зачыненай у клетцы птушкі, якая разбівае сваю маленькую галоўку, поўную лясных песенек, аб турэмныя пруты. Сумуеш, прагнеш, гарыш...". Ратавалі кнігі. Сапраўднай падзеяй стала для М. Канапніцкай знаёмства з творамі М. Мантэня; менавіта пасля прачытання яго "Вопытаў" яна, па ўласным прызнанні, "пачала задумвацца" і ўрэшце паспрабавала пісаць сама.

З першымі творамі М. Канапніцкай чытач пазнаёміўся ў сярэдзіне 1870-х (верш "Зімовая раніца", паэма "Вясновы раманс"). Сапраўдным жа яе дэбютам стаў цыкл з дзевяці вершаў-эцюдаў "У гарах" — паэтычныя ўражанні ад падарожжа ў Татры. Усхваляванымі, поўнымі шчырага захаплення словамі адгукнуўся на вершы незнаёмкі, нікому не вядомай аўтаркі, Г. Сянкевіч: адна з газет апублікавала яго карэспандэнцыю з Амерыкі, дзе пісьменнік тады знаходзіўся. Водгук Г. Сянкевіча ўмацаваў М. Канапніцкую ў рашэнні пачаць цалкам новае жыццё. У 1878 годзе яна з шасцю дзецьмі накіравалася ў Варшаву, дзе жыў бацька. Пачалася штодзённая барацьба за выжыванне ў літаральным сэнсе слова: мужа яна пакінула, бацька, на чыю дапамогу спадзявалася, памёр менш чым праз год пасля яе пераезду. Аднак дух М. Канапніцкай заставаўся няскораным. Мара аб служэнні літаратуры, народу, грамадству надавала сіл. У рэдкія гадзіны, вольныя ад урокаў (імі яна зарабляла на жыццё), жанчына нястомна пісала. У розных перыядычных выданнях друкаваліся ўсё новыя яе вершы — "Туга", "У дні самоты", "Credo", "Ці варта" і інш.

Шырокую вядомасць паэтцы прынёс цыкл "Малюнкі" (1879) — вершаваныя навелы, да жанру якіх яна будзе неаднойчы звяртацца і пазней. Асноўным зместам "Малюнкаў" сталі драматычныя лёсы беднякоў — рабочых і сялян, чыя доля "...над сумнаю зямелькай // Ходзіць, ды не свеціць, // І сумліва пазірае, // І крывёй свет квеціць..." (пераклад Янкі Купалы).




Яскравым узорам "малюнкаў" з'яўляецца верш "Вольны найміт". Ён быў напісаны праз 15 гадоў пасля праведзеных у краіне сацыяльна-эканамічных рэформ, якія нібыта мелі на мэце паляпшэнне становішча сялянства, а на справе прынеслі яму адну-адзіную "свабоду" — "захлынуцца плачам" ці "замерзнуць, як рэчка ад лёду".

Назва верша, па сутнасці, аксюмаран, прызначаны завастрыць палемічную скіраванасць "малюнка", паглыбіць яго драматызм, сфакусіраваць чытацкую ўвагу на безвыходным становішчы героя.

Сумныя мелодыі гучаць у творах М. Канапніцкай, напісаных на розных этапах яе літаратурнага шляху. Пра гэта выразна гавораць самі назвы яе паэтычных цыклаў: "Слёзы і песні", "Песні без рэха", "Песні смутку". Тым не менш, асноўны матыў яе вершаў — надзея, што нехта людзям "сцежку ўскажа", якая "весці к шчасцю будзе", што "зорка ясная... пазалоціць хатаў чорных стрэхі саламяны", наваражыць "дзянёчак сонечны і шчасны". Філасофія актыўнага, дзейснага жыцця ўвасоблена ў мностве твораў М. Канапніцкай: у цыклах "Радкі і гукі", "Міцкевічаў дзень", у паэме "Імагіна" (1886 — 1887), у драматычных фрагментах "З мінулага" (1881), адным з герояў якіх стаў Галілей. Канапніцкая распрацоўвае праблемы рэлігійнай маралі ("Без прытулку", "Перазвон") і патрыятызму ("Кут бацькаў сэрцам сцеражы ", — скажа яна ў вершы "Родны дом"), звяртаецца да тэмы нацыянальна-вызваленчай барацьбы польскага народа ("Хадзілі тут немцы"), спавядаецца-разважае аб каханні і шчасці ("Як цябе завуць?", "Будзь блаславёнай, ноч..." і інш.):

...І мучылася і — шчасліваю ж была,  
І з чары залатой раскошу я піла,  
Была ў каханні я бяссілай і натхнёнай.  
Усмешкі шчасця ўсе і безліч горкіх слёз —  
О, будзь усё, што мне наканаваў мой лёс,  
Будзь блаславёна!..  
Пераклад Ніны Мацяш

Асаблівую вядомасць набыў верш "Прысяга" (1908), скіраваны супраць рэпрэсіўнай палітыкі прускіх уладаў; у гады Другой сусветнай вайны гэты верш стане гімнам Войска Польскага.

Заклапочанасцю народным лёсам абумоўлены і мастацкі лад паэтычных твораў М. Канапніцкай. Яны блізкія да народнай песні з яе рэчытатыўнасцю і рытмічнай шматстайнасцю, зачынамі, зваротамі да прыроды, насычаны рэфрэнамі і паралелізмамі. Вершам М. Канапніцкай уласцівыя глыбокі трагізм, незвычайная экспрэсіўнасць, вобразная кантраставасць. Напрыклад, верш "Як ішоў кароль вайною..." (у перакладзе Янкі Купалы — "Як кароль у паход выходзіў...") быў вельмі папулярны далёка за межамі Польшчы. Невялікі па памерах, ён мае характар эпічны — як па змесце, тыповасці ўвасобленых у ім падзей (пакутуюць і гінуць, "кладуцца" на вайне заўсёды простыя людзі, звычайныя, як Стах, ваяры, выйграюць жа войны, пажынаюць лаўры перамогі адно каралі-манархі), так і па паэтыцы, шматлікімі сваімі складнікамі адпаведнай паэтыцы народнай песні, якую Канапніцкая ўспрымала, паводле яе ўласнага выразу, як "дакумент народных пакутаў".

Дом, шасцёра дзяцей, выхаваннем якіх займалася выключна сама маці, не маглі засланіць астатняга вялікага свету. У лісце да Э. Ажэшкі М. Канапніцкая пісала: "Заўважаеш, што тваё жыццё падобнае да жыцця зачыненай у клетцы птушкі, якая разбівае сваю маленькую галоўку, поўную лясных песенек, аб турэмныя пруты. Сумуеш, прагнеш, гарыш...". Ратавалі кнігі. Сапраўднай падзеяй стала для М. Канапніцкай знаёмства з творамі М. Мантэня; менавіта пасля прачытання яго "Вопытаў" яна, па ўласным прызнанні, "пачала задумвацца" і ўрэшце паспрабавала пісаць сама.

Адзін з паэтычных шэдэўраў паэткі — верш "На Куявах" — таксама звернуты да народнай песні з яе найбольш характэрнымі рысамі. Ён пабудаваны настолькі па-майстэрску, што мае эфектам чытацкую прысутнасць, нават міжвольную нашу ўцягненасць у імкліва-віхурны танец куявяка:

На Куявах скрыпка рэжа:  
На абэрак — дзеўка перша!  
Падхаплю цябе за станік,  
Закручу, аж горка стане.  
Ай, бо ўсенька відна з неба,  
Ай, бо ладны бохан хлеба,  
Ай, бо звонкі талер грошай,  
Ай, бо бусенькі харошай!..  
Пераклад Васіля Сёмухі

У многіх творах паэткі з рэалізмам спалучаны рамантызм, што ўзыходзіць да яе вялікіх суайчыннікаў — А. Міцкевіча і Ю. Славацкага, а таксама да любімага пісьменніка Канапніцкай — французскага рамантыка В. Гюго. Магчыма, пад уплывам рамантыкаў яна звярнулася да надзвычай распаўсюджанага ў іх жанру ліра-эпічнай паэмы. "Наша паэзія да той пары не стане сапраўды нацыянальнай, пакуль поруч з "Панам Тадэвушам", гэтай шляхецкай эпапеяй, не ўзнікне эпапея сялянская", — пісала М. Канапніцкая.

Гэткай "сялянскай эпапеяй" і стала яе паэма ў актавах "Пан Бальцэр у Бразіліі" (1892 — 1908). Яна была задумана пасля сустрэч і гутарак паэткі з землякамі-сялянамі, якія, страціўшы ў пошуках лепшай долі на чужыне здароўе і сілы, пахаваўшы ў дарозе ўсіх сваіх дзяцей, дабіраліся на радзіму праз Марсель і Жэневу.

Па мастацкім узроўні гэта адзін з самых значных твораў паэткі. Героі паэмы — каваль Бальцэр і іншыя беднякі, якіх "бяда ліхая" прымусіла эмігрыраваць у Бразілію, асудзіўшы на неймаверныя выпрабаванні. Знясіленыя пакутамі і тугой па бацькаўшчыне, перасяленцы вырашаюць вярнуцца ў Польшчу і ў сябе дома шукаць справядлівасці.

Асноўнае дзеянне паэмы разгортваецца на моры, а таксама ў лясах і гарах Бразіліі, тым не менш, вобраз Польшчы пастаянна прысутнічае ў творы. Да радзімы звернуты шматлікія лірычныя адступленні, у тым ліку заключныя строфы паэмы, што пакідаюць ці не самае моцнае ўражанне. Пераканаўчасць рэалій, моўная дакладнасць у абмалёўцы вобразаў сялян-перасяленцаў, жывапіснасць аповеда — усе гэтыя эстэтычныя асаблівасці цалкам адпавядалі аўтарскай трактоўцы паэмы як сялянскай эпапеі.

Новыя грані таленту Канапніцкай раскрыліся ў яе апавяданнях, першы зборнік якіх — "Чатыры навелы" — выйшаў у 1888 годзе. Тады ж М. Канапніцкая пісала: "Хто ў нашы дні прысвячае сваё пяро народу, той мае перад сабой невычарпальныя багацці новых тэм і народжаных сучаснасцю канфліктаў, болып за тое — цэлы свет і запас драматызму, якога хопіць на ўсю літаратуру". Сапраўды, яе апавяданні — пры ўсёй адданасці аўтара жыццю "маленькага чалавека" — у праблемна-тэматычных адносінах вельмі разнастайныя: Канапніцкая паказвае трагічна-безнадзейную будзённасць існавання сялян і гарадскіх беднякоў (зб. "Мае знаёмыя"), амаральнасць і жорсткасць багацеяў (апавяданне "Міласэрнасць абшчыны"), барацьбу чалавека са стыхіяй (зб. "На Нармандскім беразе"), нацыянальна-вызваленчы рух у Польшчы і ролю ў ім народа (цыкл "Аповесці Савы"). Бліскучым узорам малога жанру ў М. Канапніцкай з'яўляецца апавяданне "З узломам" (1892), прысвечанае жабрацкаму жыццю беларускай вёскі. Фабула апавядання надзвычай драматычная. Суд разбірае справу маленькіх падпаскаў, якіх голад зрабіў "зламыснікамі": яны ўкралі і з'елі сыр і масла, але не асмеліліся дакрануцца да святая святых — хлеба. Суддзі разглядаюць гэты факт іначай: калі на хлеб не паквапіліся, значыць, не настолькі былі галодныя, каб красці. Крадзеж "з узломам" так кваліфікуе суд "злачынства" дзяцей, і ў адпаведнасці з гэтым выносіць суровы вырак. Характэрна, што ў апавяданні "З узломам" М. Канапніцкая — як гэта часта рабіла ў сваёй прозе і Э. Ажэшка — выкарыстоўвае беларускую лексіку. Беларускія матывы маюць месца і ў іншых творах пісьменніцы, у тым ліку ў паэме "Пан Бальцэр у Бразіліі", дзе, поруч з іншымі персанажамі, дзейнічаюць і выхадцы з беларускага Палесся.

М. Канапніцкая вядомая таксама як перакладчыца з чэшскай (Я. Врхліцкі) і нямецкай (Г. Гейнэ, Г. Гаўптман) моў.

Апошнія дваццаць гадоў (з 1890-га) яна жыла па-за межамі Польшчы (з 1902 года — у Галіцыі), наведала Швейцарыю, Аўстрыю, Францыю, Італію. Тым не менш, усё ёю створанае выдавалася на радзіме і мела вялікі поспех. Памерла Марыя Канапніцкая 8 верасня 1910 года ў Львове. Хваласпевам і вялікім жалем напоўнены верш Янкі Купалы "Памяці Мар'і Канапніцкай":

І сышла ты, пяснярка народаў,  
Божы светач жывых пакаленняў,  
Ў новы край невядомага быту  
Ад жыццёвых няпраўд і цярпенняў...  
...Дух твой з светласцяй  
неба сальецца  
І з праменнямі сонца святога  
Слёзы-росы высушываць будзе  
І паказываць к праўдзе дарогу.

Ева ЛЯВОНАВА

Падчас свята беларускага пісьменства ў Хойніках чытачы "ЛіМа" і ўдзельнікі святочных мерапрыемстваў, бадай, пераканаліся, што Гомельшчына вельмі багатая на таленты. Адсюль паходзіць шмат вядомых літаратараў. Значную ролю ў іх фарміраванні адыграў Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Францыска Скарыны. Пра кафедру беларускай літаратуры, дзе не толькі працуюць з сённяшнімі студэнтамі, але і вывучаюць творчасць выпускнікоў, распавядае дацэнт Анжэла Мельнікава. Асобнай згадкі вартыя пісьменнікі, якія нарадзіліся ў Хойніцкім раёне: гонар за Івана Мележа выклікаў агульнае паважлівае стаўленне да літаратуры, рэдкае для так званай глыбінкі. Вынік — цэлая кагорта адметных пісьменнікаў. Успамін пра іх — як водгулле свята…

Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Напрамак характэрны, гомельскі

**Значная праца па вывучэнні жыцця і творчасці славутых творцаў Гомельшчыны праводзіцца кафедрай беларускай літаратуры пад кіраўніцтвам прафесара Івана Штэйнера. Увогуле, рэгіянальныя даследаванні, асэнсаванне творчасці пісьменнікаў Гомельшчыны — адзін з вызначальных напрамкаў дзейнасці кафедры.**

Пачатак рэгіянальных даследаванняў быў закладзены на пачатку 1970 г. вядомым беларускім вучоным, заслужаным дзеячам навукі Беларускай ССР, доктарам філалагічных навук, прафесарам Мікалаем Грынчыкам (1923 — 1999). М. Грынчык стварыў студэнцкую навуковую лабараторыю па фальклоры, дзе збіраліся матэрыялы, запісаныя студэнтамі і выкладчыкамі ў час студэнцкіх практык і фальклорных экспедыцый. Пад яго кіраўніцтвам рэгулярна праводзіліся канферэнцыі па праблемах рэгіянальнага пачатку ў фальклоры, мове і літаратуры.

Сёння рэгіянальнымі даследаваннямі плённа кіруе вучань М. Грынчыка Іван Штэйнер, загадчык кафедры беларускай літаратуры, прафесар. Кафедрай сістэматычна праводзяцца Міжнародныя навуковыя канферэнцыі "Рэгіянальнае, нацыянальнае і агульначалавечае ў літаратуры", удзел у якіх прымаюць вядучыя навукоўцы не толькі Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы, але і славісты Германіі, Харватыі, Сербіі, Чарнагорыі, Славеніі. Дарэчы, чарговая канферэнцыя мае адбыцца ў кастрычніку гэтага года.

Пад кіраўніцтвам Івана Штэйнера ў 2004 годзе падрыхтаваны зборнік эсэ і навуковых артыкулаў, прысвечаных увасабленню Мазыра і Прыпяці ў мастацкай літаратуры, песнях і дакументальнай прозе "Мазыр літаратурны", а таксама фальклорна-этнаграфічны зборнік "Адвечнай мудрасці скарбонка", у якім сабраны ўзоры традыцыйнай народнай творчасці і міфалагічныя ўяўленні жыхароў "сталіцы Палескага краю".

У 2007 годзе пабачыла свет двухтомнае выданне "Речица. Литературно-духовное наследие региона", дзе разглядалася творчасць пісьменнікаў Рэчыцкага раёна. У 2009 годзе выйшла кніга "Дняпроўскія матывы", прысвечаная асэнсаванню творчасці пісьменнікаў, ураджэнцаў Гомельскага Падняпроўя. Гэта першая з шасці запланаваных кніг. У кожнай кнізе мяркуецца асэнсаваць творчасць пісьменнікаў пэўнага рэгіёна Гомельшчыны і самога горада. Так, у "Дняпроўскіх матывах" разглядаецца творчасць як беларускамоўных, так і рускамоўных пісьменнікаў, якія ў розныя часы праявілі сябе ў творчасці. Усяго пададзена 77 творчых партрэтаў пісьменнікаў шасці раёнаў Гомельшчыны.

Сёння падрыхтавана чарговая манаграфія Івана Штэйнера "Прыпяцкая рапсодыя", у якой прадстаўлены творчыя постаці пісьменнікаў Жыткавіцкага, Петрыкаўскага, Калінкавіцкага, Мазырскага, Ельскага, Нараўлянскага, Хойніцкага раёнаў Гомельскай вобласці. Серыя з'явіцца своеасаблівым даведнікам па літаратуры Гомельшчыны.

Пры кафедры беларускай літаратуры працуе краязнаўчая навуковая лабараторыя "Гомельшчына літаратурная", чытаецца аднайменны спецкурс.

Гомельскі дзяржаўны ўніверсітэт нездарма носіць імя Францыска Скарыны. Універсітэт мае сталыя літаратурныя традыцыі.



Загадчык кафедры беларускай літаратуры прафесар І. Ф. Штэйнер у адной са сваіх кніг піша: "З чаго складаецца імідж навучальнай установы, яе ўспрыманне ў навуковым і культурным свеце, нарэшце, вядомасць і слава? Са старажытных сценаў, што перажылі стагоддзі і былі сведкамі векавой эвалюцыі чалавецтва? Са змрочных скляпенняў бібліятэк і кніжных сховішчаў, дзе спачываюць фаліянты ў пергаментна-драўляных вокладках? А можа, славу ўніверсітэта складаюць сівыя (і не вельмі) акадэмікі і прафесары (у мантыях і без іх), пра якіх так любяць апавядаць вясёлыя гісторыі і анекдоты? Але хутчэй за ўсё сапраўдную славу Alma mater прыносяць яе выпускнікі".

Гісторыя нашай літаратурнай Alma mater бярэ пачатак яшчэ з 1930-х. Тут вучыліся Іван Шамякін, Леанід Гаўрылаў, Мікола Сурначоў, Кастусь Кірэенка, Паўлюк Пранузa. Некаторыя з іх атрымалі дыпломы ў першыя дні Вялікай Айчыннай вайны і загінулі, абараняючы радзіму. Гомельскі ўніверсітэт даў літаратуры такіх адметных творцаў: як лаўрэат Дзяржаўнай прэміі М. Башлакоў, В. Ярац, А. Сыс, А. Зэкаў, В. Куртаніч, А. Казлоў, М. Даніленка, Р. Андрэявец, Т. Мельчанка, Н. Шклярава, Э. Акулін, І. Багдановіч, Л. Раманава, А. Мельнікаў, С. Балахонаў.

Пад рэдакцыяй Івана Штэйнера ў 1998 годзе была выдадзена анталогія лірыкі выпускнікоў ГДУ "Крыніцы", "напісаныя аўтарамі ў студэнцкія гады або тэматычна звязаныя з горадам юнацтва, з універсітэтам". Вучоны падаў гісторыю літаб'яднання "Крыніцы", што ўжо некалькі дзесяцігоддзяў працуе пры кафедры. Сёння ёй кіруе вядомы наш паэт, дацэнт Віктар Ярац. Прадмова да анталогіі — "Крыніцы светлага юнацтва" — крытычны агляд здабыткаў пісьменнікаў вядучай ВНУ Гомельшчыны. У прадмове пададзены цікавыя, часам невядомыя звесткі пра творчасць нашых паэтаў: "Цяпер ніводная славянская анталогія ваеннай паэзіі ўжо не можа адбыцца без славутай балады М. Сурначова "У стоптаным жыце"). Невыпадкова сам аўтар "Василия Тёркина" перастварыў яе на рускую мову і трагедыйныя радкі твора загучалі ў суладдзі з радкамі "Его зарыли в шар земной".

Гісторыя літаратурнай "гомельскай школы" мае некалькі этапаў, узлётаў. Чарговымі, пасля ваеннага, сталі ўваходзіны ў літаратуру новай паэтычнай генерацыі: Т. Мельчанкі, Н. Шкляравай, А. Дуброўскага, С. Крупенькі, М. Башлакова, В. Яраца, В. Стрыжака. Наступным этапам у гісторыі літаратурнай "гомельскай школы" стала творчасць А. Сыса, А. Казлова, В. Куртаніч, І. Багдановіч, Э. Акуліна, А. Бяляцкага. 90-я гады — чарговая хваля таленавітых творцаў: Л. Раманава, А. Мельнікаў, З. Вінаградаў, З. Сасноўскі, С. Балахонаў, В. Цярэшчанка. Нашы спадзяванні сёння на В. Грынь, Н. Маркевіч, А. Бараноўскага, В. Агееву.

Да 80-годдзя Гомельскага ўніверсітэта быў выдадзены зборнік "Alma mater universitatis", гэта — не паўтарэнне папярэдніх выданняў, а новае пераасэнсаванне твораў выпускнікоў ГДУ, дапоўненае цікавымі ўспамінамі пра гады навучання, пачынаючы з успамінаў І. Шамякіна. Іван Пятровіч з цеплынёй узгадваў колішняга рэктара ГДУ акадэміка Б. Бокуця: "Шчыры беларус, ён заваражыў мяне веданнем роднай літаратуры … Па ініцыятыве Б. Бокуця мы заключылі няпісаную дамову: у пачатку кожнага навучальнага года ва ўніверсітэце — літаратурны вечар. Сакратар Саюза пісьменнікаў, я падбіраў брыгаду паэтаў, празаікаў, крытыкаў — чалавек 10-12. Праводзіўся агульнауніверсітэцкі вечар, надзвычайны па сваім змесце, форме, цеплыні, з якой сустракалі нас студэнты, выкладчыкі, кіраўніцтва горада".

Анжэла МЕЛЬНІКАВА,
дацэнт кафедры беларускай літаратуры ГДУ імя Францыска Скарыны

# Узняцца на крылы таленту…

**Госці і ўдзельнікі святкавання Дня беларускага пісьменства у Хойніках пераканаліся, што тут жыве добрая памяць пра пісьменнікаў-землякоў. Шмат хто з іх добра вядомы сучаснаму чытачу, пра кагосьці ж варта і нагадаць, бо, безумоўна, у творчасці кожнага аўтара ёсць свае здабыткі…**

З Хойнікшчынай у беларускага чытача маюць найперш атаясамляцца імёны такіх класікаў роднай літаратуры, як Іван Мележ і Барыс Сачанка. Творчасць гэтых пісьменнікаў разглядаецца ў грунтоўных навуковых працах, іх унёсак у беларускую літаратуру бясспрэчна вялікі. Хто ж яшчэ з літаратараў нарадзіўся і вырас на Хойнікшчыне?

Між пісьменнікаў, якія на сёння таксама адышлі ў нябыт, — Змітро Бяспалы і Алесь Шлег. Зм. Бяспалы доўгі час быў рэдактарам часопіса"Родная прырода", пісаў апавяданні для дзяцей, прысвечаныя беларускай фаўне. У яго кароткіх гісторыях размова ідзе то пра прыручаную сойку, то пра нечаканую сустрэчу з мядзведзем, то пра лёс птушынага гняздзечка… Творы напісаныя спакойна і светла — настрой, па якім пазнаецца эпоха савецкай літаратуры, — але адчуваецца, што аўтар сапраўды шчыра і клапатліва любіў прыроду сваёй краіны, імкнуўся навучыць гэтаму сваіх маленькіх чытачоў. Беларускія выдавецтвы імкнуцца падтрымліваць сучасных аўтараў дзіцячай літаратуры, але не варта забывацца і на створанае раней. Зборнік перавыдадзеных апавяданняў Зм. Бяспалага з добрымі, якаснымі ілюстрацыямі было б цікава і зараз пачытаць разам з дзецьмі на дачы альбо ў лесе…

Апошні раман А. Шлега "Сталінскія байструкі" (1990 г.) — цікавая спроба прааналізаваць жыццё ў сталінскі час. Насельнікі ПТВ-шнага інтэрната адмаўляюцца падпарадкоўвацца жорсткаму дырэктару – былому следчаму органаў. Гэтая "палітычная акцыя" прыпадае на смерць Сталіна, а адкрыты фінал рамана (ля "паўстанцаў" доўга едзе варанок і хлопцы трымцяць ад думкі "Будуць браць, ці не?") пакідае шматкроп'е ў разважаннях пра змены ў палітычнай сістэме краіны. "Нібы і клапоцяцца: бясплатна кормяць, апранаюць, вучаць, у санаторый во накіроўваюць, але робяць гэта так, што… завыць хочацца," — заўважае галоўны герой. А. Шлег піша рэзка і натуралістычна; у адрозненне ад раманаў сучасных аўтараў, дзе герой засяроджаны на адзінай (часцей за ўсё, асабістай) праблеме, гэты твор — выдатны прыклад раскрыцця шэрага ўзаемазвязаных тэм. Сем'і хлапцоў зачапілі вайна і рэпрэсіі, герояў хвалююць праблемы адносін з бацькамі і сябрамі, праблемы грамадства і асабістых стасункаў.

Вельмі жорсткімі падаюцца і творы Барыса Пятровіча ("Жыць не страшна", 2008 г.), асабліва прысвечаныя тэмам вайны, п'янства, несумленнага кахання, зняважання чалавечай душы. Дзякуючы жанравай, тэматычнай, стылёвай разнастайнасці кнігу сапраўды цікава чытаць, кожны твор пакідае асобнае ўражанне, і чытачу сапраўды будзе над чым задумацца…

Лідзія Адамовіч — празаік таксама з Хойнікшчыны. Яе аповесць "Кветкі самотнай князёўны" была б цікавай для сучасных дзяўчын-студэнтак: ёсць тут і расповед пра сённяшняе моладзевае жыццё, і гісторыя няжернай каханкі князя Вітаўта… У лёсе маладых герояў надта шмат шлюбаў, здрадаў, абортаў, некаторыя ўчынкі персанажаў кепска стасуюцца з іх характарамі (псіхалагічныя недакладнасці не ўласцівыя, прыкладам, раманам І. Мележа: сучаснаму чытачу, магчыма, бракавала б багатай вобразнасці, затое дзеянні герояў заўсёды канкрэтна прадуманыя). Вырашэнне маральных праблем сучаснасці пісьменніца бачыць у звароце да рэлігіі: Алёнка з дзяўчынкі, што захапляецца моднымі джынсікамі і макіяжам, робіцца манахіняй, а адзіны варты хлопец Антось ідзе ў святары…

Вядомыя сёння паэты з Хойнікшчыны – Ала Канапелька і Мікола Мятліцкі. У зборніку А. Канапелькі "Летазлічэнне" шмат удалых вершаў, цікавых вобразаў ("Плыткі плыт мой каханы зрабіў/ і пусціў па рацэ./ Дожджык восеньскі — золкі, рабы,/ мне сячэ па шчацэ"; "Накіну на плечы карункі —/ цень вербаў зялёных/ ад леташняй летняй дарогі…"; "Трава распрамляе сляды/ мае і чужыя"…). Істотна, што паэтэса піша не толькі пра праблемы міжасабовых стасункаў, але і пра родны край, Чарнобыль, стварае філасофскую лірыку.

Апошні на сённяшні дзень зборнік М. Мятліцкага — "Замкнёны дом", дзе, як відаць з назвы, дамінуючай з'яўляецца чарнобыльская тэма. Вось-вось паэт павінен атрымаць сваю новую кнігу – у чаканні ж яе М. Мятліцкі дзеліцца ўражаннямі пра сваё літаратурнае юнацтва. Бо невыпадкова М. Мятліцкі, А. Канапелька, Л. Адамовіч, Б. Пятровіч — аўтары фактычна аднаго пакалення (нарадзіліся ў 1950-х — пачатку 1960-х гг.). Пэўна ж, былі на Хойніччыне спрыяльныя ўмовы для творчага развіцця…

Паводле слоў паэта, дзякуючы славе І. Мележа, якім вельмі ганарыліся землякі, да пачынаючых аўтараў ставіліся на Хойнікшчыне з вялікай павагай. Маладыя паэты, якія друкавалі свае вершы ў раёнцы, былі вядомымі людзьмі, удзельнічалі як у вясковых святах, так і ва ўрачыстасцях, што ладзіліся ў Хойніках.

Вельмі моцным з'яўлялася літаб'яднанне "Крылы", якое ў пачатку 1970-х — канцы 1960-х гг. існавала пры Хойніцкай раённай газеце. Узначальвалі яго мясцовыя паэты Алесь Мікалайчанка і Мікола Гамянкоў, раз на два месяцы прыязджаў з Гомеля паэт Міхась Даніленка. Вельмі ўражвалі моладзь сустрэчы з самім І. Мележам, які наведваў мясцовыя школы, гасцюючы ў сваякоў. Любілі літаратуру і настаўнікі Хойніцкага раёна.

Згадваючы "Крылы", М. Мятліцкі заўважае, што творчасць сяброў літаб'яднання была разнастайнай: для кагосьці была актуальнай грамадзянская тэма, хтосьці пісаў пра прыроду. Геаграфія ж мясцовасці розная: адна вёска стаіць над самай Прыпяццю, другая ля лесу, дзесьці лесу зусім няма, а да ракі ажно 40 км — што не можа не адбівацца на характары вершаў.

Шмат хто з сяброў літаб'яднання ў будучыні стаў прафесійным журналістам, вышэйзгаданыя аўтары працягваюць займацца прыгожым пісьменствам. Варта думаць, што літаратурная слава Хойнікшчыны паспрыяе з'яўленню новых мясцовых пісьменнікаў…

Алеся ЛАПІЦКАЯ

## Служэнне паэзіі працягам паўвека

# Дарога да Беларусі

**Сярод англамоўных перакладчыкаў беларускай літаратуры асоба Веры Рыч унікальная. Англійскай паэтэса, перакладчыца і рэдактар належыць найбольшая колькасць англійскіх перастварэнняў беларускіх аўтараў. Беларуская літаратура для Веры была не прафесійным заняткам. Гэта было адданае служэнне даўжынёй больш як 50 год. Яна стала голасам Беларусі для англамоўнага свету, найбуйнейшым перакладчыкам-папулярызатарам беларушчыны на Захадзе — не маючы пры гэтым ніякіх славянскіх каранёў. У адрозненне ад іншых перакладчыкаў, Вера імкнулася заўсёды змясціць каментары, спасылкі, што тлумачылі англамоўнаму чытачу спецыфічныя асаблівасці беларускага жыцця. Толькі адною ёй зроблена своеасаблівая паэтычная "анталогія" англійскіх перакладаў беларускіх творцаў — з каментарыямі і класіфікацыяй па перыядах.**



Нарадзілася Вера (Фэйт Элізабет Рыч) 24 красавіка 1936 года ў Лондане. Шлях яе станаўлення як перакладчыцы беларускай паэзіі неардынарны. Ён, як узгадвала Вера пазней, пачаўся з наведвання беларускай каталіцкай місіі ў Лондане ў сямнаццацігадовым узросце падчас экскурсіі моладзі з яе мясцовай царквы. Сустрэча з групай уніяцкіх святароў, якая заснавала інтэлектуальны цэнтр беларускай дыяспары, зрабіла вялікі ўплыў на жыццё і творчасць перакладчыцы. Да апошняга часу Вера была членам беларускай уніяцкай царквы і спявала ў царкоўным хоры. Менавіта так пачала яна вывучаць беларускую мову. Тады ж прыйшло і жаданне займацца перакладамі. На той час В. Рыч ужо пачала засвойваць славянскія мовы — рускую, украінскую, польскую. Праграма Оксфарда, дзе Вера вучылася ў каледжы Св. Хільды, уключала таксама і вывучэнне стараанглійскай і стараісландскай моў. Ёй пачалі прапаноўваць пераклады з украінскай паэзіі і неўзабаве яна паспрабавала перакласці і беларускія вершы. Зацікаўленасць рознымі мовамі і паэзіяй узмацнялася ў час навучання В. Рыч у Бедфардскім каледжы ў Лондане. Разам з уласнымі вершамі ў сваім першым зборніку (1960) яна змясціла пераклад "Песні званоў" — урывак з першай часткі Коласаўскага "Сымона-музыкі" — невялікая кніга, прысвечана дзядулі і бабулі В. Рыч і змяшчае дваццаць пяць вершаў і два пераклады (другі з іх — "Каўказ" Т. Шаўчэнкі). Зборнік мае выразныя рысы наследавання "азёрнай школе" англійскіх рамантыкаў, што праявілася і ў перакладах.

У 1962 г. В. Рыч засноўвае паэтычны часопіс Manifold ("Разнастайнасць"), які рэдагуе і выдае да мая 1969 года. Часопіс лічыўся адным з найлепшых з шасці "невялікіх" паэтычных часопісаў у Брытаніі і на момант закрыцця меў 900 падпісчыкаў, амаль палова з якіх былі жыхарамі ЗША. У перакладзе Веры Рыч тут з'явіліся творы Максіма Багдановіча ("Мае песні", "Апокрыф"), Янкі Купалы (вялікая падборка вершаў), Максіма Танка ("Рукі маці"), Анатоля Вярцінскага ("Маленькі домік"), Ларысы Геніюш ("У начным"), Янкі Сіпакова ("Зялёнае воблака на рынку"), Анатоля Вялюгіна ("Лясное возера"). Часопіс быў аднаўлены ў 1998 г., і менавіта ў ім В. Рыч друкавала свае апошнія пераклады: у тым ліку — варыянты перастварэння некаторых вядомых багдановічаўскіх вершаў, пераклады паэзіі З. Бядулі.

Прыпыненне выхаду часопіса было выклікана практычнымі чыннікамі. У 1969 годзе буйнейшы прыродазнаўчы штотыднёвік Nature ("Прырода") прапанаваў В. Рыч пасаду савецкага і ўсходне-еўрапейскага карэспандэнта. Гэтая праца была ўспрынята Верай як "часовая", аднак зацягнулася больш чым на дваццаць гадоў. Часу на напісанне асабістых вершаў і на пераклады заставалася менш. Аднак і ў гэтых умовах праца над перакладамі працягвалася. Пэўна, можна правесці паралель паміж В. Рыч і адным з яе любімых паэтаў для перакладу — М. Багдановічам: абодва марылі пра Беларусь, жывучы далёка ад яе (нягледзячы на сваю пасаду "савецкага і ўсходне-еўрапейскага карэспандэнта", В. Рыч так і не здолела прыехаць у Беларусь да сакавіка 1991 года).

1971 год стаў даволі значнай вехай у жыцці В. Рыч — у гэтым годзе пад эгідай ЮНЕСКА выходзіць яе кніга — паэтычная анталогія Like Water, Like Fire: An Anthology of Byelorussian Poetry from 1828 to the Present Day ("Як вада, як агонь: Анталогія беларускай паэзіі ад 1828 г. па сённяшні дзень"). Анталогія — з'ява значная з пункта гледжання рэпрэзентацыі беларускай літаратуры англамоўнаму чытачу. Увогуле, гэта першая анталогія беларускай паэзіі на англійскай мове. Падругое, гэта не проста збор твораў, але і пэўная гісторыя беларускай літаратуры, пададзеная ў творах, да якіх далучаны тэарэтычны агляд і каментарыі. Нават на гэты момант аналага такой анталогіі для замежнага чытача, у якой так дакладна і дэталёва распавядалася б пра Беларусь, яе гісторыю, культуру і літаратуру, не існуе.

Фактычна, большасць тых, хто цікавіцца нашай літаратурай на Захадзе, ведае толькі менавіта анталогію В. Рыч: так, па сведчанні Лявона Юрэвіча, "усім вядомыя, стаўшыя ўжо амаль класічнымі, пераклады вершаў Багдановіча на англійскую мову, зроблены спадарыняй Верай Рыч, чыя анталогія "Як агонь, як вада" і сёння з'яўляецца ўнікальным выданнем; прычым унікальным і ў станоўчым плане — сваёю якасцю, ахопам, гэтак і ў адмоўным — тым, што яна адзіная".

**Фактычна, большасць тых, хто цікавіцца літаратурай на Захадзе, ведае толькі менавіта анталогію В. Рыч: так, па сведчанні Лявона Юрэвіча, "усім вядомыя, стаўшыя ўжо амаль класічнымі, пераклады вершаў Багдановіча на англійскую мову, зроблены спадарыняй Верай Рыч, чыя анталогія "Як агонь, як вада" і сёння з'яўляецца ўнікальным выданнем; прычым унікальным і ў станоўчым плане — сваёю якасцю, ахопам, гэтак і ў адмоўным — тым, што яна адзіная".**

Сапраўды, "ахоп" і энцыклапедычнасць ведаў і звестак, пададзеных у кнізе, вельмі шырокі. Анталогія — вынік 18-гадовай працы перакладчыцы, своеасаблівае падагульненне яе дзейнасці — уключае ў сябе 208 найменняў (сюды, аднак, уваходзяць не проста вершы, але і паэмы — напрыклад, купалаўскі "Курган", дастаткова вялікія ўрыўкі з "Новай зямлі" Я. Коласа і "Сцяга брыгады" А. Куляшова). Пасля кожнага раздзела падаюцца каментарыі, тлумачацца некаторыя рэаліі, асаблівасці іх перакладу ці прыводзіцца апісанне некаторых з'яў беларускай культуры.

У 1970-х і 1980-х гадах быў перыяд, калі Вера не толькі перакладала, але і ўдзельнічала ў барацьбе за правы чалавека (асабліва за свабоду слова ў СССР). У тым жа 1971 г. выйшаў яе пераклад з рускай мовы "Запісак Мядзведзева" (The Medvedev Papers), у якім выкрывалася засілле савецкай цэнзуры і абмежаванне свабоды навукоўцаў.

Нарэшце ў 1982 годзе выйшла другая кніга перакладаў В. Рыч — TheImages Swarm Free: A Bi-Lingual Selection of Poetry by Maksim Bahdanovich, Ales Harun and Zmitrok Biadula ("Снуецца зданяў рой: Двухмоўны збор паэзіі Максіма Багдановіча, Алеся Гаруна і Змітрака Бядулі"), выдадзеная Арнольдам МакМілінам з дапамогай Англа-беларускага таварыства ў Ліверпулі. Кніга змяшчае шмат новых перакладаў твораў паэтаў. А сама Вера, па яе словах, была "па горла занятая журналістыкай і правамі чалавека — гэта быў час сахараўскай ссылкі і акадэмічнага байкоту Савецкага Саюза...".

Пасля выхаду кнігі праца В. Рыч як перакладчыцы, а таксама крытыка працягвалася. У 1985-м была апублікавана кніга The Image of the Jew in Soviet Literature: The Post-Stalin Period ("Вобраз яўрэя ў савецкай літаратуры: постсталінскі перыяд", Нью-Ёрк). Кніга, па сутнасці, — дзве асобныя манаграфіі: невялікі агляд рускай літаратуры, напісаны Якубам Блумам, і значна большы — па беларускай літаратуры, што належыць В. Рыч.

У 1996 г. ёю былі перакладзеныя некаторыя эсэ з кнігі дзіцячых успамінаў пра Чарнобыль "След чорнага ветру", якія пазней былі пастаўленыя юнацкімі тэатрамі Гомеля, Абердына і Клермон-Ферана (апошнія два — гарады-пабрацімы Гомеля) на фестывалі ў Абердыне з нагоды 10-годдзя аварыі на ЧАЭС. Праз два гады пасля гэтага аднаўлены "Маніфолд" узяў за сваю асноўную мэту друк высакаякаснай паэзіі ў любым традыцыйным або прагрэсіўным стылі на любым варыянце англійскай мовы, а таксама (час ад часу і без перакладу) на асноўных еўрапейскіх мовах (французскай, нямецкай, італьянскай, іспанскай, лацінскай. Акрамя "Маніфолда" пераклады Веры выходзілі таксама і ў розных паэтычных анталогіях, шматлікія вершы былі змешчаны ў Інтэрнеце на сайце Пятра Казаты.

З нагоды юбілею Купалы і Коласа ў 2002 г. у Мінску выйшла кніга санетаў Купалы ў перакладах на некалькі моў: Yanka Kupala. Sanety. In Belarusian, English, Spanish, German, Polish, Russian, Ukrainian and French. Англійскія варыянты ў зборніку належаць В. Рыч.

Праз два гады пасля санетаў выходзіць новая кніга перакладаў: анталогія сучаснага беларускага верша на англійскай мове Poems on Liberty, у якой прадстаўлена творчасць сучасных беларускіх паэтаў. Яшчэ праз год, калі я працавала над стварэннем дыска з перакладамі беларускай літаратуры Belarusian Literature in English Translations: 100 Authors, 500 Works ("Беларуская літаратура ў англійскіх перакладах: 100 аўтараў 500 твораў") пад эгідай ЮНЕСКА ў Цэнтральнай бібліятэцы Янкі Купалы, Вера актыўна падключылася да перавыдання сваіх перакладаў, якія, па большасці, не пераглядаліся ёю з 1970-х гадоў. У знак сваёй павагі да перакладчыцы гонар напісаць прадмову да дыска я аддала Веры Рыч. Прадмова, па большай частцы ўзятая з кнігі «Як вада, як агонь», была перапрацаваная ёю за ноч падчас нашай сустрэчы ў Вільні летам 2005 года. Вера вельмі перажывала за якасць перакладаў і хацела ўдасканаліць і перапрацаваць іх. Мы вырашылі выпусціць невялікі наклад і даць ёй час на карэкціроўку, каб у далейшым пераклады былі, як ёй хацелася, ідэальнымі. Аднак часу не засталося...

Наступная наша сустрэча адбылася ў 2008 годзе падчас канферэнцыі з нагоды 200-годдзя з дня нараджэння В. Дуніна-Марцінкевіча. Вера і тут выступіла наватарам: да канферэнцыі быў выдадзены англійскі пераклад "Пінскай шляхты" (Pinsk Gentry). Кніга "Класіка", у якой ён змешчаны, утрымлівае "Пінскую шляхту" ў арыгінале, а таксама ў перапрацоўцы на сучасную беларускую мову, англійскую, нямецкую, польскую і рускую. Далучаны да яе "Тарас на Парнасе" К. Вераніцына мае яшчэ нават большую колькасць моўных варыянтаў: беларускі, англійскі, балгарскі, іспанскі, нямецкі, польскі, рускі, украінскі. Па словах Веры Рыч, якая выступіла перакладчыкам і асноўным стыльрэдактарам, пераклад быў зроблены ёю і Дамінікам Янушкевічам і ажыццяўляўся з аўтэнтычнага тэксту. Рэдактарская праўка і зверка дыялектызмаў з дапамогай слоўніка адняла ў яе — пры наяўнасці ўжо гатовага тэксту — шэсць месяцаў. Руплівая праца Веры відавочная і дакладнасць перадачы аўтарскага тэксту здзіўляе.

Падчас сустрэчы Вера дзялілася сваімі планамі выдання перакладу "Вянка" М. Багдановіча і паэмы "Новая зямля" Я. Коласа. Апошнюю ёй марылася выдаць ў вядомым выдавецтве класічнай літаратуры, каб англамоўны свет змог прачытаць беларускі шэдэўр. Аднак гэтая мара не спраўдзілася. 20 снежня 2009 года Веры не стала...

Акрамя перакладаў з беларускай мовы, В. Рыч таксама належаць тры кнігі перакладаў з украінскай паэзіі, а таксама пераклады з польскай, старанарвежскай і стараанглійскай моў. За сваю плённую працу на працягу сарака гадоў на карысць украінскай літаратуры ў маі 1998 г. Саюз пісьменнікаў Украіны ўзнагародзіў В. Рыч прэміяй імя Івана Франко. А ў 2007 годзе яна атрымала ордэн Св. Вольгі за сваю перакладчыцкую працу ў галіне ўкраінскай літаратуры.

Вера Рыч падаравала нам высакаякасныя пераклады беларускай паэзіі на англійскую мову. Яе ператлумачэнні адлюстроўваюць паэтычнае майстэрства, вызначаючыся захаваннем формы арыгінала, дасканалым веданнем беларускіх культурных сімвалаў і глыбокім адчуваннем аўтарскага намеру. Наспела патрэба ў перавыданні яе перакладаў асобнай кнігай, каб аддаць даніну павагі той, хто стала голасам Беларусі для ўсяго свету.

Святлана СКАМАРОХАВА

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае шчырае і глыбокае спачуванне пісьменніку, доктару гістарычных навук, прафесару Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава Русецкаму Аркадзю Уладзіміравічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці ЖОНКІ.

Віцебскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне вядомаму пісьменніку, доктару гістарычных навук, прафесару Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава Русецкаму Аркадзю Уладзіміравічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці ЖОНКІ.



Бог — дзіўны жартаўнік. Вінсэнт Ван Гог, які атрымаў першую пазітыўную ацэнку сваіх работ ажно ў год смерці, у 1890 годзе, ніколі не быў у Дзяржаўным музеі Вінсэнта Ван Гога ў Амстэрдаме. Музеі, дзе акрамя карцін мастака, ёсць крама, запоўненая турыстамі з усяго свету. Кофтачкі і цішоткі з рэпрадукцыяй карцін Вінсэнта. Люстэркі, кубкі і талерачкі. Паштоўкі, календары, магніты, пеналы і торбы — таксама ж. А ўваход у музей — 14 еўра.





# Шалёныя нідэрландцы Ван Гогі

## Гісторыя стварэння музея ў Амстэрдаме

Тэа Ван Гог смерць старэйшага брата Вінсэнта перажываў з адчаем. І сам памёр праз паўгода. А жонка Тэа Іана Ван Гог-Бонгер засталася з нованароджаным сынам Вілемам ды творамі тады яшчэ зусім не вялікага мастака Вінсэнта. “Не маюць мастацкай каштоўнасці ягоныя палотны!”, — гэтак большасць экспертаў думала. Але ж Іана дбайна прасоўвае карціны на вочы людскія. У 1905 годзе нарэшце была арганізавана выстава ў музеі Стэдэйлік. За два месяцы карціны праглядзелі 2000 чалавек. Аднак Рэйксмузеум, галоўны музей Нідэрландаў, адмаўляецца прыняць ад жанчыны творы мастака ў падарунак. Затое з іншых еўрапейскіх музеяў ды галерэй прыходзяць запрашэнні. У 1914 годзе, пасля гадоў руплівага рэдагавання, адважная Іана выдае трохтомнік – перапіска братоў Вінсэнта і Тэа. Цяпер грамадскасць ведае пра мастака Ван Гога так шмат! Зрэшты, ужо ў тыя гады шалёна працавіты нідэрландскі творца атрымаў годнае імя “бацька постімпрэсіянізму і экспрэсіянізму”.

Сын Іаны і Тэа, пляменнік Вінсэнта Вілем тым часам сталее. І, пасля смерці маці ў 1927 годзе, разумны інжынер, ён працягвае яе справу. Мінула Другая сусветная вайна — і Вілем дамогся ад уладаў стварыць фонд Ван Гога, на грошы якога і распачалося будаўніцтва музея. І вось у 1973 годзе ў Амстэрдаме з’явілася цікавая выбітнасць — музей сусветна вядомага творцы. На сённяшні дзень у ім знаходзіцца 200 палотнаў Вінсэнта, 500 малюнкаў, каля 800 лістоў. Там жа цэнтр па вывучэнні творчасці Ван Гога. Побач з “дзіцяткамі” харызматычнага нідэрландца тут пасяліліся і карціны ягоных сучаснікаў — К. Манэ, П. Пікасо, П. Сіньяка, П. Гагена. Дзве карціны Вінсэнта “Прыхаджане, што наведваюць рэфармацкую царкву ў Нюэвене” і “Від на мора ў Схевенінгене” ў 2002 годзе былі скрадзеныя.

У амстэрдамскім музеі творцы, які вырашыў стаць мастаком у дваццаць сем і прамаляваў усяго толькі дзесятак гадоў, можна назіраць, як змяняюцца стылістыка, колеры, настроі на ягоных палотнах. “Якія ядуць бульбу” 1885 года — ранні, спакойны твор цьмяных колераў. Гэтая карціна вісела над камінам ягонай маці. І смелае, насычанае, як жнівень, экспрэсіўнае “Пшанічнае поле з крумкачамі” 1890 года — апошняе, што стварыў шалёны палкі мастак. “Міндаль у квецені” ў духу жывапісу Японіі, падараваны колісь Іане і Тэа з нагоды нараджэння Вілема...

## «Залаты кактус» імя Тэа Ван Гога Другога

Тэа, унук Вінсэнта Вілема — таго самага, чыімі дбаннямі музей заснаваны — быў сапраўдным Ван Гогам. А гэта значыць — таленавітым і працавітым. У год ён здымаў па фільме, пісаў кніжкі і эсэ, вёў штотыднёвую калонку ў бясплатнай газеце “Метро”. Тэа Ван Гог Другі быў славутым персанажам багемна-інтэлектуальных бараў Амстэрдама, вясёлы і дзёрзкі, здольны да гарачых спрэчак.

Урад Нідэрландаў выдаткоўвае мільёны на барацьбу з паленнем, а Тэа Ван Гог стварае сайт “Здаровы палільшчык”. У Нідэрландах жыве шмат тысяч мусульманаў, а Тэа Ван Гог публічна ганьбіць “ісламскі фашызм”. Краіна — у стане крызісу з этнічна-культурнай ідэнтыфікацыяй, а ён… тэлесерыял “Наджыб і Джульета” здымае! Пра каханне ўладальніка мараканскай піцэрыі і нідэрландскай спартсменкі…

Апантаны творчасцю, Тэа Ван Гог Другі абураўся, што карціны дзядулі былі перададзеныя дзяржаве. Гэта ж фільмы можна было б цэлае жыццё здымаць на грошы тыя!..

2 лістапада 2004 года рэжысёр і пісьменнік быў застрэлены маладым галандцам мараканскага паходжання. За што? А за дакументальную стужку “Пакора” пра ролю жанчыны ў мусульманскім свеце. Здаецца, вясёлага Тэа не дужа турбавалі ананімныя лісты і званкі. І ён усё гэтак жа свабодна працягваў перамяшчацца па Амстэрдаме на сваім ровары.

“Залаты кактус” — так завецца прэмія ў гонар Тэа Ван Гога, што ўручаецца на Міжнародным фестывалі ў Ратэрдаме.



## Гаага — горад на беразе Паўночнага мора

Сланечнікава-жытнёвая радзіма Ван Гогаў Нідэрланды — памерам з Мінскую вобласць. У сталіцы Амстэрдаме, з насельніцтвам 700 тысяч, турысты ўпадабалі не адзін музей сусветна вядомага мастака. Нідэрландцы ўмеюць несці выяўленчае мастацтва ў народ. Паштоўкі, паштоўкі, паштоўкі з карцінамі мастакоў прадаюцца паўсюдна.

Ёсць у краіне другая неафіцыйная сталіца, у якой пасялілі ўрад і парламент. Гаага — горад на беразе Паўночнага мора з насельніцтвам усяго 500 тысяч. Такое яно маленечкае і мілае гэтым, Каралеўства Нідэрланды. Была ў Гаазе рэалістычная школа жывапісу (1860 — 1890 гады), да якой адносяць і Ван Гога. Славутыя французскія барбізонцы — вось з кім сугучны рэалізм Гаагі XIX стагоддзя. Ёзэф Ізраэлс, Вілем Рулофс, Антон Маўвэ, Хендрык Месдаг…

А яшчэ Нідэрланды — радзіма таемнага Босха і Рэмбранта ван Рэйна, філосафаў Эразма Ратэрдамскага і Спінозы. Кінарэжысёраў Ёса Сцелінга (“Ілюзіяніст”, “Стрэлачнік”) і дзяўчынкі Ганны Франк — аўтаркі нашумелага дзённіка, што загінула ў фашысцкім канцлагеры.

Кацярына БЕЗМАЦЕРНЫХ
Нідэрланды — Беларусь

На здымках: Тэа Ван Гог Другі; Джозеф Ізраэльс “Мы старэем”; Рэйксмузеум — галоўны музей Нідэрландаў; чарга ў музей Ван Гога.

Фота аўтара

## У наступным нумары

Ці ведаеце вы ў якім з музеяў Беларусі захоўваецца старажытнаегіпецкая статуэтка “Ушэпці”? Дзе можна пабачыць рэшткі першага драўлянага водаправода і незвычайны каменны ідал XI ст.? У наступным выпуску краязнаўчай рубрыкі “Зямля пад белымі крыламі” мы распачынаем новы праект, у межах якога раскажам пра гэтыя і многія іншыя рэдкія і загадкавыя экспанаты, што захоўваюцца ў фондах музеяў Беларусі. Да ўдзелу запрашаем усе краязнаўчыя музеі краіны. Калі ў вашым музеі ёсць прадметы з незвычайнай гісторыяй, звяртайцеся да рэдактара рубрыкі Марыны Весялухі па электронным адрасе: himarina@tut.by

З глыбінкі

## Свае, вясковыя, артысты

Гарачым жнівеньскім днём у клуб на свята вёскі Ладараж Пінскага раёна сышліся не толькі яе жыхары, але і з’ехаліся госці з некаторых гарадоў, суседніх вёсак, а таксама кіраўніцтва Ласіцкага сельвыканкама, СВК “Ласіцк”, прадстаўнікі райвыканкама, фальклорны калектыў “Весялуха” з вёскі Жоўкіна.

Гэтым разам значная частка праграмы святочнага мерапрыемства была прысвечана ўшанаванню мясцовага фальклорнага калектыву “Ладаражаначка”, якому сёлета споўнілася 25 гадоў. Дарэчы, гэтая мілагучная назва замацавалася за калектывам крыху пазней, калі на адным з канцэртаў шчырая народная песня ды звонкія жаночыя галасы паланілі душы аднавяскоўцаў і хтосьці са слухачоў у захапленні выгукнуў: “Брава, ладаражаначкі!” Так сама сабою нарадзілася і назва самадзейнага гурта.

Падчас канцэрта ў гонар юбіляраў выказвалася шмат добрых слоў, чыталіся прысвечаныя ім вершы, выконваліся жоўкінскімі “весялухамі” песні, кожнай юбілярцы ўручаліся падарункі. Не засталіся ў даўгу і “ладаражаначкі”: кожная з іх праспявала паасобку і хорам не адну песню, распавёўшы перад гэтым, як і чаму патрапіла ў фальклорны калектыў.

Сабрала спявачак у адзін самабытны гурт улюбёная ў народную песню, маладая, поўная энергіі і натхнення загадчыца сельскага клуба Тамара Паляйчук, якая кіруе калектывам і па сённяшні дзень. Тады ж, летам, у далёкім 1985-м будучыя ўдзельніцы фальклорнага хору ператрэслі куфэркі сваіх матуль і бабуль з дзявоцкім скарбам, павыцягвалі адтуль даматканыя сарочкі, андаракі, фартушкі, падабралі аднолькавыя каляровыя хусцінкі і пачалі збірацца ў клубе на рэпетыцыі, рыхтавацца да Дня вёскі. Цяпер у калектыве налічваецца 11 спевакоў, а ў рэпертуары — да 50 песень.

Са сваімі тэатралізаванымі абрадамі “Шчодрык”, “Каляды”, “Куста”, “Зажынкі”, “Дажынкі”, “Каравай”, “Вяселле” калектыў выступаў на раённых і абласных аглядах-конкурсах, у Мінску — на ІІІ этнаграфічным канцэрце “Вясновы фальклор”, у Польшчы — на ІV Міжнародным фестывалі “Па маёвай расе”. Майстэрства спявачак усюды адзначалася граматамі, дыпломамі, памятнымі падарункамі.

Надзея ПАРЧУК

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь

ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”

РВУ “Літаратура і Мастацтва”

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ





Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73

Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73

E-mail: lim_new@mail.ru

Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by



Набор і вёрстка камп’ютэрнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.

Друкарня Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.

Індэкс 63856
Наклад 2946
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 9.09.2010 у 11.00

Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 4334

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 0024-6686